ЛіМ
Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№50 (4645) 16 снежня 2011 г.





Калонка рэдактара

# Простыя рэчы

Калі я ўпершыню ўзяла ў рукі "ЛіМ"? Нават і не ўзгадаю цяпер. Але дакладна скажу, што было гэта ў 90-я гады мінулага ўжо стагоддзя. Якраз тады, калі вырашаўся лёс нашай краіны, калі справы літаратурныя і дзяржаўныя аказаліся непарыўна звязанымі, калі пісьменнікі перасталі ствараць оды "пра Леніна і партыю", а выказвалі тое, што іх хвалявала: пісалі пра жыццё народа, а значыць — кожнага з нас. І з таго часу "ЛіМ" стаў для мяне без перабольшвання той самай "мерай усіх рэчаў", бо яго стваралі і ствараюць людзі, неабыякавыя да таго, якім будзе наша жыццё і наша літаратура.

Для некага мой прыход на месца Аркадзя Куляшова, Міколы Гіля, Алеся Пісьмянкова, Алеся Карлюкевіча і іншых слынных пісьменнікаў ды грамадскіх дзеячаў можа падацца выклікам: маўляў, што яшчэ можна зрабіць пасля гэтых людзей?!

Я і не збіраюся адпрэчваць ні каліва зробленага маімі папярэднікамі. Калі ўзяць хаця б апошнія пяць гадоў, то пералік дасягнутага можа расцягнуцца на ўсю гэту паласу! Але галоўнае — "ЛіМ" і па сёння застаецца "газетай творчай інтэлігенцыі Беларусі", ён не стаў "рупарам" нейкіх палітычных арганізацый, саюзаў, прытулкам графаманаў ці закрытым клубам творцаў.

На адной з апошніх сустрэч з бібліятэкарамі Мінска я пачула выказванне: "Калі бібліятэкар не чытае "ЛіМа", ён не мае права працаваць!" Вось — вынік працы маіх папярэднікаў. Вось тое, што нельга згубіць, — давер тых, хто будзе раіць нашу газету іншым.

Так, зроблена багата: напрацаваныя сувязі і з бібліятэкамі, і з установамі культуры ды адукацыі. І няхай падпіска, якую сёння мае "ЛіМ", — гэта не 150 000 асобнікаў "Літаратурной газеты", аднак для нас мае значэнне кожны з нашых чытачоў. Менавіта па іх просьбах мы больш распавядаем пра сучасныя беларускія кнігі, імкнёмся паведаміць пра культурныя падзеі ў кожным рэгіёне, даём прастору для выказвання самых розных думак пра стан нашай літаратуры. Канцэпцыя "ЛіМа" не мяняецца — мяняецца час, і трэба рушыць з ім поруч, не баючыся памыліцца і не шкадуючы пра зробленае, слухаючы і чуючы сваіх сяброў ды апанентаў.

І яшчэ... На мінулых выхадных я апынулася ў невялічкай кавярні непадалёк ад двух мінскіх універсітэтаў: БДУ і БДПУ. Хлопчык, на выгляд зусім першакурснік, які святкаваў штосьці са сваімі сябрамі, прымусіў мяне прыслухацца — ён прамаўляў: "Свет складаецца з дробязей: калі ты паклапоцішся пра іх — усё будзе добра… Калі кожны на сваім месцы — ад прыбіральшчыцы да дырэктара — зробіць сваю справу добра, то ўсё будзе добра. У маёй фірме будзе сем чалавек, але яны будуць працаваць, іх нельга будзе звольніць і не заўважыць…" Яго сябры згодна ківалі. А хлопец прадаўжаў: "Мой бацька — фрэзероўшчык на заводзе, але пасля змены ён сядзіць са слоўнікамі, чытае замежныя выданні, каб даведацца пра тое, як працуюць у іншых краінах…"

Калі гэтыя простыя рэчы разумеюць нават першакурснікі, то мне не трэба даводзіць іх вам, шаноўныя чытачы "газеты творчай інтэлігенцыі Беларусі". Як і тое, што "ЛіМ" ствараецца намі для кожнага з вас. А значыць — трэба проста рабіць сваю справу добра!

**Тацціна СІВЕЦ**

17 снежня — Дзень беларускага кіно

# Падтрымка гарантавана

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

**Прыняты нядаўна Указ № 576 "Аб мерах па дзяржаўнай падтрымцы і стымуляванню развіцця кінематаграфіі" мае на мэце даць новы імпульс гэтай галіне. Пракаменціраваць яго мы папрасілі генеральнага дырэктара Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Алега Сільвановіча.**



*Фота Аляксандра Дзмітрыева. Калаж Віктара Калініна*

**— Алег Ігаравіч, што кардынальна зменіцца, калі пачне дзейнічаць новы ўказ?**

— Пачнём з таго, што з'явіўся гэты дакумент не на пустым месцы — ён рыхтаваўся на працягу некалькіх гадоў і прадстаўляе сабой лагічнае завяршэнне вывучанага вопыту, грамадскай думкі. Ён еўрапеізуе ўсю кінагаліну, прыводзіць яе ў гарманічную адпаведнасць з еўрапейскай кінавытворчасцю. Сёння законам дакладна вызначаны прынцыпы і механізмы дзяржпадтрымкі. Рэвалюцыйнасць у тым, што дзяржпадтрымка прадастаўляецца на конкурснай аснове. Незалежна ад формы ўласнасці кінавытворцы могуць прэтэндаваць на атрыманне грошай для стварэння кіно. І гэта павінна стымуляваць новыя сілы кінематаграфіі Беларусі. З іншага боку, манаполіі "Беларусьфільма" прыйшоў канец. І гэта нармальна. Любая замкнёная сістэма без прытоку свежых сіл пераўтвараецца ў балота. Так, гэта гарманічная экасістэма, але яна існуе толькі для захавання сябе. Падпісанне ўказа — моцны штуршок звонку, які парушыў "спакой".

**— Што ў першую чаргу падтрымае дзяржава?**

— Праекты, якія маюць дачыненне да мастацкай культуры, ідэйна і сацыяльна значныя.

Будуць падтрымлівацца дзяржавай на 100 працэнтаў праекты для дзіцячай аўдыторыі, што прапісана ва ўказе. І гэта мудра. Дзіцячы фільм немагчыма прадаць тэлеканалам, таму што існуе норма, паводле якой яго трансляцыя не павінна перарывацца рэкламай, а тэлеканалы, як вы ведаеце, жывуць за яе кошт. Так што адразу вытворчасць дзіцячых стужак асуджана на складанасці фінансавання і пошуку партнёраў.

Анімацыя будзе падтрымлівацца да 100 працэнтаў, бо на ёй зарабіць амаль што нельга. Анімацыя кароткіх фарматаў — непракатная, яна для тэлебачання, інтэрнэт-сетак. І разлічваць, што зборнік анімацыйных фільмаў выйдзе ў кінапракат і заробіць грошы, не варта. У той жа час гэта сфера нацыянальнага кінамастацтва, якая павінна існаваць, тым больш з такім высокім патэнцыялам, як у беларускіх аніматараў. Сёння ёсць вельмі таленавітыя кадры, якім мы будзем ствараць умовы для працы — нягледзячы на тое, што ў частцы памяшканняў "Беларусьфільма" ідзе рэканструкцыя.

Асноўная канкурэнтнасць адразу праявіцца ў сферы дакументалістыкі: у краіне каля 10 прыватных дакументальных студый. Прыняцце ўказа можа рэзка павялічыць іх колькасць. Яны менш затратныя, аператар можа быць і рэжысёрам. Пры наяўнасці даволі яркага героя фільм можа атрымаць грамадскае прызнанне. Таму неабходна аб'яднаўваць рэсурсы. Запушчаны праекты з латвійскімі дакументалістамі, з французскімі.

Што датычыцца ігравога кіно — стопрацэнтная падтрымка нацыянальным праектам (важным старонкам гісторыі нашай дзяржавы, якія павінны быць адлюстраваны ў высокаідэйным, высокамастацкім фільме). Усе астатнія могуць атрымаць да 70 працэнтаў. Але мы ўжо сёння ўваходзім у праекты на 15, 27, 40, 50 працэнтаў.

Моцным стымулам здымаць добрае кіно будзе і зацверджанае ўказам вяртанне 50 працэнтаў прадзюсарскіх рызык, калі стужку праглядзяць больш як 80 тысяч кінааматараў краіны.

(Заканчэнне на стар. 2).

## Пункцірам

✔ Святкаванне 120-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча працягнецца ў Беларусі і за яе межамі ў 2012 годзе. Пра гэта паведаміў намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі на пасяджэнні рэспубліканскага арганізацыйнага камітэта па правядзенні мерапрыемстваў да юбілею класіка, якое праходзіла ў памяшканні Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Сярод юбілейных мерапрыемстваў, перанесеных на 2012 год, — устанаўленне ў Гродне помніка паэту і рэстаўрацыя дома ў Траецкім прадмесці Мінска, дзе нарадзіўся класік.

✔ У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

✔ У Маскве прайшла маладзёжная гісторыка-культурная сесія Садружнасці Незалежных Дзяржаў. У склад беларускай дэлегацыі ўвайшлі найбольш актыўныя ўдзельнікі праектаў, рэалізаваных на тэрыторыі краін Садружнасці ў гэтым годзе, абвешчаным у СНД Годам гісторыка-культурнай спадчыны. Усяго ў сесіі бралі ўдзел прадстаўнікі 11 дзяржаў.

✔ Выстаўка, прысвечаная 20-годдзю Садружнасці Незалежных Дзяржаў, адкрылася ў Мінску. На ёй прадстаўлены асноўныя дакументы Садружнасці, друкаваная прадукцыя і кнігі, узоры ганаровых знакаў СНД. На чатырох стэндах размешчана інфармацыя па асноўных кірунках супрацоўніцтва: эканамічным, гуманітарным, ваенным і прававым.

✔ Нобелеўскі фонд і муніцыпалітэт Стакгольма падпісалі дамову пра стварэнне Цэнтра Нобелеўскай прэміі, дзе маглі б сустракацца лаўрэаты прэміі, навукоўцы і проста цікаўная публіка. Цэнтр будзе пабудаваны ў сэрцы шведскай сталіцы. Ён стане садзейнічаць распаўсюджванню ідэй гуманізму і міру. Конкурс на лепшы праект будынка будзе праведзены восенню наступнага года. Будаўніцтва скончыцца ў 2018 годзе.

✔ Копія ўнікальнага габелена XVII стагоддзя "Наданне княжацкага тытула Мікалаю Радзівілу Чорнаму" зойме ганаровае месца ў Нясвіжскім палацы пасля завяршэння ў ім работ па рэстаўрацыі і рэканструкцыі. Арыгінал габелена калісьці ўпрыгожваў інтэр'еры палаца ў Нясвіжы. Цяпер ён захоўваецца ў польскім музеі ў Нябораве. Да работы над копіяй габелена былі далучаны лепшыя майстрыхі Барысаўскага мастацкага камбіната.

✔ Магілёўскі і Беларускі дзяржаўны ўніверсітэты падпісалі дамову пра супрацоўніцтва. У дакуменце прапісана больш як 30 пазіцый: абмен студэнтамі і выкладчыкамі, павышэнне кваліфікацыі магілёўскіх выкладчыкаў на базе БДУ, сумесны ўдзел у міжнародных праектах, абмен інавацыйнымі распрацоўкамі ў сферы адукацыі і іншыя.

✔ У Мінску праходзіць Чацвёрты фестываль фільмаў "Чалавечая годнасць, роўнасць і справядлівасць". Ён арганізаваны сумесна з Прадстаўніцтвам ААН у Беларусі, Прадстаўніцтвам Еўрапейскага саюза ў Беларусі і пры садзейнічанні пасольстваў Францыі, ЗША, Велікабрытаніі і Кітая.

✔ II Фестываль этнакультурных традыцый "Кліч Палесся" пройдзе восенню 2012 года ў аграгарадку Лясковічы Петрыкаўскага раёна. Мяркуецца, што гэтым разам фестываль не толькі прадэманструе багацце рамёстваў і традыцый народнай творчасці Палесся, але зробіць і своеасаблівы экскурс у гісторыю іх развіцця ад старажытнасці да сучаснасці.

**Падрыхтавала**
**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

# Падтрымка гарантавана

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).**

Новае прававое поле дазволіць беларускім кінематаграфістам разлічваць на атрыманне кінапрадуктаў зусім іншай якасці, больш матываваных, мэтазгодных з эканамічнага пункту гледжання, сарыентаваных на аўдыторыю. Фокус-групы, якія мы праводзім ужо сёння, дазваляюць зразумець, што ты не маеш права запускаць стужку, не ведаючы меркавання кінагледача. Сённяшняя аўдыторыя — пытанне вельмі складанае. Трэба пашыраць узроставы цэнз — і гэта праблема датычыцца не толькі беларускага, але і сусветнага кінапракату. Колькасць гледачоў — прадзюсарскія рызыкі. Пры росце касавых збораў у свеце ідзе падзенне наведвання кіназалаў. Інтэрнэт з онлайнавымі кінатэатрамі ўваходзіць не толькі ў моду, але і ў практыку, пачынае адцягваць на сябе частку глядацкай аўдыторыі. Другі фактар — доля гледачоў ва ўзросце ад 40 гадоў, якія здольны ўспрымаць мастацкі складальнік фільмаў. У Амерыцы іх 39 працэнтаў, а ў Расіі — 10. Думаю, у Беларусі лічбы на ўзроўні Расіі, калі не менш. Гэта статыстыка сведчыць, што кінапракат пачынае працаваць з аўдыторыяй па прынцыпе атракцыёна, ён сарыентаваны на гледача 16 — 25 гадоў.

**— Якія яшчэ з'явяцца дадатковыя стымулы для прыцягнення сродкаў у кінавытворчасць?**

— На кінавытворчасць будуць прадастаўляцца крэдыты на льготных умовах, а ўладар маёмасных правоў на фільм у долі бюджэтных сродкаў — Міністэрства культуры — можа перадаць іх (у тым ліку бясплатна) стваральніку фільма, пры ўмове, што атрыманы прыбытак пойдзе на кінавытворчасць, прасоўванне фільмаў да гледача, умацаванне матэрыяльнай базы.

Пашырыўся спектр падтрымкі — не толькі на кінавытворчасць, але і на друк зыходных матэрыялаў, дыгіталізацыю фондаў, захоўванне і ўтрымліванне кіна-, фотаматэрыялаў і да т.п. На падтрымку ўдзелу беларускіх фільмаў у фестывалях, кінапракаце. Гэта таксама вельмі прагрэсіўна. Важны момант: указам прадугледжаны льготы па крэдытах, якія можна ўзяць у беларускіх банках, і дзяржава гарантуе, што пагашэнне часткі працэнтнай стаўкі крэдыту яна бярэ на сябе. Часта на завяршэнне фільма не хапае параўнальна з агульным яго бюджэтам невялікіх грошай — да паўтара мільёна долараў (рэальна 100 — 250 тыс.). Дзякуючы ўказу сёння гэта перастае быць праблемай.

**— Партнёраў кінастудыі не спыняе ўмова, што выкананне ўсіх работ павінна адбывацца на тэрыторыі Беларусі, а ў склад здымачнай групы ўваходзіць 70 працэнтаў грамадзян рэспублікі?**

— Ад 20 да 30 расійскіх праектаў задзейнічаюць нашы паслугі, а калі ўлічыць, што яны здымаюць да 100 — 110 фільмаў на год, то "Беларусьфільм" удзельнічае тым ці іншым чынам у вытворчасці 20 працэнтаў расійскага ігравога кіно. У нас ёсць цэнавая зона, якая іх задавальняе, у нас ёсць ментальнасць, якая іх задавальняе, у нас ёсць прафесіяналы, якія іх задавальняюць. Так, гэта не мастакі-пастаноўшчыкі, але ў гэтых стужках задзейнічаны беларускія акцёры.

Вялікую колькасць праектаў нам прапаноўваюць, ведаючы, што калі ў дамове напісана "Беларусьфільм", — значыць, фільм будзе зроблены. Ёсць шмат праектаў, якія былі запушчаны ў розных краінах і не былі скончаны. Мы гарантуем вытворчасць. Гэта моцны аргумент для інвестараў.

Нам выгадна, калі праектаў будзе шмат, каб больш было задзейнічана здымачных груп, студыя больш працавала як фабрыка, большая колькасць беларускіх акцёраў магла рэалізавацца, нашы менеджары маглі папрацаваць у розных мадэлях фільмаў — еўрапейскай, расійскай і інш. Сёння прапановы маем ад "Арменфільма", "Ленфільма", Украіна прапануе сумесныя праекты, Нідэрланды хочуць паставіць у нас казку — фальклорныя еўрапейскія матывы. Не супраць працаваць з намі і амерыканскія — не галівудскія, а незалежныя — кінематаграфісты. Штогод па чатыры-пяць праектаў мы рэальна можам запускаць у вытворчасць.

Дзякуючы ўказу я разумею, як трэба дзейнічаць далей. І разам з тым — што жыць будзе больш складана, але цікавей.

Дзяржава паказвае — стварайце сферу, насычайце яе свежай крывёй. Цяпер улада кінематаграфістам нічога не павінна, апрача маральнай падтрымкі.

## Творцы

# Эстрада: якою яна ёсць

**Упершыню ў Беларусі адбыўся новы праект — "Нацыянальная музычная прэмія ў галіне эстраднага мастацтва". З ініцыятывай аб яго правядзенні выступілі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне". На гала-канцэрце ў Палацы Рэспублікі шчаслівым пераможцам уручана статуэтка-сімвал прэміі — зорка, у промнях якой угадваецца сімвал музычнай творчасці (чароўная нотка).**

Зрэшты, у гэтай нататкі маглі б быць і іншыя назвы, кшталту: "Зімовая «Троіца»" — пераможцам у намінацыі "Лепшы гурт года" названая якраз "Троіца". Альбо — словамі з назвы аднаго са спецыяльна запрошаных на гала-канцэрт гуртоў — "No comment…". Сапраўды, эстрада пры канцы 2011 года паўстала такой, якою яна ёсць: з яе здабыткамі і купінамі, з намінацыямі "лепшы аўтар музыкі" замест "лепшы кампазітар" і "лепшы аўтар слоў" замест "лепшы паэт-песеннік". Насамрэч, эстрада — гэта тая пляцоўка, на сцэне якой агрэсіўна спрачаюцца павевы часу з успамінам пра традыцыйную класічнасць. Але падзею, як слушна заўважыў старшыня журы, народны артыст Беларусі Анатоль Ярмоленка, чакалі ў Беларусі больш як 20 гадоў. Упершыню прадставілася магчымасць назваць імёны выдатных спевакоў і сучасных творцаў. Варта адзначыць таксама бездакорную падрыхтоўку гала-канцэрта і выдатную яго задуму: канверты з імёнамі пераможцаў уручалі вядучым кожны раз новыя калектывы, якія прадстаўлялі розныя віды мастацтваў: песеннага, танцавальнага, музычнага, балетнага, цыркавога, роспісу па тканіне і нават гутарковага: пры ўдзеле зборнай каманды КВЗ БДПУ.

На ўдзел у спаборніцтве было пададзена 545 заявак — на 16 вакантных месцаў ды 6 спецыяльных прызоў. І членам журы, у якое ўвайшлі 16 чалавек, па прызнанні намесніка генеральнага дырэктара ЗАТ "Сталічнае тэлебачанне" Паўла Каранеўскага, галасаваць было цяжка. Вось такое, амаль музычнае, шматгалоссе.

Такім чынам, Нацыянальную музычную прэмію атрымалі: Алёна Ланская — яна выканала "Лепшую песню на беларускай мове" ("Белая ластаўка"); Іна Афанасьева — у намінацыі "Лепшы жаночы вакал"; Аляксей Хлястоў ("Лепшы мужчынскі вакал"); "Лепшым музычным гуртом" названа "Троіца", "Адкрыццём года" стаў ТЭА; "Лепшы аўтар музыкі" — Леанід Шырын; "Лепшы аўтар слоў" — Ніна Багданава; "Лепшы канцэрт года" — у Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча; "Лепшым журналістам (музычным крытыкам)" названы Алег Клімаў; "Лепшым прадзюсарам" — Максім Алейнікаў; "Лепшы гастрольны тур" ажыццявіў гурт "J:Морс"; "Зорачкай года" (лепшым юным выканаўцам) стала Лідзія Заблоцкая, "Лепшы альбом года" выйшаў у Ганны Хітрык і гурта S`unduk; «Лепшы кліп года" падрыхтаваў гурт Litesound, у намінацыі "Лепшая песня года" перамог Дзмітрый Калдун (песня "Корабли"). Прызам "За ўнёсак у развіццё беларускай эстрады" аднагалосна адзначана творчасць народнага артыста СССР і Беларусі Уладзіміра Мулявіна. Уручаны таксама спецыяльныя прызы. Адным з іх — "За развіццё традыцыі беларускай песні" — уганараваны кіраўнік Нацыянальнага канцэртнага аркестра, лаўрэат дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва прафесар Міхаіл Фінберг.

"Прыз глядацкіх сімпатый" аддадзены Ірыне Відавай.

**Ірына ТУЛУПАВА**

## За падзеяй

# Даніна пашаны паэту



**У 120-ы, юбілейны, дзень нараджэння Максіма Багдановіча ў Мінску, у скверы каля Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета, адбыўся мітынг і ўрачыстае ўскладанне кветак да помніка паэту. У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі, Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта, Міністэрства культуры, творчай інтэлігенцыі краіны.**

Усходняя мудрасць сцвярджае: народ трэба ацэньваць з пункту гледжання таго, як ён ставіцца да сваіх паэтаў. Творцаў сваіх мы шануем спаконвеку. Прарокі Айчыны — заклікаюць людзей да міру, цярпімасці, узаемаразумення. Такім быў і самы малады з беларускіх геніяў — паэт Максім Багдановіч. А яшчэ ён верыў у тое, што аднойчы беларуская літаратура ўзнімецца да ўзроўню сусветнай, а беларускі народ зойме пачэснае месца сярод іншых народаў. Так і сталася.

Адзначыць 120-годдзе класіка беларускай літаратуры і падзвіжніка беларушчыны прыйшлі многія неабыякавыя людзі: палітыкі і пісьменнікі, навукоўцы і настаўнікі, шмат было моладзі. І гучалі словы падзякі Максіму за яго веру ў нас, сённяшніх. Гучалі яго лепшыя вершы, каштоўныя падарункі атрымаў Літаратурны музей Максіма Багдановіча. Адбылося экспрэс-прадстаўленне персаніфіцыраванай энцыклапедыі "Максім Багдановіч" выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". Важным акцэнтам стала ўскладанне да помніка класіку вянка ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

# Прынятыя ў СПБ



**ВАСІЛЕЎСКАЯ Галіна Ануфрыеўна**
***Публіцыст, празаік***

Нарадзілася 1 студзеня 1927 года ў г.п. Клічаў Магілёўскай вобласці. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (аддзяленне журналістыкі). Працавала на радыё, у часопісах "Сельская гаспадарка Беларусі", "Работніца і сялянка", "Полымя". Літаратурнай працай займаецца з 1953 года. Аўтар аповесцей "Маланка ўначы" (1963), "Малюнак на снезе" (1969), "Я еду на вярблюдзе" (1970), "Бывай, Грушаўка!" (1978) і іншых.



**ВАГАБЗАДЭ Ісфандзіяр Бахціяр аглы**
***Паэт, публіцыст***

Нарадзіўся 4 жніўня 1954 года ў г. Баку (Азербайджан). Скончыў факультэт усходазнаўства Азербайджанскага дзяржаўнага ўніверсітэта. З'яўляецца Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. Аўтар кніг "Паэзія пра паўднёвы Азербайджан" (1987), "Почырк маёй нацыі" (1990), "Не дазволь рукам дакрануцца да твайго хлеба" (1993), "Клетка" (1996), "Лісты з гісторыі эміграцыі" (2000), "Палкоўнік Мацвейкін (з Афганскага дзённіка)" (2002), "Вока свету" (2003). Доктар філалагічных навук, прафесар, член Саюза пісьменнікаў Азербайджана.



**СУПРУНЧУК Віктар Пятровіч**
***Публіцыст***

Нарадзіўся 6 снежня 1949 года ў в. Сялец Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у газетах "Электрон", "Сельская газета", у часопісе "Полымя", галоўным рэдактарам перыядычных выданняў "Беларусбанка". Аўтар кніг "Страсці" (1982), "Недзе баліць ля сэрца" (1987), "Жывеш толькі аднойчы" (1988), "З плоці і крыві" (1992), "Баю-бай, мой Генерал" (1996), "Ратуйце вашы душы" (2007) і іншых.

Літабсягі

# Зялёны Астравец над срэбнай Лошай

Раіса ШЫМАНСКАЯ

**Як было не вынесці паперад усяго, пра што буду пісаць, гэты радок Уладзіміра Караткевіча з верша "Дом сябра", які быў напісаны класікам да 500-годдзя Астраўца. Мае ж нататкі кладуцца на паперу з іншай нагоды, але таксама значнай.**

Напрыканцы лістапада Астравеччына прымала эстафету акцыі "Чытаем разам, чытаем па-беларуску", у якой бралі ўдзел вядомы пісьменнік, галоўны рэдактар часопіса "Вясёлка" Уладзімір Ліпскі, яго намесніца і душа кожнай такой літаратурнай вандроўкі Анастасія Радзікевіч, знакаміты паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі, а таксама выдатная паэтэса, пісьменніца Раіса Баравікова.

Наша літаратурная вандроўка па Астравеччыне працягвалася два дні: ад вёскі да вёскі, ад школы да школы. Надзвычай хвалявала гасціннасць, якую бачылі і адчувалі ў літаратурнай гасцёўні на базе Рымдзюнскага цэнтра культуры, адукацыі і інфармацыі, у Падольскім дзіцячым садку-сярэдняй школе, чыталі разам па-беларуску і з вучнямі Варнянскага сада-сярэдняй школы… Дзеці розных узростаў выказвалі сваё захапленне і любоў да нашай мовы, да беларускай літаратуры. Былі і падарункі дзецям: нумары часопіса "Вясёлка", каляровыя каляндарыкі і закладкі для кніжак.



Суправаджаў нас падчас літаратурнай вандроўкі начальнік аддзела адукацыі Астравецкага райвыканкама Віктар Млечка, ад якога шмат пачулі пра літаратурную Астравеччыну, ва ўсе часы слаўную сваімі талентамі: Казімір Сваяк, Генрых Сянкевіч, Янка Быліна… І ўжо нашым часам тут надзвычай шануецца славуты прафесар Адам Мальдзіс, пра чый Дом і напісаў Уладзімір Караткевіч. Ганарацца тут і Станіславам Валодзькам, і Рычардам Бялячыцам, а найбольш, напэўна, любяць сваіх, хто жыве на Астравеччыне, з кім штодня сустракаюцца. Не чужая Астравеччына і Міколу Мятліцкаму. Малая радзіма яго жонкі стала яго другой малой радзімай.

І ў той жа дзень эстафета была перададзена Любанскаму раёну. Гэта далейшы маршрут акцыі, закліканай несці прыгажосць і непаўторнасць нашай мовы. Гэта як перадаваць дабро — ад сэрца да сэрца, таму што ад слова беларускага наш старажытны беларускі род. І там, на Астравеччыне, усе нас чулі, і пасвойму адказвалі сваімі расхвалявана пачуццямі, што мы не проста чытаем разам, а хутчэй — спадарожнікі, якія ідуць адной сцежкай.

***На здымку: удзельнікі акцыі "Чытаем разам, чытаем па-беларуску".***

Артлінія

# Каляды па-опернаму

**На бясснежных сталічных вуліцах зззяюць навагоднія ёлкі: руплівыя мінчане рыхтуюцца да традыцыйных зімовых свят... А ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі — ужо калядуюць! Учора тут пачаўся II Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, самая маштабная музычна-тэатральная падзея года.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

Для тэатра гэта і новая прыгожая традыцыя, і адказны праект, здатны прыцягнуць увагу іншаземных дзеячаў мастацтва да нашай сталіцы і абвергнуць меркаванне пра Мінск як горад не оперны. Дарэчы, на сёлетнім форуме прадстаўлена паўтара дзясятка краін: удзельнікі спектакляў і гала-канцэрта — салісты з Азербайджана, Аўстраліі, Балгарыі, Грузіі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Расіі, Узбекістана, Украіны... Сярод гасцей таксама кіраўнікі тэатраў, журналісты, крытыкі.

Распачала музычна-тэатральнае калядаванне "Травіята" Д. Вердзі ў пастаноўцы Маскоўскага акадэмічнага музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і У. Нeміровіча-Данчанкі. За ёю ў афішы — тры прэм'ерныя спектаклі беларускай опернай трупы: "Аіда", "Севільскі цырульнік", "Снягурачка". Запрошаныя салісты будуць спяваць поруч з нашымі ў двух з іх — апроч вельмі адмысловага сцэнічна, таму складанага для ўводу артыстаў-гастралёраў, "Севільскага...", за пульт якога выйдзе дырыжор-пастаноўшчык гэтай оперы, італьянскі маэстра Дж. Марчыяна. 20 снежня адбудзецца гала-канцэрт зорак сусветнай оперы, якім і завершыцца форум.

Важна, што элітарнае мастацтва пашырае кола сваіх прыхільнікаў. Гэта і публіка, якая не толькі падчас фэстаў запаўняе залу кожны вечар, спрыяючы стварэнню свята. Гэта і партнёры тэатра, генеральным з якіх з'яўляецца ААТ "Белзнешэканамбанк": дзякуючы іх спонсарскай падтрымцы ўдалося без выдаткавання бюджэтных сродкаў зладзіць унікальны для постсавецкай прасторы фестываль, гасцямі якога становяцца не толькі творчыя асобы, але і цэлыя спектаклі.

А напярэдадні форуму адбылася яшчэ адна падзея: у Магілёве паказам балета "Жызэль" на сцэне Палаца культуры вобласці адкрыўся філіял НАВТ оперы і балета Беларусі. Як адзначыў генеральны дырэктар тэатра У. Грыдзюшка, стварэнне такога філіяла мае на ўвазе не наяўнасць стацыянарнай трупы, а магчымасць рэгулярнага паказу жыхарам Магілёўшчыны лепшых узораў класічнага мастацтва. У бліжэйшай перспектыве — па два спектаклі на месяц: балет і опера. Так што перадкалядныя музычна-тэатральныя падарункі радуюць не толькі сталічную публіку.



***На здымку: сцэна са спектакля "Севільскі цырульнік".***

Повязі

# …І агульная інфармацыйная прастора

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Кастуся Дробава

**На мінулым тыдні ў Доме Масквы ў Мінску праходзіла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў журналісцкіх работ "Беларусь — Расія. Крок у будучыню."**

Эмацыянальным пачаткам цырымоніі стала выступленне майстра пескаграфіі Аляксандры Канапацкай. Выявы легкакрылага бусла, Белай вежы, люстрацыя карціны "Палёт над горадам", разгорнутай кнігі змянялі адна адну ў імгненне вока, надавалі сустрэчы ўрачыстасці і разгортвалі тэму да межаў, акрэсленых журналісцкімі артыкуламі, нарысамі, эсэ.

На шостым па ліку конкурсе (ён заснаваны ў 2005 годзе) давялося разгледзець каля 7 тысяч арыгінальных матэрыялаў, звязаных з дзейнасцю Саюзнай дзяржавы. Геаграфія іх досыць шырокая — прадстаўляліся фактычна ўсе рэгіёны Беларусі і Расіі. Па кожнай з 9 намінацый конкурсу вызначаліся два пераможцы — па адным ад кожнай краіны. Сярод узнагароджаных — карэспандэнт аддзела палітыкі, эканомікі і навукі часопіса "Беларуская думка" Сняжана Міхайлоўская (за публікацыю "Без штучных межаў" у намінацыі "Аналітычныя матэрыялы палітычнай, бізнес- і эканамічнай тэматыкі"), супрацоўнік інфармацыйна-аналітычнага партала Саюзнай дзяржавы Сяргей Бурак (артыкул "На «Брэсцкую крэпасць» прыходзяць цынічная моладзь, а выходзяць грамадзяне" ў намінацыі "Публікацыі, якія асвятляюць навуку, мастацтва, спорт, ахову здароўя і адукацыю ў Саюзнай дзяржаве").

"Конкурс стаў яшчэ адным сведчаннем таго, што нашы народы знітаваныя не толькі мінулым, а і сённяшнім ды будучым, — зазначыў, адкрываючы сустрэчу, намеснік дзяржаўнага сакратара Саюзнай дзяржавы, член Пастаяннага камітэта Іван Бамбіза. — Журналісцкая праца па гэтай тэме складаная, але будучыня адносін грунтуецца менавіта на пазітыўнай ноце. Мы маем магчымасць назіраць, як сумеснымі намаганнямі будуецца агульная эканоміка, агульная сацыяльная сфера, агульная культура. Супольна з журналістамі Расіі і Беларусі — і агульная інфармацыйная прастора".

У гэты ж дзень у Доме Масквы падводзіліся вынікі інфармацыйнага праекта "Юныя журналісты Беларусі і Расіі пра Саюзную дзяржаву". Праект упершыню быў рэалізаваны летась і меў вялікі рэзананс: непадробны інтарэс дзяцей да літаратурнай працы і жыцця равеснікаў з суседняй дзяржавы выклікаў эмацыянальныя і шчырыя аповеды, якія і былі надрукаваныя ў прэсе для падлеткаў.

Асноўны клопат узяла на сябе рэдакцыя газеты "Переходный возраст". Яе ініцыятыва была падтрымана Пастаянным камітэтам Саюзнай дзяржавы. Сярод іншых інфармацыйных акцый з'явіўся і творчы конкурс "Пісьмо сябру" — тут таксама аказалася паўтары тысячы работ! З іх пасля былі адабраныя 20 лепшых пісьмаў, якія разглядаліся па трох намінацыях. У выніку пераможцамі сталі Вікторыя Курнеўская з Магілёва (намінацыя "Як сябравалі нашыя дзяды"), Раман Рылко з Ганцавічаў (намінацыя "Як сябруем мы") і Каралiна Канада з Крычава (намінацыя "Прыязджайце ў госці да нас"). Старшынёй журы юнага конкурсу была начальнік Дэпартамента сацыяльнай палітыкі і інфармацыйнага забеспячэння Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Таццяна Кавалёва.



***На здымку: Іван Бамбіза ўручае Дыплом III ступені вучню СШ № 2 г. Чэрвеня Аляксандру Шляхотку.***

З-пад пяра

Прэзентацыя новай кнігі вядомага празаіка Наталіі Касцючэнкі "Вярба над вірам" адбылася ў публічнай бібліятэцы № 5 г. Мінска. Апрача аднайменнага рамана пісьменніца ўключыла ў кнігу літаратуразнаўчыя артыкулы і нарысы пра вядомых людзей, нашых сучаснікаў. І прысвяціла сваё выданне самаму дарагому чалавеку – маці. Вечар прайшоў у цёплай, душэўнай атмасферы, дзе гераінямі былі як аўтар, так і яе маці Вольга Іванаўна, якая, дарэчы, таксама мае літаратурныя здольнасці, з'яўляецца аўтарам цікавых празаічных твораў. Н. Касцючэнка, распачынаючы мерапрыемства, зачытала ўрывак з кнігі — своеасаблівую малітву, звернутую да маці. Цёпла, пераканаўча пра творчы, рэдактарскі шлях Н. Касцючэнкі і яе новую кнігу гаварыў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў. "Раман пісьменніцы, — зазначыў ён, — унікальная з'ява ў сучаснай беларускай літаратуры. Напісаны ў жанры псіхалагічнай споведзі, твор вызначаецца такой выразнасцю і сілай уздзеяння, што не пакідае абыякавым нікога". Ён выказаў упэўненасць, што наперадзе ў аўтара — вялікая творчая будучыня.

Павел КУЗЬМІЧ

Маладая паэтэса Ірына Карэліна, якая ў гэтым годзе дзякуючы свайму яркаму дэбюту стала тварам часопіса "Маладосць", і публіцыст, аўтарка папулярных кніг па гісторыі Беларусі Ірына Масляніцына завіталі ў госці да навучэнцаў Мінскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя № 3 машынабудаўніцтва. Пра беларускую мову, валодаць якой становіцца ўсё больш прэстыжна сярод моладзі, і пра сучасную беларускую літаратуру, у якой ёсць творы сапраўды яркія, цікавыя і патрэбныя маладым, распавядала студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ Ірына Карэліна. Пра беларускую гісторыю, якую трэба ведаць і якой сапраўды можна ганарыцца, казала Ірына Масляніцына. Ліцэісты слухалі сваіх госцяў з вялікай цікавасцю і ахвотна падтрымлівалі размову. Выкладчыкі падкрэслівалі надзвычай вялікую карысць такіх сустрэч, бо чалавек, якую б прафесію ён ні абраў для сябе, павінен быць асобай эрудзіраванай, выхаванай на лепшых узорах літаратуры і мастацтва.

Аляксей ГАРБУНОЎ

У Дзятлаўскай гімназіі стала добрай традыцыяй арганізоўваць сустрэчы з вядомымі творчымі людзьмі. На гэты раз у госці да гімназістаў завітала мастачка са Слоніма, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці Надзея Салейка. Выкладчыкі і гімназісты чыталі ўласныя вершы і дэманстравалі мастацкія вырабы. Пасля мастачка прадставіла свае карціны, якія ўразілі сваёй незвычайнасцю, бо зроблены яны з керамікі. Н. Салейка расказала, як пачынала працаваць, як выпрацавала ўласны мастацкі стыль. Жадаючыя ўзялі ўдзел у майстар-класе, на якім даведаліся, як робяцца самыя простыя дэталі глінянай карціны.

Іосіф ЗАЯЦ

Рэдакцыя альманаха "Вожык" глыбока смуткуе з выпадку смерці свайго былога супрацоўніка, пісьменніка, заслужанага работніка культуры Уладзіміра Рыгоравіча ПРАВАСУДА і выказвае шчырае спачуванне яго родным і блізкім.

# Мікола Маляўка:
# Я ўдзячны за спадчыну

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

**Ведаю гэтага цудоўнага чалавека шмат гадоў. Можна сказаць, большую палову майго жыцця. У маленстве — як выдатнага дзіцячага паэта, потым — пры асабістым знаёмстве — як справядлівага і добрага чалавека, дзеля якога не існуе чужой бяды, ён заўсёды прыйдзе на дапамогу. У дарослыя гады адкрыла яго як тонкага лірыка, рэдактарам дзвюх кніг якога мне выпаў гонар быць. А яшчэ ведаю як удумлівага настаўніка і, нарэшце, — як паплечніка па творчасці. Ганаруся, што ў яго перакладзе на беларускую мову мае вершы заззялі новымі гранямі і набылі нечаканыя адценні. Здавалася, зусім нядаўна святкавалі яго 55-годдзе. Помню радок свайго верша з гэтай нагоды: "Атрымаць адразу дзве пяцёркі выпадзе не кожнаму ў жыцці". І вось прыйшоў час віншаваць паэта з сямідзесяцігоддзем. А мне здаецца, ён ніколькі не змяніўся — такі ж мудры, добры, справядлівы і спагадлівы.**



**— Мікола Аляксандравіч, у юбілейны год заўсёды падводзяцца пэўныя вынікі. Напрошваецца пытанне: што не паспелі зрабіць, думалі, ды не склалася па нейкіх прычынах?**

— Падчас працы на радыё, у літаратурнай рэдакцыі, я аб'ездзіў усю Беларусь, напісаў многа нарысаў. Шкадую, што не сабраў іх разам у адну кнігу. Пражыта і перажыта шмат, было безліч вандроўных дарог, сустрэч з цікавымі людзьмі. Столькі ў памяці падзей, вобразаў, характараў!.. Усё гэта просіцца ў празаічныя мастацкія творы, апавяданні ці аповесць. Ды не склалася пакуль: паэзія моцна раўнуе да прозы, а я адалюб.

**— Каму сказалі б самыя шчырыя словы ўдзячнасці за спрыянне ў вашым лёсе?**

— Я шчаслівы, што ў мяне ёсць такая цудоўная вёска — Мікалаеўшчына, пры самым Нёмане, ее маляўнічыя ваколіцы — мая лясная, лугавая, палявая радзіма. Пра маіх бацькоў і сёння ніхто ў вёсцы не скажа благога слова. Працавітыя людзі, яны сціпла і годна пражылі свой век на зямлі, прысвяцілі сваё жыццё нам, сваім дзецям. Я ўдзячны ім за любоў і клопаты ў нялёгкія пасляваенныя гады, калі вучыўся, і пазней, калі пайшоў на свой хлеб, за спадчыну, якую яны пакінулі мне і брату, нашым сем'ям — драўляную хату-пяцісценку і агарод з садам. Там, намнога перажыўшы бацькоў, пладаносяць яшчэ іх яблыні і грушы. Бацькі, аднавяскоўцы, настаўнікі — тыя людзі, якім я абавязаны ўсім лепшым у жыцці, плёнам у творчай працы. Ім, сваім землякам, роднаму краю прысвяціў я зборнік вершаў "Божы засценак", томік санетаў "Старая зямля", дакументальна-мастацкую кнігу "Сядзіба, або Хата з матчынай душою", дакументальную аповесць "Ой, бярозы ды сосны…"

Сярод сваіх настаўнікаў вылучыў бы яшчэ прыроду. Ласкавая, шчодрая, прыгожая, яна і сагравала, і вучыла любіць усё жывое на зямлі, і натхняла, калі я пачаў пісаць вершы.

Бярозасенніх залаццацца свечкі
У надрэчным гаі,
як у храме вечным.
Я ў храме гэтым вернік не чужы:
Гляджу на свет
вясёлкава-блакітны —
І нараджаюцца ў маёй душы
Не проста вершы,
а радкі малітвы.

А ўпершыню мае вершы былі надрукаваны ў газетах "Зорька" і "Піянер Беларусі". Добрым словам часта згадваю супрацоўнікаў гэтых дзіцячых выданняў Міхаіла Герчыка і Хведара Жычку, якія некалі падтрымалі мяне, пачаткоўца.

**— Ваш родны кут — адметны. Відаць, і зямля, і неба спрыяюць нараджэнню паэтаў.**

— Стаўбцоўшчына, мая Мікалаеўшчына — радзіма Якуба Коласа. Я добра ведаў яго малодшага брата Іосіфа Міхайлавіча, дзядзьку Юзіка, разам з ім выступаў у школах і бібліятэках, чуў, як цудоўна чытае ён коласаўскія творы. Яшчэ ў дзяцінстве абышоў мясціны, апісаныя ў паэме "Новая зямля", — і цяпер перад вачыма стаяць не кніжныя малюнкі, а жывыя краявіды: сама прырода шчодра праілюстравала для мяне старонкі славутай паэмы. Відаць, і такі дотык да творчай спадчыны вялікага паэта-земляка закрануў лірычную струнку ў душы. Якубу Коласу я прысвяціў дакументальна-мастацкую кнігу "Коласаў абярэг" — пра жыццёвы і творчы шлях народнага песняра Беларусі.

Не ведаю, ці спрыяе паэту неба. А што патрэбны пэўны зямны настрой — хвіліны радасці, смутку, пяшчоты — гэта дакладна. Думаецца, душэўны настрой (перадусім) — гэта і ёсць тое натхненне, якое спрыяе творцу — пісьменніку, кампазітару, мастаку.

**— Больш як трыццаць гадоў вы працуеце ў часопісе "Вясёлка". Не будзе перабольшаннем, што вашы вершы і казкі, балады і паэмы, дакументальныя аповесці, руплівая рэдактарская праца паўплывалі на станаўленне юнай змены, не аднаго нават пакалення.**

— Мы, вясёлкаўцы, клапоцімся пра дзяцей — сваіх чытачоў і юных аўтараў. Лістуемся з імі, часта сустракаемся ў рэдакцыі, у школах і дзіцячых садках. Згадваю, як у свой час дапамаглі мне, і сам стараюся спрыяць тым, хто піша. Разумею: "Вясёлка" для юных аўтараў — як першы клас, пасля якога яны, магчыма, падымуцца на новыя прыступкі: пяройдуць у "старэйшыя" выданні — "Бярозку", "Маладосць", "Полымя". Юным чытачам я падарыў кнігі "Дзед і ўнучка", "Салодкі лядзяш", "Запрашаем на Калядкі", "Дзе жывуць казкі", "Як дом будавалі", "Папялушка"…

Беларусь — таксама спадчына, дараваная нам Богам і продкамі. Ніколі не трэба забываць, у якой краіне мы жывём, любіць, шанаваць сваю зямлю, свой народ, сваю мову.

Хочацца пажадаць, каб у новым веку нашы дзеці раслі сумленнымі, працавітымі, мужнымі, з Богам у душы. Наперадзе ў іх доўгае жыццё. І ад іх залежыць, якім яно будзе, на якой зямлі і пад якім сонцам. І ад нас сёння — таксама.

*Душа баліць*
*за кожную правінку,*
*За кожную дзіцячую слязінку*
*Душа баліць —*
*і не спяшае ў рай.*
*Любоў мая,*
*высокая, як неба,*
*Але і ёй зямныя крылы трэба,*
*Каб узляцець*
*і славіць родны край.*

Давайце жыць і працаваць у згодзе, плённа, кожны ў меру сваіх сіл і здольнасцей, каб нашчадкі некалі ўспомнілі добрым словам.

**Візітка:**

*Мікола Маляўка нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння дзесяцігодкі працаваў у Карэліі лесарубам. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна ў 1965 годзе. Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў у раённай газеце, на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Вясёлка". Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1970), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Мастацкая літаратура" (2002). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. На творчым рахунку Міколы Маляўкі шмат кніг для дзяцей і дарослых: паэтычныя зборнікі "Едуць маразы", "Жалеза", "Лотаць", "Круг", "Дар", "Эстакада", "Аднавяскоўцы", "Зімні дождж", "Ручнічок на крыжы", "Покуць", "Крыштальная галінка снегападу" і інш.*

## *Глыбокае-2012*

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

# У Празарокі, да Буйніцкага

**Гутарыць з Вольгай Гінько — адно задавальненне. Ужо з першых хвілін знаёмства захапляешся яе шырокай эрудыцыяй, багатай сакавітай мовай, перасыпанай народнымі прымаўкамі і прыказкамі. Пра вёску Празарокі, яе ваколіцы, помнікі, людзей, якія пакінулі след у гісторыі гэтага краю, яна ведае амаль усё.**

Дырэктар мясцовай сярэдняй школы і па сумяшчальніцтве дырэктар музея Ігната Буйніцкага, якi месціцца тут, яна шмат робіць для прапаганды роднай мовы і літаратуры, развіцця народнай творчасці. Па яе ініцыятыве, напрыклад, складзена карта сталіц Свята беларускага пісьменства. Вучням, шматлікім экскурсантам распавядаюць пра жыццёвы і творчы шлях паэтаў, празаікаў, мастакоў, артыстаў, якія нарадзіліся ў раёнах, дзе прайшлі Дні пісьменства. Школьнікі пабывалі ўжо ў Полацку, плануюцца паездкі і ў іншыя культурныя "сталіцы".

У музеі Ігната Буйніцкага наведвальнікам заўсёды рады. Беларускі акцёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра, нарадзіўся ў вёсцы Палевачы 10 ліпеня 1861 года. Скончыў Рыжскае землямернае вучылішча. Вучыўся ў прыватнай драматычнай студыі ў Вільні. Працаваў каморнікам. Збіраў народныя песні і танцы, узоры беларускага адзення, арнаменту, размалёўкі. У Палевачах Ігнат стварыў тэатр. З канцэртамі і спектаклямі самадзейныя артысты выступалі не толькі ў сваёй, але і ў навакольных вёсках. 12 лютага 1910 года яны ўзялі ўдзел у прадстаўленні, якое ўвайшло ў гісторыю беларускага тэатра пад назвай "Першая беларуская вечарынка ў Вільні". Вось як успамінае пра той канцэрт Паўліна Мядзёлка: "…І нарэшце — пад скрыпкі і цымбалы народныя танцы пад кіраўніцтвам Ігната Буйніцкага. Зграбны, шыракаплечы, у белым народным нацыянальным касцюме, пакручваючы густы вус, з залётным агеньчыкам у вачах, выступае ў першай пары сам Ігнат Буйніцкі са сваёй дачкой. За ім Чэсь Радзевіч з Уладкай Станкевічанкай, Юрэвіч, Мурашка… Восем пар танцуюць "Лявоніху", "Юрачку", "Мяцеліцу", "Вераб'я". Белыя вопраткі мужчын, рознакаляровыя андаракі і гарсэцікі жанчын, зграбныя фігуры, зухаватыя агністыя рухі… З першых жа тактаў "Лявоніхі" сцены залы задрыжалі ад гарачых воплескаў. З кожнай новай фігурай танца энтузіязм публікі ўзрастаў…"

У 1910 годзе тэатр стаў прафесійным і атрымаў назву "Першая беларуская трупа Ігната Буйніцкага". Умовы для творчай працы былі складанымі. Усе свае невялікія матэрыяльныя сродкі Ігнат Цярэнцьевіч бескарысліва аддаваў калектыву. Тут працавалі і яго дзве старэйшыя дачкі: Ванда выступала як драматычная актрыса, чытальнік-дэкламатар і танцоўшчыца, Алена — у танцавальнай групе.

У асноўным з-за матэрыяльных цяжкасцей і ўціску царскіх улад у 1913 годзе трупа спыніла сваю творчую дзейнасць. Праз год І. Буйніцкі паспрабаваў стварыць новы калектыў, аднак Першая сусветная вайна перашкодзіла здзейсніць гэтую задуму.

У пачатку 1917 г. І. Буйніцкі стаў ініцыятарам арганізацыі прафесійнага тэатра ў Мінску — "Першага беларускага таварыства драмы і камедыі". Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. артыст адправіўся на Заходні фронт. Там ён раптоўна памёр. Спачатку быў пахаваны ў в. Палачаны Маладзечанскага раёна, потым яго прах быў перавезены ў родныя Палевачы, а ў 1975 годзе перапахаваны ў в. Празарокі Глыбоцкага раёна.

У рамках падрыхтоўкі да Дня беларускага пісьменства ў Палевачах, на магіле Буйніцкага, плануецца ўстанавіць памятны камень. Магчыма, будзе вырашана і пытанне пра будаўніцтва музея Ігната Буйніцкага ў Празароках.



***На здымку: помнік Ігнату Буйніцкаму ў в. Празарокі (скульптар І. Міско).***

**Газета "Літаратура і Мастацтва" — інфармацыйны партнёр Свята беларускага пісьменства.**


ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ! ЧАЦВЕР, 9 ЛЮТАГА 1939 г. № 8 (422) ЦАНА 20 КАП.

ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

Орган праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР і Упраўлення па справах мастацтваў пры СНК БССР

САЮЗ СОВЕТАЎ—РАДЗІМА КУЛЬТУРЫ І ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

СЁННЯ ГРАМАДСКАСЦЬ МЕНСКА СУСТРАКАЕ СВАІХ ПІСЬМЕННІКАЎ-ОРДЭНАНОСЦАЎ

Янка КУПАЛА

ЖЫЦЦЁ МАЕ НАЛЕЖЫЦЬ НАРОДУ, ПРАВАДЫРУ

Змітрок БЯДУЛЯ

СЭРЦА ПЕРАПОЎНЕНА ШЧАСЦЕМ

# ЛіМ: 1939 год

**Вольга ПАСІЯК**

Якія асацыяцыі ў межах нашай гісторыі ў вас выклікае гэта дата — 1939 год? Увод савецкіх войск у Заходнюю Беларусь? А можа, святкаванне 20-годдзя ўтварэння БССР? Апошняе, напэўна, выглядала так. У прасторнай зале пасяджэнняў на трыбуну ўпэўненым крокам падымаецца сакратар ЦК КП(б)Б П. Панамарэнка. Дачакаўшыся поўнай цішыні, ён пачынае свой даклад: *"Вечарам 1 студзеня 1919 года быў апублікаван гістарычны маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага совецкага ўрада Беларусі, які з'явіўся першым канстытуцыйным актам, юрыдычна аформіўшым асновы грамадскага і дзяржаўнага ладу маладой Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі"* (ЛіМ, 1939, 5 студзеня). У знак згоды гучаць апладысменты. Зала зноў сціхае, а дакладчык працягвае свой манатонны аповед…

Кожная газета ў тым годзе стракаціць усхваленнямі ў адрас савецкай улады. Жыхарам Заходняй Беларусі абяцаюць будаўніцтва савецкага шчасця, без якога, калі верыць шматлікім публікацыям, жыццё пад крылом Польшчы было невыносным і абяздоленым. Сёння сказана і напісана пра гэта нямала, шматлікія падручнікі па гісторыі падрабязна апавядаюць пра падзеі 17-га верасня, аналізуючы плюсы і мінусы. Але была ў прэсе 1939 года яшчэ адна асаблівасць, якая нагадвае вытрымку са знакамітага рамана Джорджа Оруэла "1984", — перапісванне гісторыі з самых яе вытокаў, з фальклору. Грунтоўны зварот да слоў М. Горкага *"…Пачатак мастацкага слова — у фальклоры. Збірайце ваш фальклор, вучыцеся на ім"* (ЛіМ, 1939, 11 студзеня.) быў ператвораны ў спецыфічную страву савецкай ідэалогіі з прыправай абсурднасці.

Так, менавіта абсурднасці. А як яшчэ можна ахарактарызаваць, скажам, з'яўленне дажынкавых песень кшталту:

*Ой, паперäду нясуць жнеечкі*
*Два вянкі ў руках…*
*У вяночках тых два партрэцікі:*
*У адным — Леніна,*
*ў другім — Сталіна.*

(ЛіМ, 1939, 1 мая).

Калі вярнуцца ў тыя часы і папрасіць у сялян праспяваць што-небудзь з папулярнага падчас палявых работ, наўрад ці мы пачуем такія радкі. Нам прапануюць штосьці зусім іншае і, несумненна, з іншымі героямі. Тым не менш пастулаты савецкай ідэалогіі абрушваліся на маладое пакаленне з першых дзён жыцця. Для дзяцей прапаноўвалі спецыфічныя шэдэўры народнай творчасці ў выглядзе калыханак. Замест спрадвечных казачных істот у снах будучых камуністаў павінны былі з'яўляцца іншыя персанажы:

*Вырасцеш, сынок, вялікі,*
*Пойдзеш у Армію служыць,*
*Сам таварыш Варашылаў*
*Будзе там цябе вучыць.*

(ЛіМ, 1939, 1 мая).

Партыя — ва ўсім. Менавіта так можна ахарактарызаваць змест савецкіх газет таго часу, і "ЛіМ", зразумела, не быў выключэннем. Партыя — у беларускіх міфах і легендах: *"Дзед гэты мае цяпер многа гадоў, але яшчэ моцны і ўсё ўспамінае вялікага Леніна, дзякуе любімаму Сталіну за тое, што пад старасць дачакаўся шчаслівага жыцця"* (ЛіМ, 1939, 22 студзеня).

Партыя — у народных прыпеўках:

*Запаліце гэту зорку,*
*Хай асвеціць увесь свет;*
*Мы з Совецкай Беларусі*
*Нясём Сталіну прывет.*

(ЛіМ, 1939, 21 снеж.).

Партыя — у песнях рабочых:

*Шыроку дарожаньку*
*Ленін пралажыў.*
*Пастройку дарожанькі*
*Сталін завяршыў.*

(ЛіМ, 1939, 21 снежня).

І, што здаецца зусім неверагодным, партыйныя прынцыпы пранікаюць нават у прыказкі і прымаўкі: *"Беражы маёмасць калгасную, як сваю ўласную"*; *"Раней жыла — зрэб'е насіла, а як пайшла ў калгас — адзелася ў шоўк і атлас"* (ЛіМ, 1939, 1 мая).

Але сапраўдным апагеем абсурднасці стала наданне камуністычнага адцення казкам розных народаў. Як тут не ўспомніць знакамітыя радкі: "Сказка — ложь, да в ней намёк — добрым молодцам урок"! Прыклад такога ўздзеяння на свядомасць маладога пакалення — яўрэйская народная казка "У Леніна". Такому сюжэту-фэнтэзі можа пазайздросціць нават сучасная літаратура:

*"— Што тычыцца механікі, машын, — кажа Ленін, — дык мы запросім да нас таварыша Сталіна. Ён кіруе ўмацаваннем краіны, клапоціцца аб яе багацці і шчасці.*

*Пры гэтым Ленін націснуў кнопку ў сцяне і звон-кліч разнёсся па ўсяму Крэмлю:*

*— Таварыша Сталіна просяць да сялян!*

*Як Сталін пачуў, што яго просяць да Леніна, да сялян, — ён адразу з'явіўся.*

*Ленін кажа яму: так і так.*

*Адказвае Сталін:*

*— Няма такой рэчы, якую бальшавікі не змаглі б зрабіць. Хадземце ў зал да інжынераў…"* (ЛіМ, 1939, 22 студзеня).

Праўда, некаторым момантам трэба аддаць належную павагу. Скажам, такой з'яве ў савецкім друку, як зварот да алегорыі. Менавіта цяпер на старонках газет усё часцей можна прачытаць разнастайныя неадназначныя па сэнсе байкі, напрыклад, К. Крапівы. Але і сярод гэтых баек нямала камуністычнага мілітарысцкага падтэксту. Так, у адным з нумароў заўважаем байку далёка не мірнага характару "Воўк-дыпламат":

*З ваўком-агрэсарам —*
*кароткі разгавор,*
*Няма чаго лавіць варон там.*
*Рыхтуе воўк агрэсію —*
*давай адпор*
*Адзіным фронтам.*

(ЛіМ, 1939, 11 ліпеня).

Б. Брэхт сцвярджаў: "Нешчаслівая тая краіна, якой неабходны героі". Навязванне сродкамі масавай інфармацыі новых каштоўнасцей не стала культурным багаццем беларусаў. Ды і хто сёння ўспомніць "сачыненне народа" з Леніным, Сталіным ці Варашылавым у галоўнай ролі?

# Пазітыўна і ў меру

**Таццяна ШАБЛЫКА**




Лістападаўскі нумар часопіса "Беларуская думка" прапануе багатую палітру цікавых тэм і актуальных праблем. Дыскусійны тон зносін з чытачамі задае самая першая публікацыя — артыкул "Імідж дзяржавы" начальніка ўпраўлення інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі Андрэя Савіных. Аўтар разважае над пытаннем стварэння прывабнага іміджу нашай краіны і прапануе ўсім уключыцца ў гэты працэс, не забываючы, аднак, пра тое, што тут катэгарычна забаронена выкарыстоўваць прапагандысцкія прыёмы. Спробы стварыць занадта прыхарошаны вобраз краіны здольны загубіць справу, перакананы беларускі дыпламат.

У пэўным сэнсе працягвае і развівае тэму стварэння вобраза нашай Радзімы і саміх беларусаў, але ўжо на іншым полі — літаратурным, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец. У сваім інтэрв'ю ён акцэнтуе ўвагу на нядаўняй сустрэчы пісьменнікаў з Прэзідэнтам краіны, распавядае таксама пра праблемы публікацыі новых твораў, расказвае пра супрацоўніцтва паэтаў і празаікаў у межах Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Сярод першасных задач, якія стаяць перад творчым саюзам, яго старшыня вызначае падтрымку маладых аўтараў, развіццё дзіцячай літаратуры і літаратурнай крытыкі.

У традыцыйным для часопіса раздзеле "Саюзны вектар" гэтым разам друкуюцца два артыкулы. Першы з іх, пад назвай "Пачатак пачаткаў", прысвечаны запуску навуковай праграмы Саюзнай дзяржавы "Ствалавыя клеткі", якая заклікана ва ўмовах жорсткай міжнароднай канкурэнцыі ў галіне клетачных тэхналогій забяспечыць беларускім і расійскім вучоным высокія вынікі. Аўтар падкрэслівае неабходнасць фарміравання прававой базы для практычнага прымянення ствалавых клетак у медыцыне — пакуль што гэты аспект у краінах-удзельніцах Саюзнай дзяржавы распрацаваны слаба.

Другі артыкул "саюзнай" тэматыкі распавядае пра чарговы прэс-тур прадстаўнікоў расійскіх СМІ ў Беларусь. Адметнасцю паездкі стаў сам яе маршрут — у чарнобыльскія рэгіёны Гомельшчыны. Журналістам давялося пабываць у Палескім дзяржаўным радыяцыйна-экалагічным запаведніку, дзе адбылася цікавая размова з вучонымі, а таксама на свае вочы пабачыць, як жыве зона адчужэння.

"Кожны з нас стварае сваю эпоху" — гэта выказванне вядомага беларускага навукоўца Адама Мальдзіса дало назву грунтоўнаму інтэрв'ю, пачатак якога з'явіўся ў № 10, а заканчэнне друкуецца ў прэзентаваным нумары часопіса. Наўрад ці каго пакінуць абыякавым развагі аўтарытэтнага даследчыка пра карані беларускай культуры, яе развіццё на працягу стагоддзяў, меркаванні пра неардынарных гістарычных асоб, што пакінулі след у гісторыі нашай Айчыны.

Грамадзянскім гуманізмам і рэлігійнай талерантнасцю прасякнута інтэрв'ю з Вярхоўным муфтыем Расіі Талгатам Таджудзінам. На прыкладзе Рэспублікі Башкартастан дэманструецца вопыт узаемаразумення і супрацоўніцтва традыцыйных для краіны канфесій у такой шматнацыянальнай і поліканфесіянальнай краіне, як Расійская Федэрацыя. Духоўны лідар расійскіх мусульман выказвае слушнае меркаванне пра формы вывучэння ў школах краін СНД асноў традыцыйных рэлігій.

Неардынарным прадстаўнікам беларускай правінцыі прысвячаюцца публікацыі раздзела "Час і асоба", які нядаўна з'явіўся ў часопісе. У гэтым нумары героем нарыса "З танцам па жыцці" журналіста Сяргея Галоўкі стаў загадчык арганізацыйна-метадычнага аддзела Любанскага раённага Цэнтра культуры Сяргей Выскварка. Захапленне танцамі роднага краю і наогул фальклорнай спадчынай рэгіёна займае значнае месца ў жыцці гэтага няўрымслівага даследчыка. Адшуканыя народныя танцавальныя скарбы ён з поспехам аднаўляе разам з удзельнікамі дзіцячага ўзорнага харэаграфічнага ансамбля "Верабейкі".

З астатніх публікацый нумара можна даведацца пра праблемы цэментнай прамысловасці краіны, шляхах удасканалення айчынных грузавых авіяперавозак. Прапануюцца таксама артыкулы вучоных, якія аналізуюць узаемадзеянне друкаваных СМІ і сацыяльных сетак, разважаюць пра перспектывы развіцця беларускіх гарадоў.

# Ад кватэрнікаў да беларускай міфалогіі

**Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ**

Фантастычны палёт і фантастычнае падзенне Крона Тэнлі, пра якія распавядае Серж Мінскевіч, вершы маладой гомельскай паэткі Надзеі Філон, спеў з нотамі ад Дзмітрыя Пятровіча, расповеды пра інтэлект-мапу, кватэрнікі — усё гэта і шмат чаго іншага чытайце ў лістападаўскай "Бярозцы".

Авечцы Адэлі з казкі Наталлі Бучынскай яшчэ не надакучыла завітваць у госці да чытачоў. Гэтым разам гаворка з ёй пойдзе пра небяспечнасць рагоў і капытоў. Акрамя гэтага ў нумары змешчаны працяг п'есы Ягора Конева "Дамавічкі" і аповесці "Шчанячыя гады" Мельхіёра Ваньковіча. А ў рубрыцы "Паэзія" паяднацца стагоддзі спрабуе Уладзімір Мазго.

Галіна Пшонік прапануе ўвазе чытачоў чарговае павучальнае апавяданне "Новае веданне", а Ірына Клімковіч працягвае знаёміць падлеткаў з беларускімі міфалагічнымі істотамі. Аказваецца, прабог-каваль Сварог некалі быў вярхоўным богам і валадарыў светам. Распавед пра чароўную зброю ды кульгавых чараўнікоў — у традыцыйнай рубрыцы "Беларуская міфалогія".

Публіцыстычны блок "Бярозкі" і на гэты раз — самабытны, займальны. Напрыклад, у рубрыцы "Захапленні" чытачы знойдуць матэрыял "Стыхія пад назвай «кватэрнік»" пра фенаменальную моладзевую з'яву, якая мае месца толькі на постсавецкай прасторы. Рубрыка "Атлас свету" прапануе падлеткам даведацца пра народнасць, якая так і не атрымала дзяржаўнасці, — сербалужычане. Алена Іванюшанка ў "Займальнай псіхалогіі" распавядае пра тое, як інтэлект-мапа дапамагае паспяхова раскрываць сябе. У "Дынаміку" Вітаўт Мартыненка, як заўжды, "па-мартыненкаўску" стылёва і сучасна піша пра польскіх беларусаў — гурт




Ilo&friends, а Вольга Наважылава — пра мюзікл Марка Самойлава "Чароўная лямпа Аладзіна", які ідзе на сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра. Рубрыка "Вернісаж" запрашае паглядзець на работы выхаванцаў альтэрнатыўнай арт-студыі "Востраў" пад кіраўніцтвам Юрыя Іванова.

Лявон ЦЕЛЕШ,
г. Дзяржынск

# Шчодры талент

**У Беларусі добра вядома імя паэта, перакладчыка, эсэіста Алеся Каско. У літаратуру ён прыйшоў у 1968 годзе, 17-гадовым юнаком. Захапленне паэзіяй прывяло Алеся ў рэдакцыю ганцавіцкай раённай газеты "Савецкае Палессе", на старонках якой убачыў свет яго першы надрукаваны твор — верш "Пралескі".**

Галоўным рэдактарам газеты ў той час працаваў Васіль Праскураў, пры якім у "раёнцы" была выпеставаная плеяда талентаў. Літаратурнае аб'яднанне "Рунь", што існавала пры газеце, узначальваў паэт Віктар Гардзей. Алесь Каско згадвае, што і Васіль Праскураў, і Віктар Гардзей сталі яго першымі і самымі важнымі дарадцамі на шляху ў паэзію. Ён і цяпер сябруе са сваім старэйшым калегам па пяры. Прозвішчы змешчаныя побач на адмысловай скульптурнай кампазіцыі-звітку, усталяванай у Ганцавічах, на Алеі паэтаў.

Нарадзіўся Алесь Каско 10 снежня 1951 года ў ганцавіцкай вёсцы Чудзін, якая здаўна славілася сваімі выдатнымі казачнікамі. Недалёка ад вёскі, на хутары, жыў некалі выдатны беларускі этнограф, фальклярыст Аляксандр Сержпутоўскі. Такое багата насычанае народнай творчасцю асяроддзе не магло не паўплываць на фарміраванне паэта. У 2001 годзе Алесь Канстанцінавіч запісаў казкі землякоў і выдаў зборнік "Чыстага ўсё нячыстае баіцца".

Адметным перыядам у жыцці Алеся Каско была вучоба на філалагічным факультэце Брэсцкага педінстытута, дзе на яго вялікі ўплыў аказаў вядомы пісьменнік, прафесар, загадчык кафедры беларускай літаратуры Уладзімір Калеснік. Пасябраваў Алесь у часы вучобы і са студэнтамі-паэтамі А. Разанавым, В. Жуковічам, М. Пракаповічам. У студэнцкія гады вершы Алеся з'явіліся ў рэспубліканскім друку. Вучобу перапыніла служба ў арміі. Пасля ён выкладаў беларускую мову і літаратуру ў роднай Чудзінскай сярэдняй школе і вучыўся завочна, а з цягам часу перавёўся на стацыянарнае аддзяленне. Скончыўшы педінстытут, Алесь Каско на працягу васьмі год працаваў карэспандэнтам жабінкаўскай раённай газеты "Сельская праўда", затым быў рэдактарам на Брэсцкай абласной студыі тэлебачання.

Вынікам плённай працы Алеся Каско на паэтычнай ніве сталі зборнікі "Скразная лінія", "45", "Трохкроп'е", а за кнігу "Час прысутнасці" ён быў адзначаны Літаратурнай прэміяй імя А. Куляшова. А. Каско таксама лаўрэат прэміі У. Калесніка і першы, хто атрымаў незвычайную літаратурную прэмію — пуд мёду. Прэмію гэтую заснаваў паэт і пчаляр з Пружан Мікола Папека. Алесь Каско таксама вядомы як дзіцячы пісьменнік (для маленькіх чытачоў — яго кніга "Два сонцы") і як перакладчык з польскай, нямецкай, рускай, украінскай, македонскай моў. Кнігі паэта сёння можна сустрэць амаль у кожнай бібліятэцы краіны, не залежваюцца яны і на паліцах кнігарняў. А нядаўна ў брэсцкім выдавецтве "Альтэрнатыва" пабачыў свет новы паэтычны зборнік Алеся Каско "Нічога больш". Вершаваная творчасць А. Каско адметная глыбокім філасофскім роздумам. Так кранае душу верш "Не сустрэцца…", які паэт прысвяціў сваёй матулі: "Больш ніколі не сустрэцца. // Ты, вядома ж, за той брамай, // за якую з цяжкім сэрцам // не пускаюць, мама". Прымушае задумацца верш Алеся Каско "Няведанне": "У маленстве // не ведаем, што жывём. // У юнацтве // не ведаем, што нявечныя. // У сталасці // не ведаем, ці жыць варта. // У старасці // не ведаем, ці паўторымся. // Не ведаем. // Не веда-ем…". Непакоіць паэта лёс роднай мовы, праблема знікнення палескіх вёсак: "Мужная мова", "Кут мой і карчуюць, і выпloўваюць". Любоў да сваёй Радзімы — Беларусі — паэт выказвае наступнымі радкамі: "Які ні ёсць, а родны край — святыня".



Цяпер Алесь Каско жыве разам са сваёй надзейнай спадарожніцай — Людмілай Канстанцінаўнай — у Жабінцы, працуе ў раённай газеце "Сельская праўда". Не забывае ён і сваіх землякоў, часта бывае на радзіме, з аднавяскоўцамі. Памятае Алесь Каско і пра тых паэтаў Ганцаўшчыны, якіх ужо няма з намі. З яго дапамогай, ужо пасля смерці Васіля Праскурава, выйшла ў свет яго кніга "Наўсцяж вясковай вуліцы". Нядаўна я патэлефанаваў Алесю Каско, і ён паведаміў, што рыхтуе да выдання новы зборнік вершаў.

Ірына БАЖОК

# Канец геаграфіі

## Метафізічны хранатоп у паэзіі Міхася Баярына

"Новы герой культуралагічнай прасторы", — так В. Акудовіч называе Міхася Баярына, аднаго з яскравых прадстаўнікоў сучаснай беларускай інтэлектуальнай літаратуры.

Паэзія М. Баярына адметная складанасцю сэнсавага зместу вершаў, г.зн. кожны радок змястоўны і нясе пэўную інфармацыю, ідэю, дзеянне, якія разам ствараюць адзінае цэлае. Галоўныя катэгорыі, якія М. Баярын пераасэнсоўвае ў сваёй паэзіі, — час і прастора, што стварае адметны метафізічны хранатоп. Побач з гэтымі паняццямі ў змястоўны бок актыўна ўключаецца катэгорыя сну, выкарыстанне якой не зусім характэрнае для інтэлектуальнай літаратуры, таму што сон толькі ўскосна звязаны з рэчаіснасцю.

У вершах М. Баярын заклікае да руху наперад:

*Ўзнож і руш!*
*Сненнем сна зіхцяць прасторы.*

Рух — самавольны, няспынны, паэт прапануе ісці, не зважаючы на наваколле, на тое, што застаецца. Узнікае сімвалічны вобраз чорнага каня, які вырываецца са стайні. Гэта культуралагічнае пераасэнсаванне рэчаіснасці, шлях да новай літаратурнай сітуацыі:

*Калі конь, паламаўшы дзверы*
*І звіхнуўшы ў стаёвага ногу,*
*Вылятае ўдзень са стайні,*
*У ягоных вачах — радасць,*
*Што гульня ідзе шляхам прыемным,*
*Абяртаецца справа —*
*цікава.*

Матывы надзеі, аднаўлення, чакання ("у паўсне паўстае мая радасць") яшчэ саступаюць месца больш моцным сімвалам сну, вечару, ночы:

*Магільны вечар.*
*Б'е хвастом птушка-ноч,*
*Захінаючы горад*
*Нябёсным крылом.*

Вечны сон паўстае ў вобразе Гаспадара, а сны герояў вольна адчуваюць сябе на розных прасторах.

Тым не менш М. Баярын вызначае сон як магчымасць ідэальнага ўтаймавання:

*Сон азначае крохкае маўчанне,*
*У гэты час мы людзі больш,*
*чым рэчы.*

*…Цяпер я заўважаю, што мой голас*
*На самай справе мкне ад цішыні.*

Нягледзячы на тое, што сон — ірэальнасць, гэта ўсё ж шлях да пераасэнсавання. У вершы "Напрыканцы цёмных вякоў" М. Баярын гаворыць пра адсутнасць у рэчаіснасці вызначаных месца і часу і прапануе чытачу самому вытлумачыць змест гэтых паняццяў:

*Лексікон наваколля*
*страчвае слова "час".*
*На пытанне "вы дзе?"*
*атрымаеш адказ*
*"Мы тут" і ня ўбачыш нас.*

Усё мінулае ўяўляецца паэту сном, але надыходзіць час прачнуцца.

Калі катэгорыя часу звязаная ў асноўным са сном, то прастора — больш шырокае паняцце, у змест якога ўключаны розныя тыпы прасторавых межаў, характэрных для інтэлектуальнай літаратуры.

У паэзіі М. Баярына ёсць асабістая прастора. Гэта дом з яго атрыбутамі: сутарэннямі *(У падземных сутарэннях майго дома)*, каморай *(Я прачнуўся і стаў злачынцам, // Адамкнуўшы камору, выйшаў)*, пад'ездам *(Я выходжу з пад'езда // у цёплы вечар. // Скамянелы стаю // на шурпатым ганку)*.

П. Васючэнка заўважае: "Арганізацыя прасторы — гэта, як правіла, яе звужэнне. Невербалізаваны Сусвет мусіць канцэнтравацца ў межах больш вузкай прасторы, бо літаратура вучыць нас кампактным, даступным для чалавечага розуму формам мыслення". Вузкая прастора таксама мае сімвалічнае значэнне. Магчыма, гэта спроба вывесці ўсю літаратуру з пэўных рамак і "разняволіць" яе. Тым больш што лірычны герой заўсёды выходзіць з меншай прасторы ў большую. У сувязі з гэтым сімвалічны сэнс набывае і вобраз падземнага пераходу: *"І самотнае лісце заставалася ў пераходах"*. Горад з яго ціхімі завулкамі таксама становіцца асобнай прасторай у сучаснай інтэлектуальнай літаратуры.

Побач з асабістай прасторай знаходзіцца прастора сусвету. Цікава тое, што градацыя прастораў пабудаваная не на іерархіі, а на ўзаемазалежнасці і цесным узаемапранікненні: *"У пакоі цячэ Хуанхэ"*.

Так, гульня вобразаў дазваляе змясціць раку ў прыватнай прасторы, а вялізны сусвет становіцца маленькім і безабаронным:

*Самотны сусвецік, глыбока зарыты,*
*голлем закіданы,*
*сненнем забыты.*

Як і ў выпадку з часам, М. Баярын не дае адказу не тое, дзе знаходзіцца ідэальная прастора. Ні майстэрня, падобная да ўсходняга храма, ні Рым, дзе "Папа думае пра Богам забыты край", ні "дзіўны горад" не задавальняюць лірычнага героя: *"Надышоў канец геаграфіі, падарожжы страцілі сэнс"*.

Але і гэты факт дае падставы для з'яўлення нечага новага:

*Сусвет пачынае трымцець,*
*як ветразь напяты ад ветру*
*У зруйнаванай свядомасці.*

Такім чынам, катэгорыя прасторы значна пераасэнсаваная М. Баярыным, ім выкарыстаны адзін з прыёмаў інтэлектуалізму — дыягностыка цяперашняга ("сядзі і вывучай прастору").

М. Баярын — прадстаўнік "інтэлектуальна-метафізічнай літаратуры" (В. Акудовіч), ён з'яўляецца адным з прадаўжальнікаў новай беларускай філасофіі, да якой у 70-я гады звярнуўся А. Разанаў.

*Я заходжу ў дворык і дыхаю*
*Метафізікай страчаных вуліц…*

Такую ролю ў адным з вершаў М.Баярын надае метафізіцы: ён проста ёй дыхае. Погляд на рэчаіснасць існуе "тут і цяпер", таму паэт часта апісвае навакольныя з'явы прыроды не з мэтай апаэтызаваць іх ці стварыць пэўны настрой, а з мэтай проста паказаць іх існаванне, наяўнасць. У метафізічным свеце рухаецца толькі чалавек:

*і застанецца самотна мне*
*бадзяцца па спыненым свеце.*

Аднак і сама катэгорыя *чалавек* пераасэнсоўваецца: чалавек "уліваецца" ў прастору ўсіх навакольных рэчаў, яго прысутнасць адчуваецца ва ўсім, чалавек стаіць на адным узроўні з прадметамі і з'явамі:

*І да літараў розных, і словаў,*
*і знакаў прыпынку*
*Можаш смела дадаць сябе.*

Разам з тым, чалавек — адзіная істота, якая можа пазнаць рэчаіснасць, толькі чалавеку дадзена магчымасць адкрываць:

*Бо я ключ,*
*рэчаіснасць — замок.*

Надышоў час, калі спыненне руху дазваляе паглядзець на сябе. Насычанае эксперыментамі XX стагоддзе прывяло да таго, што "форма дзівіцца зместу, а рэчы — сэнсу". Пазнаць адно аднаго дапамагае метафізіка.

Па словах В. Акудовіча, "інтэлектуальна-метафізічная літаратура пакуль толькі на пачатку свайго шляху. У яе яшчэ ўсё наперадзе. Але, незалежна ад будучых поспехаў і страт, ужо сёння яна шмат у чым вызначае вобраз, ды і самую наяўнасць Новай літаратурнай сітуацыі". У адным з вершаў М. Баярын заклікае: *"Спынім жа ўсе гадзіннікі! Гісторыі больш няма"*.

Сапраўды, сучасную інтэлектуальную літаратуру цікавіць не столькі пераасэнсаванне мінулага, клопат пра будучыню, колькі рэчаіснасць, якая і становіцца прадметам спазнання.

Зваротная сувязь

Анатоль ІВАНЧАНКА

# У паленіцы трэба быць сумленным

Пісьменнік-фантаст А. Сілецкі — фантаст і ў палеміцы: не знайшоўшы памылак у маім водгуку ("ЛіМ", 2010, № 40, с. 7) на яго артыкул, ён іх выдумаў. І паспяхова абверг свае словы, прыпісаныя мне. "Мой паважаны апанент імкнуўся даказаць, што ніколі фантастыку не лічылі літаратурай другога гатунку" ("ЛіМ", 2011, № 15, с. 6). Але пра злоснікаў фантастыкі ў СССР я напісаў у 11-м абзацы, 22 радкі з якога ўзноўленыя тлустым шрыфтам у вынасцы. Не заўважыць гэтага А. Сілецкі не мог.

Супраць тых злоснікаў я прывёў цытаты з друку, з "ЛіМа" (9.04.1982, с. 5) — словы, што крытык, які патрабуе скідак пры ацэнцы фантастыкі, сам лічыць яе жанрам другога гатунку, хоць быццам і выступае супраць гэтага. А. Сілецкі ўхапіўся за "мае" цытаты і піша, што такімі словамі "апанент, па сутнасці, аспрэчвае самога сябе", — г. зн. я аспрэчваю быццам свае словы, што ў СССР фантастыку не лічылі другім гатункам. Так, я аспрэчваў гэтыя словы, бяда толькі ў тым, што словы гэтыя не мае, іх прыпісаў мне А. Сілецкі.

А. Сілецкі пісаў ("ЛіМ", 2010, № 24, с. 7), што ў СССР фантастыка была ў гета і што ў "казачна-фантастычнай" літаратуры "або адкрыта кралі ("Залаты ключык...", "Прыгоды Нязнайкі..."), або перайначвалі так, што лепш бы гэтага не рабілі". Чаго тут болей: невуцтва ці зласлівасці? Шмат тых, хто чытаў казкі і пра Пінокія, і пра Бураціна, лічаць, што пераробка палепшыла твор. А. Сілецкі жа перакруціў пераробку ў плагіят! А М. Носаў "Нязнайку" цалкам стварыў сам, і ўсё адно мой апанент абвінавачціў яго ў крадзяжы.

Іншы аўтар, злоўлены на недасведчанасці, прызнаў бы сваю памылку ці сарамліва маўчаў бы. Не такі А. Сілецкі. Ён атакуе: "Хаця артыкул мой — пра фантастыку, А. Іванчанка раптам пачынае спяваць дыфірамбы У. Вішнеўскаму... толькі таму, што я ўспомніў "Аптымістычную трагедыю" ў шэрагу слабенькіх прыкладаў "вялікай" літаратуры". І ў тым жа сказе абверг сябе: не "раптам", а ў адказ на яго згадку п'есы. Каб утаіць, што калісьці памыліўся (твор пра подзвіг жанчыны-камісара назваў "бытапісальніцкім"), ён цяпер піша, быццам назваў твор "слабенькім" (маўляў, не дакажаш, што твор не такі). Аднак у 1955 годзе "Аптымістычную трагедыю" паставіў Таўстаногаў, атрымаўшы Ленінскую прэмію (як і Ю. Талубееў за ролю Важака, а роляй Сіплага, праўда, ва Уладзіміры, праславіўся Я. Еўсігнееў). Можа, прэмію далі "ідэалагічна"? Але нядаўна, у ліпені, гаворачы пра тэатр у СССР пасля ХХ з'езда (цыкл "Жывая гісторыя", тэлеканал "Мір"), С. Юрскі назваў першай ластаўкай новага, паслясталінскага тэатра таўстаногаўскую "Аптымістычную трагедыю". Рэжысёр марыў пра "неверагоднае" — каб усе тэатры мелі да пастаноўкі сучасных п'ес з мастацкімі якасцямі "Чайкі" ці "Аптымістычнай трагедыі" (Таўстаногаў Г.Круг думак. Л., 1972. С. 6).

Дадам, што У. Вішнеўскі насамрэч дастойны "дыфірамбаў" (слова апанента). З 14 гадоў ён ваяваў добраахвотнікам, быў разведчыкам, атрымаў тры Георгіеўскія ўзнагароды. У 1946 годзе як галоўны рэдактар часопіса "Знамя" надрукаваў аповесць Віктара Някрасава "У акопах Сталінграда" ў аўтарскай рэдакцыі, хоць было шмат кан'юнктурных заўваг.

А. Сілецкі ў сваім адказе піша: "Мой артыкул... выклікаў нечаканы (?!) водгук... апанент папракае мяне ў шматлікіх агрэхах. На першы папрок... што Дорыс Лесінг... жанчына, а не мужчына, — прыкра марнаваць газетныя радкі. Памылка, мабыць, укралася пры наборы..." Хай чытач лічыць Лесінг мужчынай? "Далей А. Іванчанка, абураючыся, прыводзіць цытату..." Абурэнне выдуманае: маўляў, апанент неадэкватны. Я ж прывёў словы А. Сілецкага пра Нобелеўскія прэміі Гесэ і Грасу за "цалкам" фантастычныя творы і словы з нобелеўскіх актаў, якія сведчаць, што гэта не так. А. Сілецкі прызнаў слова "цалкам" недарэчным — але не сваю памылку. Ён "выкрыў" мяне: "А. Іванчанка прыводзіць афіцыйную фармулёўку, паводле якой Гесэ стаў Нобелеўскім лаўрэатам "...за натхнёную творчасць, ідэі гуманізму, а таксама за бліскучы стыль". Маўляў, вось за якія добрыя якасці ўзнагародзілі Гесэ, але... не за фантастыку! А хіба падобная характарыстыка не можа быць дадзена і выдатнаму твору фантастычнай накіраванасці? Выходзіць, і сам апанент лічыць, што ёсць літаратура "першага шэрагу", сапраўды якасная, а ёсць "другога гатунку" — фантастыка... Але такая ўстаноўка ідзе ўразрэз з тым, што А. Іванчанка спрабуе адстойваць..." З цытавання мною акта, дзе нічога няма пра фантастыку, А. Сілецкі вывеў, што я лічу яе жанрам другога гатунку, і тым выкрыў маю нібыта крывадушнасць: лічу жанр другарадным, а пішу, што ніхто так не лічыў.

Адна з галоўных тэм фантастыкі — будучыня. Шмат хто лічыць, што XXI стагоддзе стане векам новага прышэсця сацыялізму. Прачытаўшы раман Беламі пра сусветны сацыялізм, Л. Талстой садзейнічаў яго выданню ў Расіі. Раман пахваліў Янка Купала (1934). А. Сілецкі піша, нібыта Н. Крупская склала спіс шкодных кніг, куды ўвайшло шмат фантастычнай літаратуры. У тым ліку і згаданы раман Беламі. "Усе шкодныя выданні звозіліся ў велічэзныя гурбы і ўрачыста аддаваліся агню... задоўга да аналагічных дзеянняў Гітлера". Лічу недарэчнай фантазію А. Сілецкага, што Купалу маглі рэпрэсіраваць за пахвалу твора Беламі, а тым больш калі б ён хваліў "Вызвалены свет" Уэлса. Яго раман пра калектывісцкую Сусветную Рэспубліку, якая ўзнікла пасля атамнай вайны, мяркуючы па ўсім, не лічыла "шкодным" нават Крупская.

Я шукаў факты супраць камуністаў, чытаў успаміны Алега Волкава, Сяргея Грахоўскага і іншых вязняў Гулагу, дзённікі К. Чукоўскага (дзе шмат згадак пра спрэчкі з Крупскай), М. Прышвіна і г.д. І нідзе не было пра буйное ўрачыстае спальванне кніг. Як не было такіх звестак і ў Інтэрнэце.

У адным згодны з апанентам: недарэчы згадаў "Чароўную гару" Т. Мана. А. Сілецкі назваў фантастамі і тых, каго "Энцыклапедыя фантастыкі" (Мінск, 1995), як і я, не лічыць такімі, у тым ліку Чэхава, Мана. Калісьці ўжо пісаў, што ў Чэхава герой апавядання ў тэлескоп бачыць Гродна, але гэта ўсяго 18 радкоў — мала для залічэння ў фантасты. Элементы фантастыкі ёсць у Мана ў "Прызнаннях авантурыста Фелікса Круля", дзе д-р Круц разважае пра тры таямніцы Сусвету (як быццё ўзнікла з небыцця, жывая матэрыя з нежывой і разумнае рэчыва — з неразумнага) і ў "Чароўнай гары" (жыццё як "захворванне матэрыі", "касмічныя пачвары, якія складаюцца з сонечных сістэм" і г.д.). Але ніякая гэта не фантастыка: згаданыя разважанні ніяк не ўплываюць на дзеянне. Таму я напісаў: самае фантастычнае ў Мана — "дужа элегантная правінцыялка з Мінска" сярод пацыентак тубсанаторыя ў Давосе ("Чароўная гара". Бо прыемна бачыць беларускія назвы, згаданыя ў сусветнай літаратуры (Мінску чамусьці не шанцуе, яго назву сустрэў толькі ў "Гадзюцы" А. Талстога, калі гаварыць пра класіку).

Аднак артыкул даваўся скарацiць, і я зняў усё пра "не фантастаў", акрамя Гродна Чэхава і Мінска Мана. Скарацілі і даму з Мінска. А згадка пра "Чароўную гару" засталася...

# Духоўнасць — дарога да Бога

Надзея ПАРЧУК

Сёлета выйшаў у свет калектыўны зборнік духоўнай паэзіі і прозы берасцейскіх творцаў. Называецца ён "Дазволь прычасціцца…"

"Сапраўднае мастацтва пачынаецца з малітвы. Паэзія — таксама. Ці не таму ва ўсім свеце не знойдзецца, бадай, ніводнага паэта, які б за ўсё сваё творчае жыццё ні разу не паспрабаваў бы стварыць *сваю* малітву, *сваю* песню-ўшанаванне Госпаду, не скіраваў бы свой творчы талент (ці Божы дар) у філасофска-духоўным накірунку?" Такімі словамі пачынаецца прадмова да зборніка.

Пад адной вокладкай месяцца творы шаснаццаці аўтараў (паэтаў і празаікаў), чые душы напоўненыя дабрынёй і верай і не абдзеленыя нябёсамі дарам, духоўнай асветленасцю і натхнёнасцю. Сярод іх І. Дацкевіч, Р. Бензярук, Т. Лазнюха, М. Якімук, І. Рудкоўская… Кожны творца па-свойму спрабуе даследаваць трапяткое бяздоннe сэрца, глыбіню чалавечай душы і, у рэшце рэшт, прыходзіць да высновы, што яму, чалавечаму сэрцу, немагчыма без любові да Бога, без веры ў Яго прысутнасць, магутнасць і мудрае ўздзеянне на людзей. Кожны з аўтараў сэрцам адчувае і розумам спасцігае, што неўміручая святая вера і ёсць сэнс чалавечага існавання на зямлі, а духоўнасць — гэта найкаштоўнейшы набытак душы, найважнейшая яе ўласцівасць.

У розных аўтараў, вядома, свой густ і стыль, але галоўныя тэмы і матывы паэзіі — адны. Гэта тыя ж хрысціянскія ідэі міласэрнасці, дабрыні, жыццялюбства, разуменне адказнасці перад людзьмі і Богам за свае ўчынкі, імкненне да ачышчэння душы і прабачэння ўсялякіх крыўд, філасофскія разважанні пра веліч і сілу Божую, замілаванасць прыгажосцю прыроды, створанай Усявышнім.

Варта сказаць, што кожны з аўтараў зборніка з вялікай адказнасцю паставіўся да падборкі сваіх твораў, старанна працаваў над імі. Таму яны гучаць шчыра, усхвалявана, пранізаныя любоўю і не пазбаўленыя літаратурнай вобразнасці і светлай мастацкасці. А ў доказ працытую радкі В. Бакун:

*Як толькі ў небе вызірне заранак*
*І… усміхнецца сонейкам Палессю,*
*Зноў цішыню парушыць ў светлы ранак*
*Царкоўны звон, што льецца ў паднябессе.*

Паэты, якія звяртаюцца да духоўнай тэматыкі, як правіла, яшчэ і мысліцелі і філосафы. Таму яны карыстаюцца асаблівай павагай і любоўю вернікаў-хрысціян. Бо праз паэзію, праз высокае духоўнае слова перадаецца глыбокая чалавечая любоў да Айчыны, свайго краю, услаўляецца сіла і слава Божая.

Бог — гэта вечнае святло, а святло ёсць вечная святая крыніца жыцця. Паколькі Бог стварыў чалавека па сваім вобразе і падабенстве і ўдыхнуў у яго Свой Дух, то душа — гэта *Божае святло* ў чалавеку, надзеленае стваральнай сілай і нястомнай прагай, здольнасцю памнажаць прыгажосць. Са старонак калектыўнага зборніка з далікатна-сціплай, хрысціянска-трапяткой назвай "Дазволь прычасціцца..." яны, звяртаючыся да Бога, не толькі моляцца за сябе, сваіх блізкіх, родную Беларусь, але і просяць нас, людзей: не выцясняйце з сябе любоў, бо чалавечае сэрца павінна быць па-чалавечы трапяткім!

Адным словам, кніга, выдадзеная пры актыўнай дапамозе Брэсцкай епархіі Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхата, вартая ўдумлівай чытацкай увагі.

Universum



Віка ТРЭНАС

# Вандроўка па зведанай зямлі

*Ці часта мы задумваемся, ідучы штодзень на працу звыклым маршрутам, якія загадкі гісторыі захоўвае ў сабе тая ці іншая вуліца, сведкамі якіх падзей сталіся старыя забудовы і хто ўзнімаўся па той жа лесвіцы, што і мы, пракладам, гадоў 50 або 150 таму? Пэўна ж, не, аднак за будзённасцю хаваецца метафізіка, а ў кожнай мясціне ёсць genius loci ("геній месца"). Гэта відавочна гэтак жа, як і тое, што ў кожным з нас існуе падсвядомае імкненне памятаць нашых дзядоў і прадзедаў і перадаваць атрыманыя ад іх веды наступным пакаленням. Калі да ведаў далучаецца любоў да таго месца, дзе чалавек нарадзіўся і вырас, атрымліваецца краязнаўства. Асмелімся назваць гэтую навуку "метафізічнай картай" той або іншай мясцовасці, бо гаворка ідзе не толькі пра фіксацыю гістарычных фактаў, але і пра фарміраванне нацыянальнай памяці. Каб не заблукаць у не знаёмых дагэтуль куточках нашай Радзімы, возьмем з сабой у падарожжа компас. А лепей — дасведчанага праваднiка.*

## Светлагоршчына ў пытаннях і адказах

Компасам, калі мы збіраемся наведаць Гомельшчыну, можа стаць кніга краязнаўчых нарысаў, што нядаўна пабачыла свет у выдавецтве "Галіяфы". А праваднiком — яе аўтар.

Віктар Раманцоў — журналіст, літаратар, краязнаўца — нарадзіўся ў 1970 годзе ў Светлагорску. Скончыў Светлагорскі індустрыяльны тэхнікум і філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны. Да 450-годдзя роднага горада (дарэчы, які да 1961 года меў назву Шацілкі) Віктар падрыхтаваў навукова-папулярнае выданне "Зведаная зямля: Светлагоршчына ў пытаннях і адказах". У кнігу ўвайшлі 50 артыкулаў, прысвечаных самым важным падзеям, што адбыліся ў Светлагорскім раёне ў розны час — ад старажытнасці да сучаснасці. Не меншую ўвагу ўдзяліў аўтар і нарысам пра славутых людзей, лёс якіх тым ці іншым чынам звязаны з гэтай зямлёй. Дзякуючы руплівасці Віктара Раманцова пра Светлагоршчыну можна даznацца літаральна ўсё: ад першых пісьмовых згадак пра паселішча з маёнткам Шацілінскі Востраў (1560) да інфармацыі пра ўдзельнікаў адборачнага тура дзіцячага "Еўрабачання" 2006 (Крысціна Макарчук) і 2010 (Ягор Шаранкоў) гадоў. У кожным артыкуле ёсць спасылкі на першакрыніцы. Асабліва цікавасць уяўляе ілюстрацыйны матэрыял: напрыклад, праекты гербаў і сцягоў Светлагорска рознага часу.

Ва ўступным слове Віктар Раманцоў піша: "Я даю табе, чытачу, кавалачак маёй спазнанай зямлі <…> Гэта кавалачак майго часу, у якім я жыву і са званіцы якога сузіраю падзеі. Мае крытэрыі простыя. Гісторыя краіны складаецца з гісторыі яе рэгіёнаў. Гісторыя маёй зямлі — гэта істотныя падзеі, якія адбыліся ТУТ, яна тоіць незвычайнае, неверагоднае, дзіўнае. Выбітныя людзі маёй зямлі —толькі тыя, хто нарадзіўся ТУТ і зрабіў у жыцці штосьці адметнае".

Светлагоршчыне пашчасціла з таленавітымі жыхарамі. Такая кніга не зашкодзіла б кожнаму рэгіёну. Каб беларусы ведалі, пра каго расказваць сваім дзецям, ствараючы тым самым повязь паміж мінулым, сучаснасцю і будучыняй.

# Сатканы з гукаў лёс

**Святлана Абдулаева (Юшкевіч) нарадзілася 23 снежня 1964 года ў вёсцы Ашмяны Шчучынскага раёна. Закончыла Гродзенскае музычнае вучылішча, працуе ў Навагрудскай дзіцячай школе мастацтваў. Друкавацца пачала з 1985 г. Кампазіцыя пераважнай большасці яе вершаў заснавана на рэпрызе: праз паўторнае вяртанне да пражытай толькі што настраёвасці выяўляецца дзеянне духоўнай сілы, якая шукае выйсця да паўнаты, да сэнсу — яшчэ пакуль што няяснага, але абавязкова недзе існага. Кожны верш Святланы Абдулаевай нагадвае музычную п'есу, накцюрн, які выконваецца ў актуальным часе.**

**Аляксей РАГУЛЯ**



Святлана Абдулаева

## Карагод

* * *

*Адлятаюць у вырай*
*Зноў дзікія гусі,*
*Я на неба, як кліраc,*
*За цябе памалюся.*
*А таксама за птушак —*
*Хай яны ў сваёй скрусе*
*Твае сны не парушаць.*

*Гнуцца нізка ад ветру*
*Ў садзе тонкія вішні...*
*Хай табе, нібы кедру,*
*Сіл пашле Усявышні.*
*Калі ж цёплае лета*
*Звяжа збожжа снапамі —*
*Вось тады за мяне ты*
*Памаліся у храме.*

## Рву я рамонкаў белых пялёсткі

*Рву я рамонкаў белых пялёсткі,*
*Хоць і не веру ў самападман.*
*А за ракою ціхую вёску*
*Ужо закалыхвае белы туман.*

*Прыйдзе, не прыйдзе —*
*скажы мне, рамонак,*
*Верыць, не верыць... Чакаць альбо не?*
*Ах, як удалечы грае гармонік!*
*Божа, мо гэта ўсё мроіцца мне?..*

*З неба начнога яркая зорка*
*Раптам сарвецца пад ногі ў траву.*
*Вузкай сцяжынкай прайду я па ўзгорку,*
*Белых рамонкаў букецік нарву.*

*Прыйдзе, не прыйдзе —*
*скажы мне, рамонак,*
*Верыць, не верыць... Чакаць альбо не?*
*Ах, як удалечы грае гармонік!*
*Божа, мо гэта ўсё мроіцца мне?..*

* * *

*На цёплым узмор'і — усё, як калісьці...*
*І чайкі здалёку зноў крыкам вітаюць.*
*А мне падаецца —*
*што белыя пісьмы*
*Ляцяць да мяне...*
*і не далятаюць.*
*Усё, як заўсёды на ціхім узмор'і...*
*А я адчуваю, сягоння — інакшай,*
*Хоць пірс той жа самы*
*і тое ж надвор'е...*
*Слядоў Вашых побач*
*з сабою — не бачу...*

* * *

*У снежнай завеі гублялася ўсё:*
*Бярозавы гай за дарогай,*
*Малыя хацінкі раскіданых сёл*
*І велічнасць дуба старога.*
*У рытмах зімовых кружыўся прастор,*
*Знікалі абрысы прадметаў.*
*Сняжынкі ляцелі, як ціхі дакор,*
*А сэрца так прагнула лета...*

* * *

*Гучала баркарола у цішы*
*І паланіла сумам невядомым,*
*Які быў так падобны да імжы,*
*Што сыпле ўвосень*
*на аэрадромы...*
*Гучала баркарола у цішы,*
*І слухаў піяніст яе...*
*і студзень...*
*А я стаяла моўчкі на мяжы*
*Між тым, што ўжо было,*
*і тым, што будзе...*

## Свіцязянскі пейзаж

*Кранаўся змрок ледзь-ледзь*
*Зямлі суровых рыс.*
*З дубоў лістота-медзь*
*Ляцела сонна ўніз.*
*І ціхі плёскат хваль*
*Лазурнае вады*
*Змываў усе, на жаль,*
*Сівых легенд сляды.*



Фота Яўгена Шастакова



Аляксей Галаскок

## Запавет

*З вядром пустым не пераходзь дарогу,*
*Чужыя грошы доўга не трымай,*
*Ніколі не кляніся Богу,*
*Нялюбых па жыцці не абдымай.*

*За плот сваё не перакідвай смецце,*
*З чужога саду яблык не зрывай,*
*Ніколі не жадай другому смерці,*
*Радню сваю, бацькоў не забывай.*

*Хто шчасце меў,*
*таму не пазайдросці,*
*Старому добрым словам адкажы.*
*Не запрашаюць — не ідзі у госці*
*І адступі хоць трошкі ад мяжы.*

*Аддай, як просяць,*
*свой крышан апошні,*
*Не кроч па буйным жыце напраскі...*
*Бо прыйдзе час і на жыццёвай пожні*
*Адно пустыя знойдзеш каласкі.*

* * *

*Старэю я... А бацька не старэе,*
*Такі, як быў, ён з помніка глядзіць.*
*Адзін другога мы ўжо не сагрэем.*
*Я штосьць кажу яму,*
*а ён — маўчыць.*

*Кажу яму пра ўсё на гэтым свеце*
*(А можа, мае словы далятуць?):*
*Як мы жывём, якія нашы дзеці*
*Ды праўнукі, як па зямлі ідуць.*

*Я ведаю: мне бацька не зайздросціць,*
*Бо ён пажыў, а я яшчэ жыву,*
*Пакуль хаджу я на магілкі ў госці,*
*Пакуль схіляю нізка галаву...*

* * *

*Сёння восень на маім двары,*
*А на скронях нечаканы іней.*
*Адлятаюць даўнія сябры*
*Безгалосым,*
*незваротным клінам.*

*Ноч са мною стала сябраваць —*
*Не магу заплюшчыць доўга вочы.*
*Успаміны не даюць мне спаць,*
*Маё сэрца сцішыцца не хоча.*

*Марамі лячу я ў маладосць,*
*Думкамі — да той, бацькоўскай, хаты:*
*Тут цяпер я не жаданы госць —*
*Гаспадар скупы,*
*дзівакаваты.*

*Хата перароблена даўно*
*На свой лад*
*чарговымі жыльцамі.*
*Памянялі нават і акно*
*На верандзе,*
*устаўленае намі.*

*Восень засыпае на двары*
*Жоўтым лісцем тое,*
*што збылося.*
*Свецяць сумам зверху ліхтары,*
*Успаміны ноч люляе-носіць...*

* * *

*Без бацькоў памірае сад —*
*Плачуць дрэвы*
*празрыстым бурштынам.*
*Як так сталася, што назад*
*Не паклікала сэрца сына?*

*Колькі бацька здароўя аддаў,*
*Каб гудзела з бярвенняў хата.*
*Ён да самае смерці чакаў*
*Родных дзетак —*
*сваіх буслянятак.*

*Кожны вечар ля плота стаяў,*
*Сумаваў, пазіраў на гасцінец*
*І душою, і сэрцам чакаў.*
*Ён чакаў хоць малодшага сына.*



Жанна Навіцкая

## *Трыпціх*

### Requiem aeternam*

*Восень.*
*Цяжкія хмары*
*Расплаўленым свінцом*
*Збіраюцца за даляглядам.*

*Восень.*
*Ізноў балюча*
*Вецер зрывае лісце.*
*Счарнелыя ружы.*

*Восень.*
*Па размытым шляху*
*Крочыць асірацелы вандроўца —*
*Вечнасць.*

### Dies irae**

*Удар. Другі.*
*Мацней — балюча:*
*Б'ецца сэрца.*
*Удар. Яшчэ:*
*Гоніць крывёю па венах.*
*Удар. Другі —*
*Глядзі! Крочаць!*
*Там — злева*
*Здзічэлыя душы!*
*Удар. Другі.*
*Мацней — балюча;*
*Збегчы?! — Зямля трымае.*
*Будучыня альбо нябыт?*
*Удар. Яшчэ.*
*Шукаючы шлях, стогне вецер:*
*Страчаны выраі.*
*Удар. Другі...*
*Б'ецца сэрца.*

### Lacrimosa***

*Самотнае рэха*
*Не ведае, каму адгукацца.*
*Сцюжа.*
*Вецер знішчае ўспаміны.*
*Паўзы...*
*Празрыстыя здані*
*Ладзяць карагод.*
*Калыханка.*
*Вусцішна. Розныя жыцці.*
*Паўзы...*
*Палацы крышталёвыя*
*Мароз будуе.*
*Страчана шмат...*
*Паўзы...*

* * *

*Абарані мяне каханнем,*
*Да сэрца шчыра прытулі.*
*Цуд выпадковага спаткання*
*Найбольш каштоўны на Зямлі.*
*Я вельмі стомлена чаканнем —*
*Хвіліны вечнасцю былі,*
*Душа знясілена расстаннем.*
*Абарані...*
*Абарані...*

* * *

*Вязі мяне ў свой Парыж,*
*Каб сэрца радасцю гучала.*
*Глядзіш ласкава ды маўчыш...*
*Я столькі год цябе чакала.*

*Ад вуснаў прагных увесь дрыжыш;*
*Пачуццяў гэтых я жадала.*
*Усмешкай дражніш*
*ды маўчыш...*
*Я ж так ніколі не кахала!*

*Твае гады... мая любоў...*
*Але ж каму якая справа!*
*Якая розніца — Парыж,*
*Мілан, Стакгольм або Варшава?*

*Вечны спакой
**Дзень гневу
***Рэквіем

Васіль БАРХАНАЎ

# Працуе выдавецтва ў Гомелі

**У пісьменніцкім і культурна-асветніцкім асяродку Гомеля шырока вядома ТДА "Барк", якое ўзначальвае Міла Беразоўская. "Барк" выдае кнігі мясцовых аўтараў, і выдае даўно, ствараючы канкурэнцыю гомельскім паліграфічным прадпрыемствам "Сож" і "Палесдрук".**



**— Міла Аляксандраўна, з чаго ўсё пачалося?**

— У Гомелі шмат вышэйшых навучальных устаноў, тут актыўна працуюць творчыя саюзы: пісьменнікаў, журналістаў, мастакоў… А творчыя людзі, як вядома, нешта ствараюць, чым яны і прагнуць падзяліцца з іншымі. Не ўсім удавалася дамагчыся свайго. Ехаць у Мінск — там шмат і выдавецтваў, і часопісаў, дзе можна было б надрукавацца… Але ці так ужо чакаюць там гамяльчан? Ды і не кожны асмеліцца звярнуцца. Калі я ўбачыла, што існуе такая праблема, падумала: а ці не ўзяцца мне за выданне кніг? Па адукацыі я гісторык, люблю літаратуру. Разумела, што гэта будзе няпроста зрабіць, але рашылася. І сёння не шкадую.

**— Сярод вашых аўтараў ёсць і прафесійныя літаратары, і вядомыя навукоўцы… Я і на сабе некалі адчуў, што вы вельмі патрабавальна ставіцеся да рукапісаў. Заўсёды ладзіце з аўтарамі ці бываюць і канфліктныя сітуацыі?**

— Мы разумеем сваю адказнасць за тое, якой кніга прыходзіць да чытача. Таму сур'ёзна і старанна працуем з тэкстамі. Аўтары ўдзячны за гэта і разам з намі рыхтуюць рукапісы да выдання. Бываюць і выключэнні. Некаторым хацелася б, каб відавочныя моўныя хібы мы ўспрымалі за арыгінальнасць. Безумоўна, не пагаджаемся. Тады раімся, спрачаемся, бяром у рукі слоўнікі, падручнікі… І, у рэшце рэшт, прыходзім да паразумення. Адначасова хачу адзначыць, што да аўтарскага стылю (вельмі добра, калі ён ёсць!) мы ставімся далікатна і максімальна яго захоўваем.

**— Плённа сябруюць з вамі, наколькі я ведаю, выкладчыкі-гуманітарыі ГДУ імя Ф. Скарыны. А нядаўна мне падараваў кнігу "Тэатр мой — Беларусь святочная" рэжысёр народных свят і відовішчаў, публіцыст і паэт Мікола Макарцоў. Гляджу — выдадзена ў "Барку".**

— Так. У асноўным мы выдаём навукова-папулярную літаратуру па пытаннях гісторыі і культуры як Гомельшчыны, так і ўсёй Беларусі. Зыходзім з таго, што мінулае — гэта той фон, на якім разгортваюцца падзеі сённяшняга дня, а повязь часоў — не стэрэатып, а духоўная катэгорыя. Мы выдавалі кнігі па паходжанні беларускага этнасу і назвы "Белая Русь", гісторыі і гістарычнай антрапаніміі Гомеля і наваколля, пошуку вытокаў і станаўленні нашага горада. Гісторыя Вялікай Айчыннай вайны, гэтага трагічнага часу ў жыцці краіны, таксама знайшла адлюстраванне ў нашай выдавецкай дзейнасці.

У пазнанні мінуўшчыны вялікае значэнне маюць тапонімы. Яны — своеасаблівыя помнікі роднай гісторыі, культурна-эстэтычныя каштоўнасці, у якіх адлюстраваны мудрасць і душа народа. Вельмі плённа ў гэтым напрамку — на стыку агульнага мовазнаўства, сацыяльнай і этнічнай лінгвістыкі, этналогіі і гістарычнага краязнаўства — працуе наш пастаянны аўтар, доктар філалагічных навук прафесар А. Рогалеў. Намі выдадзены многія яго працы. І цяпер рыхтуецца да выдання "Тапанімія Беларусі, легенды і паданні ў эзатэрычным аспекце".

Асобныя нашы выданні былі прысвечаны абрадаваму фальклору, каляндарна-абрадавай паэзіі, замоўнаму слову, прыкметам і павер'ям, русальнай традыцыі Гомельшчыны. Тут мы цесна супрацоўнічаем у першую чаргу з даследчыцай народнай творчасці, доктарам філалагічных навук прафесарам В. Новак.

**— Ведаю, што вы выдавалі і мастацкую літаратуру.**

— Так, выдаём і мастацкую, і дакументальную прозу, і публіцыстыку. Звярнулі, напрыклад, увагу чытачы на раман маладога таленавітага празаіка Ю. Рыдкіна "Німб над сэрцам", на эсэ журналістаў Д. Смірнова і С. Смірнова "Несакрэтныя матэрыялы".

Не так даўно ў нас выйшла кніга пісьменніка і драматурга Васіля Ткачова "Булачка". Гэта кніга гумару на трох мовах: беларускай, рускай і ўкраінскай. Весела і з душэўнай цеплынёй распавядае аўтар пра розныя смешныя выпадкі з людзьмі. Рыхтуюцца да выдання кнігі знаёмых чытачам пісьменнікаў Юрыя Фатнева, Рыгора Андрэяўца, Барыса Кавалерчыка.

**— У мяне ў руках адна з апошніх кніг, якая пабачыла свет у "Барку". Гэта зборнік вершаў "Город древний над кручами Сожа". Своеасаблівае выданне, ці не так? Я маю на ўвазе тое, што вы сабралі ўсе вершы, якія прысвечаны нашаму гораду. Ці амаль усе…**

— Не пагаджуся. Мы выбралі толькі лепшае з таго, што напісана пра Гомель. І менавіта тое, дзе найбольш глыбокія пачуцці і дасканалая форма, дзе яскрава адчуваецца прыцягненне роднай зямлі.

Наш горад заслужыў таго. Адзначу толькі, што сёння ён з'яўляецца цэнтрам міжрэгіянальнага ўзаемадзеяння Беларусі, Украіны і Расіі як культурны, прамысловы і турысцкі цэнтр, займае віднае месца ў жыцці краіны і бліжэйшых рэгіёнаў замежжа. Гомелю прысвячалі вершы Пятрусь Броўка, Паўлюк Пранузa, Канстанцін Цітоў, Іван Кірэйчык, Анатоль Грачанікаў, Браніслаў Спрынчан, Віктар Ярац, Эдуард Акулін, Алесь Дуброўскі, Міхась Башлакоў, Мікола Старчанка, Міхась Буткевіч, Юрый Максіменка, Яўген Саблін, беларускі масквіч Дзмітрый Кавалёў, а таксама Яўген Далматоўскі і многія іншыя паэты.

Крыху раней у нас выйшаў зборнік вершаў паэтаў Гомельшчыны "Святло шчымлівай памяці", які вельмі хутка знайшоў свайго чытача.

**— Вы выдалі таксама асобныя зборнікі вершаў многіх гомельскіх паэтаў.**

— Бачыце, на кніжнай паліцы ў нас стаяць паэтычныя зборнікі вядомых у рэспубліцы аўтараў, членаў пісьменніцкага саюза Алеся Дуброўскага, Галіны Нячаевай, Генадзя Лапаціна, Алены Кобзевай, Ніны Шкляравай, Генадзя Говара.

**— Ці здаралася адмаўляць аўтарам, якія пішуць вершы, у выданні іх твораў?**

— Такое адбываецца вельмі часта. Мы паважліва ставімся да ўсіх, хто спрабуе пісаць і піша. Але заўсёды акрэсліваем: ёсць паэзія — і ёсць рыфмаваныя радкі для сябе. Ці лёгка гэта растлумачыць асобным людзям? Бывае, і няпроста. І плакалі ў маім кабінеце, і крычалі, і пагражалі…

**— Здаецца, паэзія ўвогуле ваша асабістае захапленне?**

— Паэзію я сапраўды люблю і не ўяўляю жыцця без яе. Прыгожае слова здольнае ўзбагаціць, узнесці душу, вярнуць ёй раўнавагу, быць яе абярэгам.

**— Ведаю, што ў вашага калектыву добрыя сувязі з гарадской бібліятэкай імя Герцэна.**

— Сапраўды добрыя. У бібліятэцы праходзяць прэзентацыі многіх нашых выданняў. Да іх правядзення супрацоўнікі на чале з дырэктарам Т. Уласавай ставяцца з разуменнем важнасці гэтай справы. І робяць усё з добрым густам. Мы вельмі ім удзячны за прапаганду кнігі і творчасці мясцовых аўтараў.

Планы ёсць і на будучае, часткова пра іх я ўжо казала. Галоўным у нашай выдавецкай працы лічу тое, што мы дапамагаем чытачам больш глыбока пазнаваць родны край, духоўныя вытокі, асэнсоўваць свой лёс у плыні гістарычнага часу.

## *Прэзентацыя*

Вольга ПАЛОМЦАВА

# Мужнасці прысвячаецца

У Музеі кіно прайшла вечарына, прысвечаная адразу некальком падзеям: прэзентацыям кнігі Сяргея Трахімёнка "Чаша Петры", дакументальнай стужкі "Крэпасць над Бугам" (аўтар сцэнарыя і вядучы — Сяргей Трахімёнак) і 65-й гадавіне з дня нараджэння паэта Мікалая Шыпілава, чые песні займаюць важнае месца ў рэпертуары Сяргея Аляксандравіча.

Здавалася б, што можна сказаць новага пра Брэсцкую крэпасць, якая даўно ўжо стала сімвалам самаахвярнага супрацьстаяння ворагу? Аўтару сцэнарыя Сяргею Трахімёнку, рэжысёру Аляксандру Анісімаву і аператару Мікіце Пінігіну гэта ўдалося. Гісторыя крэпасці падаецца ў нечаканым ракурсе — яна выходзіць за межы кантэксту Другой сусветнай вайны. Ды і звесткі пра вайну пашыраюць нашу свядомасць. У стужцы задзейнічаны невядомыя кадры з архіваў Брэсцкай крэпасці — хроніка варожага боку. (Нямецкім салдатам, у адрозненне ад савецкіх, не было забаронена здымаць падчас баявых дзеянняў.) На жаль, захопленыя архівы тых фота з палоннымі далі падставу меркаваць, што ўвесь гарнізон крэпасці здаўся. І толькі дзякуючы журналісту Сяргею Смірнову сапраўдная гісторыя абароны крэпасці была адноўлена. Асэнсаваць подзвіг людзей, якія першымі сустрэлі ворага, дапамагае лаканічная мова фільма "Крэпасць над Бугам" Белвідэацэнтра.

Мерапрыемствы, прысвечаныя памяці М. Шыпілава, адбыліся і ў Новасібірску, дзе ён нарадзіўся, і ў Мінску, дзе прайшлі апошнія гады жыцця. У памяць пра Мікалая Шыпілава, чыя паэзія прасякнута высокім грамадзянскім напалам, у Музеі кіно прагучалі добрыя словы і быў паказаны ўрывак з фільма, прысвечанага гэтаму неардынарнаму чалавеку.

Многімі рысамі, якімі можна ганарыцца, надзяліў Сяргей Аляксандравіч і героя свайго новага рамана "Чаша Петры, ці Руская цывілізацыя: генезіс і праблемы выжывання", што нядаўна ўбачыў свет у РВУ "Літаратура і Мастацтва". Раман адлюстроўвае супрацьстаянне ўсходняй і заходняй ідэалогій, пошукі і памылковыя гіпотэзы, разважанні над лёсам чалавецтва.

## *У падтрымку чытання*



**Дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вячаслаў Даніловіч:**

# Гісторыя праз усё жыццё

Марына ВЕСЯЛУХА

— Заўсёды любіў і па сёння люблю чытаць. У дзяцінстве мяне цікавіла гістарычная літаратура, у якой наша мінуўшчына падавалася ў мастацкім выглядзе. У гэтым кірунку бясспрэчным лідарам назаву Уладзіміра Караткевіча. Захаплялі і творы Васіля Быкава: ён майстар у тым, што датычыць гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Чытаю шмат, але цяпер гэта ў асноўным выданні, якія рыхтуюцца нашым Інстытутам — гістарычная літаратура навуковага і навукова-папулярнага кшталту.

Кнігай на ўсё жыццё магу назваць выданне "Старажытны Полацк", што падрыхтавана знакамітым гісторыкам і археолагам Георгіем Штыхавым. Гэтая кніга была ў майго дзеда. Калі наведваўся да яго, заўсёды гартаў, разглядаў фотаздымкі і малюнкі ў выданні. Яна блізкая яшчэ і таму, што нарадзіўся я ў Полацку, адсюль вытокі маёй цікавасці да гісторыі. Дарэчы, Георгій Васільевіч і сёння працуе ў нашым інстытуце, што мне надзвычай прыемна.

*Маладзічок*

# Такія розныя прыкметы

**Выдавецтва “Народная асвета” прапануе новыя кніжкі з любімай чытачамі серыі “Апавяданні Дзеда Прыродазнаўцы”.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА




Гэтым разам аўтары Галіна і Сяргей Трафімавы адпраўляюць свайго любімага героя разгадваць загадкі кольцаў і ўсяго чорнага, што ёсць вакол нас. Кніжка “Чаму ў чорных парэчак ягады чорныя?” запросіць не толькі ў сад, дзе духмянае лета. Мудры Дзядуля раскрые перад вамі шмат іншых “чорных” таямніц прыроды. Ён раскажа пра дрэвы з чорнай драўнінай, птушак з чорным пер’ем, запросіць у вандроўку да Чорнага мора і Чорнага возера, падзеліцца рэцэптам прыгатавання чорнай солі, дарэчы, вельмі карыснай, раскажа, адкуль бярэцца чорны і не толькі перац. Вы зазірняце на дно акіяна, дзе хаваюцца “чорныя курыльшчыкі”, і ў зорны космас, дзе ёсць небяспечныя “чорныя дзіркі”, даведаецеся, дзе можна ўбачыць чорнага бусла, чорнага дразда і чорнага стрыжа. Ужо калі пачалі пра птушак, даведаецеся, што чорны воран зусім не “муж” шэрай вароны.




Ці ведаеце вы, што ў Італіі абаронцы жывёл адзначаюць Дзень чорнага ката? Усміхніцеся: чорнага ката не толькі не баяцца, але і вельмі паважаюць. Напрыклад, для англічан сустрэча з ім — добрая прыкмета. Яны лічаць: калі кот ускочыць у дом — гэта да радасці, а калі чорная котка чхне побач з маладой — гэта да шчаслівага сямейнага жыцця. І ў сем’ях англійскіх маракоў вераць: пакуль чорны кот у доме, рыбаку ў моры небяспека не пагражае.

Не менш цікавай падасца і кніжка “Раз — кальцо, два — кальцо”, прысвечаная ўсяму, што мае адпаведную форму, але размова пойдзе не пра ўпрыгажэнні, хлебабулачныя вырабы, хаця Дзядуля і раскажа, адкуль пайшла мода на пірагі з дзіркай пасярэдзіне, не пра снарад, на якім працуюць гімнасты, а пра кольцы, якія сустракаюцца ў прыродзе. Вы даведаецеся, чаму зарасці крываўніка і “калоніі” грыбоў маюць форму кольцаў, як па кольцах на спілах дрэў і на рыбінай лусцы вызначыць іх узрост, якія земнаводныя могуць зварочвацца колам, навошта людзі кальцуюць пералётных птушак. Можа, вам пашанцуе некалі ўбачыць снег, скатаны кольцамі. Гэтыя “абаранкі” зрабіў не хто іншы, як вецер, дзьмучы на снег, які сыпаўся на ледзяную корку шарпаку. Чакае вас разам з Дзядулем падарожжа па марах-акіянах, дзе “растуць” кальцавыя рыфы — атолы. Не абыдзецца і без экскурсіі ў космас. У якіх планет, апрача Сатурна, сучасная тэхніка дазволіла налічыць кольцы і з чаго тыя кольцы створаны, што насамрэч людзі ведаюць пра туманнасць Кальцо — безліч цікавых фактаў знойдзецца на старонках гэтага каляровага выдання.

У кніжках “Чаму ў чорных парэчак ягады чорныя?” і “Раз — кальцо, два — кальцо” традыцыйная “Гульнятэка Дзеда Прыродазнаўцы” прапануе шмат займальных рэбусаў ды загадак.

Марына ВЕСЯЛУХА




**У апошнія гады на паліцах кнігарняў з’яўляецца шмат цікавых кніг, што распавядаюць пра вытокі беларускай дзяржаўнасці, лёс нашага народа на працягу стагоддзяў, знакамітых беларусаў. Гэта самыя розныя выданні, разлічаныя на рознага чытача — спецыяліста, навукоўца, турыста. Адметнае месца ў гэтым шэрагу займаюць выданні серыі “Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі” выдавецтва “Пачатковая школа”. Іх патэнцыяльныя чытачы — вучні пачатковых і сярэдніх класаў, якія толькі пачынаюць знаёмства з гісторыяй. Не так даўно ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь прайшла прэзентацыя другой кнігі гэтай серыі “Мінск — сталіца Беларусі”.**

# Школьнікам — пра Мінск

Заканамерна, што выданне кніг серыі “Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі” распачалося з самага старажытнага горада краіны — Полацка. Цяпер жа аўтары звярнулі ўвагу на сталіцу дзяржавы — Мінск. Як распавёў Навум Гальпяровіч, адзін з аўтараў, “задума гэтай серыі ўзнікла даўно. Яна выпеставана ў родным Полацку. Мы хацелі ў першую чаргу расказаць юным чытачам пра нашу гісторыю, адметнасці нашай зямлі. У гэтых кнігах ёсць гістарычныя звесткі, фотаздымкі, пытанні да школьнікаў, звесткі пра ганаровых грамадзян, літаратурныя прысвячэнні гораду. Адметнасцю выдання пра Мінск стала тое, што ў якасці дадатку прапаноўваецца мультымедыйны дыск з песнямі, прысвечанымі нашай сталіцы”.

Праект выдання кніг серыі разлічаны на многія гады. І таму ў наступным годзе, калі будзе адзначацца юбілей Полацка, з’явіцца нагода зноў звярнуцца да кнігі “Полацк — бацька гарадоў беларускіх”. Навум Якаўлевіч выказаў спадзяванне, што ўрокі полацказнаўства пройдуць не толькі ў самым старажытным горадзе Беларусі, але і ў іншых мясцінах краіны.

Што ж да новай кнігі пра Мінск, то аўтары прызналіся, што вельмі складана было змясціць увесь багаты матэрыял пра сталіцу ў фармат адной кнігі. Таму выбіралася найлепшае. Над кнігай працаваў аўтарскі калектыў. Гэта не толькі Навум Гальпяровіч і Наталля Ваніна, дырэктар, галоўны рэдактар выдавецтва “Пачатковая школа”, але і мінчукі Вітаўт Чаропка і Таццяна Сівец.

Намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Тадэуш Стружэцкі падчас прэзентацыі падкрэсліў: “Выданне кніг гэтай серыі — вельмі важны праект, які своечасова распачаты ў краіне. Магчыма, мы яго сёння крыху недаацэньваем, але я ўпэўнены, што з кожным годам ён будзе прыцягваць да сябе самых розных выканаўцаў: пісьменнікаў, навукоўцаў, практыкаў, кіраўніцтва гарадоў, пра якія будуць пісацца кнігі”.

У выдавецтве ўжо ідзе праца над падрыхтоўкай трэцяй кнігі серыі “Гарады і гістарычныя мясціны Беларусі”. Наступнае выданне будзе прысвечана адзінаму каралеўскаму гораду краіны — Гародні.

*Мовазнаўства*

# Языкаломкі язык не паламаюць...

***Заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, пісьменнік, мовазнавец, педагог, перакладчык — усё гэта Анатоль Клышка ў адной асобе. А яшчэ ён аўтар кніга-камплектаў (“Буквар”, “Пропісь 1”, “Пропісь 2”, “Пісьмо”) для навучэнцаў 1-га класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання. З 2000 года ў букварах А. Клышкі прапаноўваецца новая методыка засваення граматы. Загадкі, скорагаворкі, займальныя практыкаванні дапамагаюць дзецям глыбока вывучыць матэрыял, развіць памяць, здольнасць думаць. Пра нязведаныя магчымасці мовазнаўства — артыкул Анатоля Клышкі.***

Анатоль КЛЫШКА

Языкаломкі... Некаторыя аўтары называюць творы гэтага жанру па-руску — скорагаворкі. Другія ж, напрыклад, Рыгор Барадулін, па-ўкраінску: хуткамоўкі. А мне здаецца, па-беларуску няблага называць іх языкаломкі. Ёсць жа па суседстве яшчэ і галаваломкі.

Пад назваю языкаломкі я змясціў некалькі іх у сваіх падручніках. Бачу, мяне падтрымаў Васіль Жуковіч: у друку з’явіліся яго языкаломкі. А тут і ў аўтарытэтным энцыклапедычным даведніку “Фальклор Беларусі”, у якім знайшлося месца і нататцы пра мяне, Янка Саламевіч якраз спецыяльна адзначыў гэты мой наватвор.

Аднак да гэтага жанру нашы паэты звяртаюцца як бы мімаходзь, побач з іншымі жанрамі.

Дык вось парупілася мне падрыхтаваць асобны зборнічак языкаломак — амаль на ўсе гукі нашай мовы.

Падштурхнула да гэтага і праўнучка Мая. Гады ў чатыры яна ўзмоцнена сама сабе паўтарала словы з гукам “р”, які ў яе не вельмі выходзіў. Я чуў, як яна настойліва падбірае адпаведныя словы.

Чаму ж не дапамагчы дзецям, падабраўшы патрэбны гукарад?

І вось што пачало атрымлівацца: “У бабра торба дабра. Добра бабру: у бабра торба дабра”. Або: “Далі Даню дома дыню”. Ці: “Да Кіці і Каці пад’ехаў кот на самакаце”.

І дай, Божа, гумар, фантастыку...

У некаторыя языкаломкі падаліся загадкі. Напрыклад: “Колькі вішняў Насця можа з’есці нашча?”

І калі дзіця падкажа: адну (бо другая вішанька будзе ўжо есціся не нашча!), дык цудоўна! А сям-там языкаломцы можа паспрыяць форма прыказкі: “Ад папрокаў — адна марока”.

Дзе-нідзе няхай языкаломка прыме форму вучнёўскага павучання: “Пад вечар і ўвечар кажы: «Добры вечар!», а нанач: «Дабранач!»”.

А ці не карысна, калі языкаломка разгорне перад дзіцем прадметнае радаслоўе:

На радню наш збан багач —
гляк, гаршчок, гладыш, гарлач.

Але, вядома, часам рыфма, так добра служачы языкаломцы, гукава спалучаючы словы, раптам адцягвае аўтара ад асноўнага — спакушае забыцца, што яна — языкаломка, а не проста зарыфмаваны вершаваны радок.

Цяпер, калі ласка, паспрабуйце на зуб (даруйце, на язык, бо гэта ж языкаломкі!) некаторыя з іх. А свой зборнічак збіраюся паказаць майму ўлюбёнаму выдавецтву “Народная асвета”.

- На, Грыша, грошы на грушы.
- Спыталася ў слана сланяня, дзе сланяецца асляня.
- Бобік б’е бадзёра ў бубен. Бобік рады добрай будзе. Жыць у будзе Бобік будзе.
- Чатыры чарапахі і чатыры чарапашаняты.
- Саломіна са Слоніма, а трасціна з Трасцянца.
- Каля яліны — каліна, каля каліны — каляіны.
- Малы Улас улез у гразь і ўраз уграз.
- Ад ветру парэчкі ўсчалі сваркі і спрэчкі.
- Друкавалі друкары, брукавалі брукары.
- Чэся чэша ўздоўж шашы.
- Арэшкі ў арэшніку, а не ў алешніку.
- Аладка і паўаладкі — паўтары аладкі.
- Тры на тратуары і тры пры тратуары.
- Для Курты не страта, што хвост куртаты.
- Гурочкі — у бочкі, а грыбочкі — на шнурочкі.
- Маня маліну ламала, але мала наламала.

# Рай для гурмана

Денис МАРТИНОВИЧ,
Ольга ПОЛОМЦЕВА

**Прошли те времена, когда в меню были такие дорогие сердцу радости, как чай без заварки и сахара, "ливерка" и "кровянка", куриный суп без курицы. Теперь желудок требует куда более изысканной пищи. Представляем читателям "Кніжнага свету" кулинарные издания, которые вышли в ООО "Харвест".**

## Made in Japan

Японская кухня — одна из самых оригинальных и специфических в мире. Во многом на это повлияло то обстоятельство, что страна, которая находится на островах, на протяжении двух веков (с середины XVII до середины XIX) находилась в изоляции от остального мира и поэтому развивалась по собственным законам. Самое известное блюдо японской кухни — суши — можно отведать в любом уголке мира.

Книга **Дарьи Ермакович "Суши. Самое лучшее"**, которая вышла в серии "Карманная иллюстрированная энциклопедия", содержит большое количество рецептов основных японских



блюд и подробное описание процесса приготовления суши. Кроме того, читатели смогут познакомиться с премудростями японской трапезы, узнают правила поведения за столом, смогут детально разобраться в особенностях этикета при еде палочками.

Отдельная глава посвящена истории местной кухни. На страницах книги вы сможете познакомиться с древней легендой о том, как появились суши. Чтобы сохранить интригу, не будем пересказывать её полностью. Приведём только расшифровку термина. Согласно Д. Ермакович, слово "су ши" впервые произнёс 9-летний император Мей Цзы. Оно означало следующее: "Очень вкусные рисовые колечки с рыбкой внутри. Пусть тот, кто их приготовил, подойдёт ко мне!" С того времени это блюдо начало своё победное шествие по Японии, а затем и по миру.

## Попробуем "воду жизни"?

История этого напитка начинается с незапамятных времён. Ирландцы считают, что "воду жизни" изобрёл святой Патрик — покровитель Ирландии. Едва прибыв на остров, он начал обращать в христианство язычников и изготовлять "святую воду". Тогда как шотландцы убеждены, что он появился именно в их регионе от христианских миссионеров. Местные жители изменили процесс приготовления напитка (вместо винограда начал использоваться ячмень) и назвали его "водой жизни". Как вы уже догадались, речь идёт о виски.

В книге **Дарьи Ермакович "Виски. Самое лучшее"**, также вышедшей в серии "Карманная иллюстрированная энциклопедия", ценители напитка найдут описание технологии его производства, типы, историю возникновения той или иной марки, специфические особенности, а также правила дегустации. Подробно рассмотрена история виски: первоначально его готовили в монастырях и использовали исключительно как лекарство, поэтому количество продукции было достаточно скромным. И лишь позднее технология приготовления напитка вышла за монастырские стены и распространилась среди простых жителей.

## Как украсить блюда и стол?

Представьте, что суши приготовлены. Напитки ждут на кухне. Остаётся лишь "мелочь": правильно оформить праздничный стол. А ведь искусство украшения блюд — одна из немаловажных частей кулинарии. Умение сделать даже из обычного бутерброда привлекательное и аппетитное кушанье ценилось всегда и везде. Книга **Владимира Мартынова "Украшение блюд и праздничного стола"**, несомненно, поможет читателям, так как содержит множество интересной информации об оформлении блюд с учётом эстетических и художественных требований. Здесь имеются указания по правильному применению посуды, различных кухонных приспособлений и инструментов и даже рекомендации о сочетании



цветов в таком нелегком деле, как кулинария. В книгу включены рецепты блюд, сопровождаемые пошаговыми инструкциями и красочными иллюстрациями с возможными вариантами их оформления. Всё это, особенно если подключить фантазию и изобретательность, непременно поможет любой хозяйке порадовать близких изысканными и неповторимыми блюдами, которые станут настоящим украшением стола.

## Умереть от любви

Очаровать за один вечер! Книга **"Кухня любви"** адресована обладательницам именно такого девиза. Из этой мини-энциклопедии вы узнаете всё об афродизиаках, научитесь готовить восхитительные любовные напитки и разнообразить будни и праздники в соответствии с порой года и собственным настроением. Но помните: главное — знать меру. А то



ведь в Древнем Риме были вынуждены запретить продажу любовных зелий, потому что многие из тех, кому они предназначались, не успевали дожить до радостей любви: в растениях, из которых изготавливали зелья, содержались ядовитые вещества. Впрочем, к еде это не относится. Пряный морской коктейль из репчатого лука, молотой паприки, бальзамического уксуса и прочих деликатесов, кажется, не смертелен. Думаем, курица с финиками и салат из сыра с фруктами тоже. Равно как и свинина с сыром и лимоном, быстрый малиновый мусс, мусс из белого шоколада и куриный суп по-индийски…

Для тех, кто желает побаловать вторую половинку завтраком в постель, — целая глава этой удивительной роскошной иллюстрированной книги. Тонкости и нюансы: о набитом нужными продуктами холодильнике нужно позаботиться заранее. И тогда — ни в коем случае не перекармливать! Что-нибудь изысканное: авокадо с креветками, шоколадно-кокосовый рулет, десерт "Кокосовый рай".

А тонким намёком на продолжение праздника вполне может быть чай с кардамоном или корицей… Выбор за вами!

## Бабушки, вперёд!

Кто ещё способен так потакать вкусам ребёнка, как бабушки?! Мамам бывает совершенно некогда изобретать для чада нечто особенное, а вот любящие сердца бабушек готовы на всё, лишь бы внучата попросили добавки. И не чего-то там неполезного, а самого что ни на есть нужного растущему организму. "Миллион меню" к вашим услугам! **"Кулинария для детей"**, или, если уж читать подзаголовки, — "Большая кулинария для маленьких детей" не утаит от вас ни одного секрета приготовления вкусностей. В книге, впрочем, не только рецепты всяких запеканок типа "Заячий домик", кабачкового суфле, биточков из гречневой каши, йогуртового супа с брокколи, австралийского сухарного кекса, лимонада из ревеня и яблочного морса с шиповником. На её иллюстрированных страницах вы найдёте множество полезных советов. Например, как с грудного возраста привить ребёнку привычку к здоровому питанию. В книге этой щекотливой теме посвящена целая глава "Что такое хорошо в детском питании": "С того самого момента, как ребёнок-грудничок попробовал первую ложку каши, жизнь родителей меняется самым кардинальным образом — мама и папа пускаются в захватывающее и полное сюрпризов путешествие по стране Детских Кулинарных Предпочтений". И вот что удивительно: дети от рождения имеют собственные гастрономические пристрастия. Для того, чтобы пища ребёнка содержала в себе все необходимые организму вещества: белки, жиры, углеводы, витамины, минеральные вещества и воду — и написана эта книга.

Благодаря ей вы станете настоящим экспертом в таком вопросе, как детское питание: сможете чётко ответить,



сколько калорий в день нужно ребёнку и сколько в рационе крохи должно быть кальция, где находятся основные источники белков и залежи витамина С, почему полезны жёлтые овощи и фрукты, какие продукты богаты железом… Не обойдут авторы вниманием и "что такое плохо" — продукты, которые "подарены" научно-техническим прогрессом: чипсы, гамбургеры, супы из пакетиков и прочие добавки-красители. Теперь вы узнаете наверняка, почему именно они вредны для детского организма и как не правы мамы, говоря: "Пусть лучше ест такой суп, чем никакого".

## Хэндмейд: стекло+фантазия

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО



Книга **"Лэмпворк. Украшения из стекла" Дениса и Ольги Букиных** предназначена для тех, кто оригинален во всём. Особенно в таких вещах, как бусины, броши, серьги. Потому что авторы этого издания, пополнившего ряды книг серии "Мир энциклопедий Аванта+", предлагают создать удивительные вещи собственными руками. Итак, что такое лэмпворк? Это технология и искусство создания украшений из стекла, расплавленного в пламени горелки (в каком именно, авторы расскажут подробно). Что для этого нужно? Стеклянные разноцветные стержни — на столе у мастера их может оказаться до сорока, горелка, пропановая или, если уж совсем современно, кислородно-пропановая, газовый баллон, от которого горелка будет заряжаться, рабочий стол, обитый металлом. А всё это будет размещаться в мастерской, где для очистки воздуха нужна вытяжка из жестяного "зонтика" над рабочим столом в зоне контакта стекла и пламени, вентилятора и гибкого воздуховода. Авторы советуют при планировке мастерской предусмотреть место для муфельной печи, даже если пока вы не планируете её покупать. А пока обходитесь керамическим одеялом: свежеприготовленные бусины нужно охлаждать медленно, иначе они потрескаются. Не забыли Ольга и Денис о дополнительных вещах, как то: фритт (мелкая стеклянная крошка определённых цветов), эмали (порошкообразные, очень мелкого помола), металлическую фольгу, проволоку, сетку и шарды (это такие стеклянные осколки для покрытия бусин сверху, которые создают эффект реальной акварели). Конечно же, вам нужна будет и фурнитура, и средства защиты, и специальные инструменты.

А дальше, как обычно в такого рода изданиях, — иллюстративный материал, благодаря которому легко шаг за шагом представить, что можно сотворить из стекла при помощи фантазии.

Татьяна ШАМЯКИНА

# Мастер новеллистики

**Экзотическое для наших соотечественников имя Николь Валье — псевдоним молодой писательницы, пишущей по-русски, члена Союза писателей Беларуси. В этом году вышла её вторая книга новелл "Диета" (2011). Первая книга "Коллекция" (2009) обратила внимание искушенных читателей непривычной эстетикой, обаятельной манерой повествования, своеобразием интонации и стиля, что позволило знатокам говорить о появлении в отечественной литературе своего О. Генри. Отличие современного автора от американского классика в том, что последний изображал людей пика развития индустриального общества, стоящих на грани достатка и нищеты, а у Николь Валье герои представляют вполне благополучный средний класс информационного общества и живут не в "городе жёлтого дьявола" начала XX века, а в столице европейского государства третьего тысячелетия. Но подход к жизненному материалу в чём-то схож.**

В городском мире новелл и О. Генри, и Николь Валье случаются отнюдь не мистические чудеса, счастливо разрешаются жизненные конфликты; впрочем, нередко герои терпят фиаско. Но в любом случае ситуации подаются с искромётным юмором, с некоторым едва заметным кокетством, о чём свидетельствует даже псевдоним автора — Николь Валье — человека, прекрасно знающего французскую культуру и имеющего склонность к игровому началу в искусстве.

Некоторые новеллы из первого сборника "Коллекция" включены в новую книгу: "Причуды любви", "Лифт", "Из жизни шоколадных конфет", "Локоны", "Фамилия". Новые произведения — "Уравнение с двумя неизвестными", "Диета", "Курочка гриль", "Клин клином", "Ювелир" — позволяют в полной мере оценить мастерство писательницы, молодой женщины, знающей языки, поездившей по свету, хорошо понимающей многие аспекты общественной психологии, поскольку занимается ею профессионально. Фабулы её произведений допускают едва-едва заметный фантастический сдвиг, скорее, намёк на чудо, иногда происходящее в мире, позволяющий, однако, принять условность повествования, включиться вместе с автором в милую игру, очень часто — женскую, для того, чтобы привести в порядок и несколько очеловечить уж слишком затянутых водоворотом стремительной деловой жизни любимых мужчин.

Героиня новеллы "Причуды любви" чего только ни делала, чтобы вернуть любовь мужа, осуществила на практике "почти все рекомендации, которые нашла




на страницах глянцевых журналов, и претворила в жизнь советы, полученные от более опытных подруг". Когда все способы были испробованы и не принесли плодов, героиня по какому-то наитию решила избавиться — хотя бы в спальне — от всего, что напоминало о безрадостном супружестве и одной деталью напомнить о романтическом времени зарождения любви. Это сработало — оказалось важно разрушить стереотип сложившегося уклада жизни.

В новелле "Уравнение с двумя неизвестными" героиня так же нетривиально излечивает от головной боли мужа, излишне увлечённого своей профессией математика.

Остроумный выход из создавшегося положения в новелле "Лифт" находит особа, названная "блондинкой", что сегодня благодаря анекдотам сразу объясняет уровень её умственного развития. Тем не менее, застряв в лифте с тремя такими же бедолагами, в том числе своим шефом, она умело имитирует стоны рожающей женщины, чем приводит в шок людей, оставшихся снаружи. Совесть монтёров "заговорила", и несчастных достаточно быстро освободили. В новелле "Диета" Римма, ранее безуспешно сражавшаяся с собственным весом, похудела благодаря психологическому фактору — влюблённости во французскую культуру, и это даже несмотря на ежедневное употребление французского батона.

Как и её героини, писательница наблюдательна, находчива, остроумна, предельно искренна. С непревзойдённым изяществом она разрешает разные, часто достаточно сложные, житейские коллизии. И при этом исключительно точна в деталях, подробностях современной городской среды. Использованные ею приёмы не банальны. Новелла "Из жизни шоколадных конфет" повторяет фабулу рассказа А. Чехова "Произведение искусства": подарок проходит по кругу и, побывав у разных людей, возвращается, в конце концов, к первому дарителю. Однако классический сюжет выстроен на ультрасовременном материале. Рассказ наполнен массой мельчайших подробностей — от описания процесса производства конфет до образа жизни представителей разных профессий. Благодаря точным и узнаваемым деталям рисуется облик современных обывателей, для которых самым важным в жизни оказывается внешний глянец, собственный вид и антураж, соответствующий модным стандартам.

Нельзя не заметить, что в новой книге молодая писательница вскрывает тему современного обывателя, которая решается в основном при изображении отношений мужчины и женщины. Вопрос о "своей половине", о преодолении отчуждения внутри пары остро ставится в новеллах "Причуды любви", "Уравнение с двумя неизвестными", "Коллекция", "Курочка гриль". При всей занимательности литературной игры горечь не раз звучит на страницах книги. В "Коллекции", "Локонах" не остаётся места улыбке, которая часто возникает при чтении других новелл сборника. В "Ювелире" улыбка — скорее, усмешка — саркастическая. Тема брака по расчёту, рационально выстроенных отношений в семье очень серьёзно волнует автора, причём в показе любви она далека от патриархального морализаторства, равно как и от грубой эротики современных российских авторов-женщин. Всё интимное, глубоко личное описывается легко, изящно, непринужденно, в духе любимых Валье французских классиков, однако в современном антураже, с мельчайшими подробностями быта. И эта узнаваемость интерьеров, дизайна одежды, посуды, кулинарии придает особую теплоту произведениям молодого автора.

Николь Валье — писательница самобытная, всё более склоняющаяся к аналитико-иронической либо печально-лирической манере повествования. Молодой мастер отечественной новеллы создаёт срез частной жизни современного белорусского общества через забавные и одновременно предельно серьёзные фабулы произведений.

***Новое имя***

Алесь МАРТИНОВИЧ

# Амазонки, пираты… Талант

**Возможно ли, чтобы молодой автор всего за год издал пять книг? Скептик сразу же ухмыльнётся: были бы деньги, в наше время ничего невозможного нет. Возразить как будто нечего. Однако я к скептикам не принадлежу, поскольку убеждён: нет правил без исключений. Тем более что в своих рассуждениях отталкиваюсь от конкретного случая.**

Я имею в виду книги, написанные Вадимом Гавриловым, историком по образованию и писателем по призванию. Созданное им говорит в пользу того, что на читательский суд вынесены вовсе не ученические пробы пера. Безусловно, я не собираюсь называть В. Гаврилова мастером, но в том, что он хороший подмастерье, сомневаться не приходится.

У В. Гаврилова есть то, что и предопределяет литературный успех: он чувствует слово. Уверенно владеет сюжетом, умея композиционно выстроить его таким образом, что получается захватывающее повествование. А ещё у В. Гаврилова есть свои темы, а следовательно, и свои герои. Поэтому он и не идет проторенными литературными тропами, а выбирает собственную творческую стезю, которая и ведёт к успеху.

Уже в своей первой книге "Армагеддон до востребования", вышедшей год назад, Вадим Гаврилов дал понять, что повторять других не собирается, хотя, вроде бы, уже изначально мог создать нечто такое, что только условно претендовало бы на оригинальность. Ибо что такое Армагеддон? Вроде бы и напоминать неудобно, но всё же… Армагеддон, согласно Библии, — место, где собираются силы сатаны для решающей битвы с Богом. Если же подходить к этому в широком плане, то Армагеддон — символ извечного противостояния и последней битвы Добра со Злом.

Казалось бы, не так и просто сказать здесь нечто своё. Но В. Гаврилов смог это сделать. Благодаря тому, что как раз и заострил внимание именно на относящемся к широкому пониманию Армагеддона. Главный герой повествования — молодой инвестор Тед Ричардс — волей обстоятельств сходится с нунцием братства Пия X в Нью-Йорке, непреклонным рыцарем наших дней Вольфгангом Вальденсомом. Оказывается, приближается Армагеддон. Тот и предлагает Теду взять на себя инициативу по предотвращению этой вселенской катастрофы. Ричардс, который мечтал только о богатстве и славе, не может остаться в стороне. Однако Армагеддон всё же начинается…

Сознательно ограничиваюсь многоточием, ибо если раскрыть все карты, то для того, кто возьмется читать книгу, притупится ощущение новизны. А произведения В. Гаврилова построены так, что в них многое держится как раз на интриге. Многое берёт на себя неожиданный сюжетный поворот, который заранее трудно предугадать, ибо писатель, как тот жонглёр (в хорошем смысле этого слова), часто действует на границе возможного. Даже как бы рискуя выпустить нить повествования из своих рук, но в последнее мгновение не только удерживает её, а и уверенно направляет в заранее обдуманное русло.

В этом воочию убеждаешься, знакомясь и с книгой "Не забывайте Древние Афины". На этот раз действие происходит в 464 году до н. э. Молодой эретрийский офицер Итакл, как и Тед Ричардс из "Армагеддона до востребования", не раз оказывается в таких жизненных водоворотах, что только диву даёшься, как ему удаётся не только остаться в живых, но и продолжать борьбу за счастье родного города. Всё, что ни делает Итакл, он делает во имя того, чтобы город Эретрия вступил в Афинский морской союз и стал верным союзником Афин, а не Спарты, ибо она мечтает поживиться за счёт цветущей Эретрии. Для воплощения своей мечты отважному офицеру Итаклу приходится сражаться с амазонками, которые, в отличие от него, не обременяют себя высокими стремлениями, а проявляют безжалостность.

Эти два произведения можно отнести и к приключенческому жанру, хотя В. Гаврилов не забывает давать точную психологическую мотивацию тому или иному поступку своих героев. Постоянно заботится он и о том, чтобы правдиво выписывать события, в которые вовлекаются персонажи, что, согласитесь, не так и просто, принимая во внимание отсутствие должного литературного опыта и то, что В. Гаврилов каждый раз окунается, по сути, в новую эпоху. Большую помощь оказывает ему богатая творческая фантазия.

Особенно она пригодилась В. Гаврилову при написании фантастических повестей "За миг до вечности", "Человек — существо податливое", "Осколок великого Фаэтона". Среди них выделяется последняя, в некоторой степени сюжетно связанная с реалиями сегодняшнего дня. К недавно обнаруженной комете отправляется космическая экспедиция. По прибытии выясняется, что на обломке бывшей планеты находится дверь, ведущая в… Не будем забывать, что Вадим Гаврилов — историк, так почему не использовать свои познания. Оказывается, эта дверь ведёт в мир древних жрецов. Более того, теперь за ней живут люди, управляющие таинственной энергией древней цивилизации Фаэтона.

Немало приключений ожидает и героев повести "Далёкие берега", давшей название пятой книге В. Гаврилова, в которую вошли повесть "Осколок великого Фаэтона" и рассказ "Домик на берегу океана". Они хотят завладеть сокровищами, а сокровища, как известно, легко не достаются. Поэтому персонажам В. Гаврилова приходится немало пережить. А если принять во внимание, что они оказались на пиратском корабле…

Даже познакомившись с уже названными произведениями В. Гаврилова, читая новое, нельзя предугадать, что ожидает впереди. И это ещё одно свидетельство мастерства писателя — не повторяться. Конечно, я далёк от мысли, что всё, написанное В. Гавриловым следует воспринимать однозначно. Но уверен: он находится на верном творческом пути и со временем напишет произведения, которые будут выглядеть ещё лучше, ибо талант на то и талант, чтобы развиваться и совершенствоваться. Однако бесспорно и иное: хорошее начало много значит.

## *Чытальная зала*



# Двухмоўе: за і супраць

"Я хачу, каб беларуская мова стала сапраўдным сябрам кожнага грамадзяніна", — такую мэту ставіць Уладзімір Тулінаў, аўтар кнігі "Мова мая — сябар мой (Беларусь. Двухмоўе. За і супраць)", якая ўбачыла свет у выдавецтве "Мэджык".

Мовы, на якіх кантактуюць жыхары нашай планеты, маюць сваю гісторыю, шлях развіцця, статус і "аўдыторыю". У многіх краінах суіснаванне дзвюх, а то і трох моў (у Швейцарыі, дарэчы, нават чатырох) — сітуацыя звычайная, гістарычна абумоўленая. У цэнтры ўвагі кнігі У. Тулінава — аспекты двухмоўя на тэрыторыі Беларусі. Двухмоўе ў нашай краіне — добра гэта ці дрэнна? Чаму склалася такая сітуацыя? Хто былі нашы далёкія продкі? Адмоўным ці станоўчым стаў для беларускай мовы савецкі перыяд? Адказы на гэтыя і іншыя пытанні чытач знойдзе на старонках навукова-папулярнага выдання. Аўтар прытрымліваецца закона, сфармуляванага Маркам Туліем Цыцэронам для ўсіх, хто займаецца гісторыяй: ні ў якім выглядзе не дапускаць хлусні; ні ў якім выпадку не баяцца праўды; не мець ні ценю прыхільнасці, ні ценю злобы.

Першая частка выдання "Мова — справа тонкая" прысвечана моўнай карце свету. У другой — "Гісторыя мовы — гісторыя народа" — аўтар робіць агляд літаратуры апошняга часу на тэму этнагенезу беларусаў. Трэцяя глава кнігі "Ціхая інтэрвенцыя" разглядае негатыўныя працэсы, у выніку якіх не толькі забруджваецца лексіка і збядняецца мова, але і разбураецца душа.

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

---

Аверсэв, 2011. — 76 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-19-0014-1.

**Хруцкая, Т. В.** Сшытак для лабараторных і практычных работ па біялогіі для 7 класа: дадатак да падручніка «Біялогія» для 7-га класа (пад рэдакцыяй В. М. Ціхамірава): дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай мовай навучання / Т. В. Хруцкая. — 5-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2011. — 48 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-902-9.

**Левэ, О. И.** Супертренинг. Биология: материалы для подготовки к централизованному тестированию / О. И. Левэ. — 2-е изд. — Минск: ТетраСистемс, 2011. — 205 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-215-0.

**Лисов, Н. Д.** Рабочая тетрадь по биологии для 10 класса: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения: приложение к учебнику «Биология» для 10-го класса (под редакцией Н. Д. Лисова) / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — Минск: Аверсэв, 2011. — 128 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-529-945-6.

**Лисов, Н. Д.** Тетрадь для лабораторных и практических работ по биологии: 9-й класс: приложение к учебнику «Биология» для 9-го класса (авторы: М. В. Мащенко, О. Л. Борисов) / Н. Д. Лисов. — 5-е изд. — Минск: Аверсэв, 2011. — 45 с. — 8100 экз. — ISBN 978-985-529-835-0.

**Лисов, Н. Д.** Тетрадь для лабораторных и практических работ по биологии для 10 класса: приложение к учебнику «Биология» для 10-го класса (под редакцией Н. Д. Лисова) / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — 9-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2011. — 47 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-529-788-9.

**Мащенко, М. В.** Тетрадь для лабораторных работ и практических заданий по биологии для 9 класса: приложение к учебнику «Биология» для 9-го класса (авторы: М. В. Мащенко, О. Л. Борисов) / М. В. Мащенко, О. Л. Борисов, А. А. Антипенко. — 5-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2011. — 112 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-529-787-2.

**Медицинская биология и общая генетика для иностранных студентов 1-го года обучения** = Medical biology and genetics for international students 1st year: курс лекций / И. В. Рачковская и др.; перевод с русского языка Т. Ф. Даниловой]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биологии. — 2-е изд., исправленное. — Минск: БГМУ, 2011. — 164 с. — Обложка и текст на английском языке. — 25 экз. — ISBN 978-985-528-433-9.

**Медицинская биология и общая генетика для иностранных студентов 1-го года обучения** = Medical biology and genetics for international students 1st year: учебно-методическое пособие / [В. Э. Бутвиловский и др.; перевод с русского языка Т. Ф. Даниловой]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биологии. — 2-е изд., исправленное. — Минск: БГМУ, 2011. — 216 с. — Обложка и текст на английском языке. — 25 экз. — ISBN 978-985-528-434-6.

**Писарчик, Г. А.** Биология: 10–11-е классы: сборник задач и упражнений / Г. А. Писарчик, Н. Д. Лисов. — 2-е изд., дополненное. — Минск: Аверсэв, 2011. — 192 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-529-771-1.

**Хруцкая, Т. В.** Рабочая тетрадь по биологии для 11 класса: приложение к учебнику «Биология» для 11-го класса (авторы: С. С. Маглыш, А. Е. Каревский) / Т. В. Хруцкая. — Минск: Аверсэв, 2011. — 127 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-529-978-4.

**Хруцкая, Т. В.** Тетрадь для лабораторных и практических работ по биологии для 11 класса: приложение к учебнику «Биология» для 11-го класса (авторы: С. С. Маглыш, А. Е. Каревский) / Т. В. Хруцкая. — Минск: Аверсэв, 2011. — 29 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-529-789-6.

**Черник, В. Ф.** Общая биология: пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальностям: 1-03 03 05 Логопедия. Дополнительная специальность; 1-03 03 06 Сурдопедагогика. Дополнительная специальность; 1-03 03 07 Тифлопедагогика. Дополнительная специальность; 1-03 03 08 Олигофренопедагогика. Дополнительная специальность / В. Ф. Черник; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2011. — 318 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-501-964-1.

### Агульная экалогія

**Карако, П. С.** Социальная экология : экологическое сознание: [для студентов] / П. С. Карако. — Минск: Экоперспектива, 2011. — 215 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-469-374-3.

**Шимова, О. С.** Основы экологии и энергосбережения: учебное пособие для студентов, обучающихся по специальностям: «Бизнес-администрирование», «Государственное управление», «Экономическая кибернетика», «Социология», «Правоведение» и др. / О. С. Шимова, Н. К. Соколовский, О. В. Свидерская; под редакцией О. С. Шимовой. — Минск: БГЭУ, 2011. — 226 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-484-792-4 (в пер.).

### Матэрыяльныя асновы жыцця

**Романовский, И. В.** Краткий теоретический курс биоорганической химии: учебно-методическое пособие: [для студентов] / И. В. Романовский, О. Н. Ринейская, В. В. Пинчук; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биоорганической химии. — 2-е изд., исправленное. — Минск: БГМУ, 2011. — 163 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-528-418-6.

**Сборник иллюстраций к лекциям по биологической химии**: учебно-методическое пособие: [для студентов / А. Д. Таганович и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра биологической химии. — 3-е изд., исправленное. — Минск: БГМУ, 2011. — 85 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-528-379-0.

### Батаніка

**Каталог сосудистых растений Центрального ботанического сада Национальной академии наук Беларуси (открытый грунт)** / [составители: И. К. Володько и др.]. — Минск: Тэхналогія, 2010. — 263 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-458-217-7 (в пер.).

### Медыцынскія навукі

**Борщевская, Е. В.** Медицинская подготовка: 10-й класс: тетрадь для практических работ: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Е. В. Борщевская. — 4-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2011. — 89 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-529-744-5.

**Борщевская, Е. В.** Медицинская подготовка: 11-й класс: тетрадь для практических работ: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с русским языком обучения / Е. В. Борщевская. — 4-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2011. — 91 с. — 4100 экз. — ISBN 978-985-529-745-2.

**Военная и экстремальная медицина**: пособие для студентов медикодиагностического факультета: [в 2 ч.] / Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Военная кафедра. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 99 экз.

Ч. 1 / [А. В. Дрокин и др.]. — 279 с. — ISBN 978-985-496-828-5.

Ч. 2 / И. И. Прохоров, В. А. Новоселецкий, В. М. Ивашин. — 327 с. — ISBN 978-985-496-817-9.

### Анатомія

**Гистология, цитология и эмбриология**: учебник для студентов медико-диагностического факультета (1-790104 Медико-диагностическое дело) / [С. М. Зиматкин и др.]; под редакцией С. М. Зиматкина; Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 435 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-805-6.

**Глоссарий по цитологии и гистологии**: учебно-методическое пособие / Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет экологической медицины. — Минск: МГЭУ, 2010. — 191 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-6931-65-2.

**Дурейко, Л. И.** Как устроен организм человека: книга для учащихся среднего школьного возраста / Л. И. Дурейко; [художники: С. В. Саркисов, В. В. Дударенко]. — 4-е изд. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2011. — 429 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0572-0 (в пер.).

**Мышцы верхней конечности**: учебно-методическое пособие для студентов 1-го курса факультета физического воспитания / Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина; [составители: Е. С. Блоцкая, И. Г. Роменко, Е. А. Рассохина]. — Брест: БрГУ, 2011. — 46 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-473-722-5.

**Современные аспекты фундаментальной и прикладной морфологии**: сборник трудов научно-практической конференции с международным участием, посвященной 110-летию со дня рождения академика НАН Беларуси Д. М. Голуба / под редакцией П. И. Лобко и П. Г. Пивченко. — Минск: БГМУ, 2011. — 315 с. — Часть текста на английском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-528-416-2.

### Фізіялогія

**Бернацкий, А. С.** Загадочный и парадоксальный мозг / А. С. Бернацкий. — Минск: Народная асвета, 2011. — 175 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-03-1648-6.

**Глебов, А. Н.** Роль кислородсвязывающих свойств крови в развитии окислительного стресса, индуцированного липополисахаридом : монография / А. Н. Глебов, Е. В. Шульга, В. В. Зинчук; под редакцией Зинчука В. В. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 215 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-496-807-0.

**Грицук, А. И.** Биохимия ротовой жидкости: учебно-методическое пособие для студентов 2-го курса медико-диагностического и лечебного факультетов / А. И. Грицук, В. Т. Свергун, А. Н. Коваль; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра биохимии. — 2-е изд., переработанное и дополненное. — Гомель: ГГМУ, 2011. — 37 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-506-365-1.

**Физиология**: практические рекомендации по выполнению лабораторных работ / Министерство образования Республики Беларусь, Мозырский государственный педагогический университет им. И. П. Шамякина; [авторы-составители: В. В. Валетов, Е. И. Дегтярева]. — Мозырь: МзГПУ, 2011. — 123 с. — 151 экз. — ISBN 978-985-477-458-9.

### Гігіена

**Даллал, Т.** Танец живота: самоучитель / Тамалин Даллал и Ричард Харрис; [перевела с английского И. В. Гродель]. — 4-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 206 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1453-9.

**Кечина, Е. А.** Поведенческий риск женщин секс-бизнеса, употребляющих инъекционные наркотики / [Кечина Евгения Аркадьевна]; Программа развития ООН в Республике Беларусь, РОО «Белорусская ассоциация клубов ЮНЕСКО». —2011. — 100 с. — 570 экз.

**Консультирование подростков и молодежи по вопросам репродуктивного здоровья**: пособие для врачей и среднего медицинского персонала / [Н. Е. Акола и др.; редколлегия: Е. М. Русакова (главный редактор), И. Ф. Мезен, Е. В. Зеневич]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Фонд ООН в области народонаселения (ЮНФПА). — Минск: Альтиора–Живые краски, 2011. — 256 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6831-60-0.

### Грамадскае здароўе і гігіена. Санітарыя

**Биомедицинская этика. Практикум**: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по медицинским и биологическим специальностям / [С. Д. Денисов и др.]; под редакцией С. Д. Денисова, Я. С. Яскевич; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра философии и политологии. — Минск: БГМУ, 2011. — 202 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-528-421-6.

**25 лет после Чернобыльской катастрофы. Преодоление ее последствий в рамках Союзного государства**: сборник пленарных докладов международной научно-прак-тической конференции / под общей редакцией В. С. Аверина. — Гомель: Сож, 2011. — 225 с. — 315 экз. — ISBN 978-985-6927-16-7.

**Загвоздкина, Т. В.** Основы безопасности жизнедеятельности: 3-й класс: рабочая тетрадь [с тематическими наклейками]: пособие для учащихся учреждений общего среднего образования с русским языком обучения / Т. В. Загвоздкина. — Минск: Кузьма, 2011. — 32 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-453-455-8.

**Знай! Понимай! Действуй!**: сборник практических материалов для волонтеров, работающих с использованием принципа «равный обучает равного» по профилактике ВИЧ-инфекции / Республиканское общественное объединение «Белорусская ассоциация клубов ЮНЕСКО»; [составитель]: Станкевич Ю. В. — Минск, 2011. — 43 с. — 2000 экз.

**Каталог завершенных разработок и продуктов, созданных в рамках Программы совместной деятельности по преодолению последствий Чернобыльской катастрофы в рамках Союзного государства на 2006–2010 годы**: [автор-составитель: О. М. Луговская] / Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Филиал «Белорусское отделение Российско-белорусского информационного центра по проблемам последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС» РНИУП «Институт радиологии» МЧС Республики Беларусь. — Минск: Институт радиологии, 2010. — 33 с. — 50 экз.

**Научно-исследовательский институт пожарной безопасности и проблем чрезвычайных ситуаций** / Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь. — 2011. — 18 с. — 800 экз.

**Решение чернобыльских проблем в рамках Союзного государства**: 2006–2010: (итоговый бюллетень) / Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь [и др.; фото: О. Н. Апанасюк, Н. В. Гашкова, А. Л. Шкут]. — Минск: Институт радиологии, 2010. — 57 с. — 265 экз. — ISBN 978-985-6765-71-4.

**Тактика проведения аварийно-спасательных работ. Охрана труда и техника безопасности**: учебное пособие для курсантов и слушателей высших учебных заведений по специальностям «Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций», «Безопасность людей, объектов и территорий в чрезвычайных ситуациях» / [Г. Ф. Ласута и др.]; Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Командно-инженерный институт». — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2011. — 318 с. — 1195 экз. — ISBN 978-985-6956-20-4 (в пер.).

**Чернобыльская катастрофа, 1986–1991**: документы и материалы / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Национальный архив Республики Беларусь, Государственный архив Гомельской области, Департамент по ликвидации последствий катастрофы на Чернобыльской АЭС Министерства по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь. — Минск: Институт радиологии, 2011. — 336 с. — 215 экз. — ISBN 978-985-6765-75-2.

**A quarter of a Century after the Chernobyl catastrophe: outcomes and prospects for the mitigation of consequences**: national report of the Republic of Belarus / Department for Mitigation of the Consequences of the Catastrophe at the Chernobyl NPP of the Ministry for Emergency Situations of the Republic of Belarus; [authors and reviewers: Vladimir A. Chernikov etc.]. — Minsk: Institute of Radiology, 2011. — 81 c. — На англійскай мове. — 92 экз. — ISBN 978-985-6765-73-8.

Чвэрць стагоддзя пасля Чарнобыльскай катастрофы: вынікі і перспектывы пераадолення

### Фармакалогія

**Донорство крови и ее компонентов**: сборник нормативных правовых актов. — Минск: Национальный центр правовой информации Республики Беларусь, 2011. — 58 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6928-42-3.

**Ильчи Ли.** Исцеление чакр: [древняя восточная гимнастика для оздоровления тела и души] / Ильчи Ли; [перевод с английского выполнила И. В. Гродель]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 183 с. — 3500 экз. — ISBN 978-985-15-1429-4.

**Производство оптических деталей, изделий и систем медицинского назначения**: учебно-методическое пособие для студентов специальности 1-38 02 02 «Биотехнические и медицинские аппараты и системы» / [М. Г. Киселев и др.]; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский национальный технический университет, Кафедра «Конструирование и производство приборов». — Минск: БНТУ, 2011. — 121 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-525-548-3.

### Паталогія. Клінічная медыцына

**Астапенко, В. В.** Местная анестезия в общей хирургии: учебно-методическое пособие: [для студентов] / В. В. Астапенко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра общей хирургии. — Минск: БГМУ, 2011. — 28 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-528-428-5.

**«Гериатрия в системе медицинской помощи населению», белорусская республиканская научно-практическая конференция (2011; Минск)**. Материалы Республиканской научно-практической конференции, посвященной дню пожилых людей «Гериатрия в системе медицинской помощи населению», 28 сентября 2011 г., Минск / [редколлегия: Демидчик Ю. Е. и др.]. — Минск: БелМАПО, 2011. — 81 с. — 120 экз. — ISBN 978-985-499-519-9.

**Губарь, В. В.** Неотложная помощь детям на догоспитальном этапе: пособие для студентов педиатрического и лечебного факультетов, врачей-интернов / В. В. Губарь, Т. И. Ровбуть; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра анестезиологии и реаниматологии с курсом клинической биохимии, Кафедра педиатрии № 1. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 58 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-814-8.

**Диагностическое значение лабораторных показателей**: практическое пособие / [Е. Т. Зубовская и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, ГУ «Республиканский научно-практический центр «Мать и дитя», ГУО «Белорусская медицинская академия последипломного образования». — Минск: БГУФК, 2011. — 305 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6953-60-9.

**Камышников, В. С.** Организация клинической лабораторной службы: практическое пособие / В. С. Камышников, Н. Л. Сергейчик, Е. Т. Зубовская; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, ГУО «Белорусская медицинская академия последипломного образования», ГУ «Республиканский центр клинической лабораторной диагностики». — Минск: БГУФК, 2011. — 132 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-6953-91-3.

**Курс лекций по специальности «Общая врачебная практика»** / [Воронко Е. А. и др.]; под редакцией Демидчика Ю. Е., Мрочек Л. Н., Воронко Е. Н.; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра общей врачебной практики. — Минск: БелМАПО, 2011. — 461 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-499-514-4.

**Новые лечебные и диагностические технологии в терапии**: материалы конференции / под общей редакцией С. Л. Кабака. — Минск: БГМУ, 2011. — 51 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-528-412-4.

**Общий уход за терапевтическими больными**: пособие для студентов лечебного факультета / [М. А. Лис и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра пропедевтики внутренних болезней. — 4-е изд., переработанное и дополненное. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 239 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-496-758-5.

**Ожирение: руководство к действию** / М. Л. Лущик [и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Государственное учреждение образования «Белорусская медицинская академия последипломного образования». — Минск, 2011. — 44 с. — 3000 экз.

**Организация медико-социального ухода за пациентами на дому**: руководство для специалистов, вовлеченных в ВИЧ-сервисную и другую медико-социальную деятельность: учебное пособие для слушателей системы последипломного медицинского образования / [Т. В. Матвейчик и др.]. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011. — 367 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-471-436-3.

**Патогенез социально значимых заболеваний человека**: материалы конференции / под общей редакцией С. Л. Кабака. — Минск: БГМУ, 2011. — 103 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-528-413-1.

**Педиатрия**: курс лекций для студентов 4-го курса педиатрического факультета / [Н. С. Парамонова и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гродненский государственный медицинский университет, Кафедра педиатрии № 2. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 387 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-821-6.

**Попутников, Д. М.** Нарушения водно-электролитного обмена (патофизиологические аспекты): учебно-методическое пособие: [для студентов] / Д. М. Попутников, Е. В. Меленчук, Ф. И. Висмонт; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра патологической физиологии. — Минск: БГМУ, 2011. — 29 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-435-3.

**Схема учебной истории болезни по клинической фармакологии**: учебно-методическое пособие для студентов медицинских вузов / [Е. И. Михайлова и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Кафедра общей и клинической фармакологии с курсом анестезиологии и реаниматологии. — Гомель: ГГМУ, 2011. — 23 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-506-369-9.

**Федюкович, Н. И.** Первая помощь пострадавшим при дорожно-транспортных происшествиях: учебное пособие для учащихся учреждений профессионально-технического и среднего специального образования / Н. И. Федюкович. — Минск: РИПО, 2011. — 119 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-503-162-9.

**Царев, В. П.** Пропедевтика клинической диагностики: курс лекций / В. П. Царев; Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет экологической медицины, Кафедра экологической медицины и радиобиологии. — Минск: МГЭУ, 2010. — 59 с. — 48 экз. — ISBN 978-985-6931-59-1.

### Сардэчна-сасудзістыя захворванні

**Атрощенко, Е. С.** Диалоги с участковым терапевтом: стенокардия напряжения / Е. С. Атрощенко. — 2-е изд., переработанное и дополненное. — Минск: Белпринт, 2011. — 215 с. — 270 экз. — ISBN 978-985-459-222-0.

**Мориц, А.** Нет болезням сердца! / Андреас Мориц; [перевел с английского П. А. Самсонов]. — 3-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 108 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1454-6.

**Основы сердечно-легочной и церебральной реанимации в педиатрии**: пособие для студентов педиатрического факультета / [Н. И. Янковская и др.]. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 130 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-496-823-0.

**Патология крови и методы ее диагностики**: пособие для студентов медико-диагностического факультета / [Н. Е. Максимович и др.]. — Гродно: ГрГМУ, 2011. — 310 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-496-804-9.

**Сидоренко, И. В.** Ультразвуковая оценка правых камер сердца у взрослых: учебно-методическое пособие / И. В. Сидоренко, А. И. Кушнеров; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Республиканский научно-практический центр «Кардиология», Белорусская медицинская академия последипломного образования. — Минск: БелМАПО, 2011. — 61 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-499-507-6.

### Захворванні дыхальнай сістэмы

**Татур, А. А.** Спонтанный пневмоторакс: учебно-методическое пособие / А. А. Татур, А. В. Пландовский; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, 1-я кафедра хирургических болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 42 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-430-8.

### Захворванні стрававальнай сістэмы

**Силивончик, Н. Н.** Желудочная диспепсия / Н. Н. Силивончик. — Минск, 2011. — 34 с. — 1500 экз.

### Захворванні крывятворнай сістэмы. Эндакрынныя захворванні

**Якубовский, С. В.** Заболевания щитовидной железы: учебно-методическое пособие: [для студентов] / С. В. Якубовский; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, 1-я кафедра хирургических болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 28 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-431-5.

### Захворванні апорна-рухальнай сістэмы

**Алгоритм применения современных лечебно-диагностических методов мануальной терапии при вертеброгенных болевых синдромах у спортсменов высокой квалификации**: методические рекомендации / В. К. Забаровский [и др.]; Министерство спорта и туризма Республики Беларусь, Республиканский научно-практический центр неврологии и нейрохирургии Министерства здравоохранения Республики Беларусь, Республиканский центр спортивной медицины. — Минск: РУМЦ ФВН, 2011. — 27 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6658-57-3.

**Дривотинов, Б. В.** Неврологические проявления остеохондроза позвоночника: учебно-методическое пособие: [для студентов] / Б. В. Дривотинов, В. Г. Логинов; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра нервных и нейрохирургических болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 110 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-528-407-0.

**Лечебные медикаментозные блокады при вертеброгенных заболеваниях периферической нервной системы и туннельных синдромах**: учебно-методическое пособие: [для студентов / А. И. Гаманович и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра нервных и нейрохирургических болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 87 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-528-406-3.

### Неўрапаталогія

**Астапов, А. А.** Энцефалиты у детей: учебно-методическое пособие: [для студентов] / А. А. Астапов, А. П. Кудин, Л. И. Ясинская; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра детских инфекционных болезней, Кафедра нервных и нейрохирургических болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 49 с. — 70 экз. — ISBN 978-985-528-437-7.

**Латышева, В. Я.** Лечебная физкультура в восстановительном лечении невропатии лицевого нерва: учебно-методическое пособие для студентов медицинских вузов, инструкторов лечебной физкультуры учреждений здравоохранения, врачей-интернов / В. Я. Латышева, О. А. Ковалева, И. И. Игнатенко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Гомельский государственный медицинский университет, Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины, Кафедра неврологии и нейрохирургии с курсом медицинской реабилитации, Кафедра оздоровительной лечебной физкультуры. — Гомель: ГГМУ, 2011. — 20 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-506-368-2.

**Прилуцкая, В. А.** Бактериальные менингиты у новорожденных детей: учебно-методическое пособие: [для студентов] / В. А. Прилуцкая; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, 1-я кафедра детских болезней. — Минск: БГМУ, 2011. — 47 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-408-7.

### Псіхіятрыя. Паталагічная псіхіятрыя

**Ласая, Е. В.** Телесно-ориентированная психотерапия: современные подходы в лечении психосоматических расстройств: учебно-методическое пособие / Е. В. Ласая; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра психотерапии и медицинской психологии. — Минск: БелМАПО, 2011. — 33 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-499-516-8.

## Унікальны праект

Кацярына БЯДУЛІНА

**У РВУ "Літаратура і Мастацтва" ўбачыла свет новая кніга Анатоля Бутэвіча "Таямніцы Мірскага замка. Падарожжа па сівых мурах з Адамам Міцкевічам". Яна прысвечана выдатнаму помніку беларускага дойлідства Мірскаму замку і яго ўладальнікам. Гэта ўнікальная магчымасць зазірнуць за намітку гісторыі, каб убачыць, што і як адбывалася на нашай зямлі некалі, пазнаёміцца з выбітнымі асобамі беларускай даўніны. Вакол замка дагэтуль не сціхаюць спрэчкі вучоных і даследчыкаў, узнікаюць новыя версіі, здагадкі, меркаванні, што дадае кнізе займальнасці, бо пра многае ў шырокім ужытку згадваецца ўпершыню. Пра адметнасці выдання мы пагутарылі з самім аўтарам.**



# Дух Міра ў сэрцы

**— Анатоль Іванавіч, як з'явілася ідэя стварэння такога праекта — кнігі пра таямніцы Мірскага замка?**

— Задумка вельмі простая. Калі паглядзець на тое, што выпускаецца сёння пра гісторыю Мірскага замка, то можна заўважыць, што, акрамя маленькіх буклетаў, паштовак, ніякіх іншых выданняў няма. Хачу адзначыць таксама, што я вельмі люблю гісторыю, і таму, мабыць, трошкі захварэў на замкавую тэматыку. Так што гістарычная тэма — гэта маё!

**— У чым адметнасць кнігі?**

— У яе ўваходзіць кароткая гісторыя Мірскага замка. Тут можна знайсці адказы на розныя пытанні: чаму Мір завецца Мірам; калі і як пачалося будаўніцтва замка? Расказваецца пра яго першабудаўніка Юрыя Ільініча. Цікава таксама паглядзець на адметнасці замка: вежы, ліфт, сцены; даведацца пра бітвы, што адбываліся каля яго. Гэта і вайна Расіі з Рэччу Паспалітай, і Паўночная вайна 1700 — 1712 гадоў, і паўстанне 1794-га, і Айчынная вайна 1812 года, і Мірскае гета падчас Вялікай Айчыннай. У кнізе расказваецца пра кожнага ўладальніка мястэчка і замка, можна пазнаёміцца з іх высокімі гасцямі, сярод якіх былі Пётр І, Карл ХІІ і іншыя знакамітасці. Сабраны тут і легенды, звязаныя з замкам. Яшчэ адна адметнасць кнігі — гэта зноскі-тлумачэнні, якія дапамагаюць чытачу ўвайсці ў таямнічы свет мінуўшчыны, зразумець многія гістарычныя тэрміны, паняцці, пасады. І ўвогуле, пры напісанні кнігі мне хацелася знайсці нешта новае, адметнае, каб абудзіць у чытача жаданне наведаць замак. Таму я стараўся прывесці тыя факты і гістарычныя дэталі, якія раней былі невядомы, хацеў паглядзець на сусветнага маштабу каштоўнасць, уключаную ў спіс ЮНЕСКА, вачыма зацікаўленага наведвальніка, які адкрывае для сябе чароўныя таямніцы Мірскага замка і гісторыю самога Міра. Мяркую, гэтая кніжка — толькі пачатак, бо ёсць столькі сюжэтаў, якія могуць увасобіцца ў новыя як гістарычныя, так і мастацкія творы — не адзін дэтэктыў можна напісаць! У кнізе толькі пункцірна пазначаны некаторыя з іх. Напрыклад, пра арапа Святаполк-Мірскага Джона Пярэйру, пра нястомнага і таленавітага авантурыста Васіля Святаполк-Мірскага, жыццёвыя прыгоды якога маглі б скласці цэлы дэтэктыўны серыял.

**— А чаму вы запрасілі ў вандроўку менавіта Адама Міцкевіча?**

— Чаму менавіта яго? Не толькі таму, што ён, народжаны на нашай зямлі, стаў класікам польскай літаратуры і дасягнуў сусветнай паэтычнай славы, а яшчэ і таму, што ён выдатна ведаў гісторыю нашага краю, шмат пра што расказаў у сваіх творах. Найбольш вядомай стала паэма Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш", створаная ў 1834 годзе. Некалі даследчыкі творчасці паэта выказалі думку, што замак магнатаў Гарэшкаў з паэмы не што іншае, як Мірскі замак. Так-так, не здзіўляйцеся. Перачытаўшы твор, я таксама пераканаўся: пры апісанні замка Гарэшкаў і падзей вакол яго Адам Міцкевіч сапраўды трымаў перад вачыма Мірскі замак, шмат ведаў пра ягоных гаспадароў з княскага роду Радзівілаў, пра многіх расказаў у паэме. Адно не трэба забываць, што гэта мастацкі твор, а не навуковае даследаванне, таму ў ім нямала творчай фантазіі.

**— У выданні шмат цікавых фактаў, гістарычных падзей, якія малавядомы. Колькі часу заняла падрыхтоўка кнігі?**

— Праца над кнігай — заўсёды працэс індывідуальны, кожны шукае тое, што можа зацікавіць чытача. Падрыхтоўчы працэс складаны. Гэта вывучэнне дакументаў, літаратуры — гістарычнай і таго, што было напісана іншымі. Часта ў дачыненні да дакладнасці трэба было прымаць сярэдняе рашэнне: па фактралогіі не ўсё, што гаворыцца ў дакументах і гістарычнай літаратуры, супадае. Не ўсё ўвайшло ў кнігу. Засталося шмат цікавага матэрыялу.

**— Прыведзены у кнізе і легенды Мірскага замка. Якая з іх вам здаецца больш праўдападобнай?**

— У кнігу ўвайшло чатырнаццаць легенд. Кожная з іх па-свойму цікавая і арыгінальная. Таму выбраць штосьці адно вельмі складана. Аднак хачу заўважыць, што "Легенду пра радзівілаўскае метро" я крыху дадумваў сам. Былі розныя паданні пра падземны ход у Міры, таму я і назваў яго "радзівілаўскім метро". Але ці было гэта сапраўды так? Ніхто дакладна сказаць не можа. Значыць, ёсць поле для дзейнасці як даследчыкаў, так і пісьменнікаў. Дарэчы, я лічу, што з мірскіх легенд таксама можна зрабіць больш шырокі твор, які зацікавіў бы нямала чытачоў.

**— Якія праекты плануеце рэалізаваць у будучыні, над чым працуеце цяпер?**

— Існуе вядомае выказванне: калі хочаш насмяшыць Бога, раскажы яму пра свае планы. Мауляў, яны тады абавязкова не збудуцца. Але рызыкну… Можа нарадзіцца працяг гэтай жа серыі — кніга пра Нясвіж. А калі гэта серыйнасць, то трэба прытрымлівацца нейкай аднолькавасці. Таму пакуль што назва можа быць такая: "Нясвіж вядомы і невядомы. Падарожжа ў глыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем". Мяркую, што гэтая вандроўка будзе не менш займальнай і цікавай.

***На здымках: Напалеон Орда, "Мірскі замак"; Язэп Драздовіч "Мірскі замак".***



## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК



**Жушма, В. П. Гарэза / Васіль Жушма; малюнкі Д. Я. Руновай. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 216 с.**

Гэтая аповесць напісана ў выніку амаль дзесяці гадоў вандровак па лясах Беларусі. З фотаапаратам у руках аўтар назіраў за прыродай, бачыў многа цікавага. Сустрэчы са звярамі, птушкамі, насякомымі надоўга засталіся як у памяці, так і на фотаплёнцы. Таму гэтая кніга — пра жыццё беларускага лесу, узаемаадносіны звяроў і птушак, пра добрых і спагадлівых людзей. Аўтар разам з вавёрачкай Гарэзай уводзіць чытачоў у таямнічы свет роднай прыроды, дапамагае лепш зразумець адметнасці жыцця насельнікаў лесу.



**Калюга, Л. Творы: апавяданні, аповесці / Лукаш Калюга; прадм. Я. Лецкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 462 с.**

У зборнік увайшлі найбольш вядомыя творы Лукаша Калюгі (сапр. Кастусь Вашына) — самабытнага празаіка 20-х — пачатку 30-х гадоў. Непаўторны, арыгінальны стыль, глыбокае веданне народнай мовы, трапны гумар і тонкае псіхалагічнае майстэрства прыкметна вылучаюць яго сярод сучаснікаў і ўжо каторы год выклікаюць захапленне ў аматараў беларускага слова.



**Татаринов, Ю. А. Древняя Литва: истоки белорусской народности и государственности / Юрий Татаринов. — Минск: Смэлток, 2011. — 80 с.**

У гістарычнай навуцы, як, напэўна, і ва ўсіх сферах навуковых ведаў, існуе афіцыйная і альтэрнатыўная версіі. Афіцыйная засноўваецца на даследаваннях прызнаных навукоўцаў, выніках археалагічных раскопак, сур'ёзным аналізе. Неафіцыйная — на здагадках, фантазіях, ненадзейных крыніцах, думках "а магло быць і так". Дык вось гэтую кніжачку можна хутчэй аднесці да неафіцыйнай гісторыі — у дадзеным выпадку здагадкі і вывады заснаваныя на прыкладах з тапанімікі. Таму верыць ці не верыць Татарынаву — ужо справа чытача. У любым выпадку, такія версіі пашыраюць кругагляд, адкрываюць новыя гарызонты. І — хто ведае — магчыма, альтэрнатыўнае меркаванне калісьці стане афіцыйным.



**Гришковец, Е. Следы на мне / Евгений Гришковец. — Москва: Махаон, 2011. — 320 с.**

Як заўсёды, шчыра і адкрыта, Яўген Грышкавец распавядае пра сваіх герояў. На гэты раз імі сталі людзі, якія адыгралі важную ролю ў яго жыцці. З аднаго боку — нічога надзвычайнага: нейкія гісторыі, падзеі, уражанні. Але ж перажыванні аўтара ў гэтым выпадку намнога больш важныя, чым падзеі. Чытаеш — і пачынаеш звяртаць увагу не на жыццё герояў, а на свой уласны лёс. На сябе. "Чытаючы кнігу Грышкаўца, вельмі лёгка адчуць сябе аўтарам… Бо яго герой ва ўсім хоча толку дабіцца: будуе планы, ставіць мэты. Але робіцца гэта з вялікім інтарэсам і ўвагай да людзей навокал", — піша ў прадмове да кнігі літаратурны крытык Дзмітрый Бак. Складана з ім не пагадзіцца, тым больш ведаючы гранічную шчырасць пісьменніцкага стылю аўтара.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам "Кніжны салон". Тэл. 385-60-89.**

# Прызнанне без узаемнасці

## Апавяданне



Віктар Супрунчук

Другі год Міхась быў памочнікам у Ганны Арнольдаўны. Трапіў на гэтую пасаду выпадкова, нават не марыў пра такую магчымасць. Звольніўшыся з міністэрства, дзе ён працаваў галоўным спецыялістам, Міхась збіраўся ўладкавацца ахоўнікам у супермаркет. Пенсія ў яго ўжо была вайсковая, і хацелася больш спакойнай працы. Ён нават прайшоў субяседаванне ў супермаркеце. Але аднойчы на вуліцы спаткаў свайго былога начальніка Івана Дзям'янавіча, які ўжо працаваў начальнікам службы аховы кампаніі. Яны зайшлі ў кафэ, пасядзелі, паўспаміналі ранейшых калег, а праз колькі дзён Іван Дзям'янавіч і прапанаваў яму гэтую пасаду.

Ганна Арнольдаўна адразу спадабалася. Ён любіў такі тып жанчын: высокая, чарнявая, стройная фігура, трошкі цяжкаватая ў клубах. Але гэта яе не псавала, а, наадварот, прыцягвала позіркі. Міхась на розных нарадах бачыў, якімі вачыма праводзілі мужчыны генеральнага дырэктара, пакуль яна ішла з залы на трыбуну. Безумоўна, яна гэта адчувала, таму апранала прыталеныя сукенкі ці касцюмы, яшчэ больш падкрэсліваючы сваю постаць.

Яна не была замужам, мела двух сыноў, якія вучыліся ў Англіі на эканамістаў. З мужам даўно развялася. Неяк Міхась па просьбе Ганны Арнольдаўны сустракаў яе сыноў у аэрапорце. Гэта былі вельмі высокія і тонкія, бы жэрдкі, светлавалосыя хлапчукі, з такімі ж, як у маці, доўгімі насамі. За ўвесь час, пакуль яны ехалі з аэрапорта, не прамовілі ніводнага слова. Міхасю падалося, што яны глядзелі на яго як на пустое месца, ён для іх не існаваў. А можа, так здавалася?.. Ён тады пачаў нешта гаварыць пра надвор'е, пра Лондан, але, не ўбачыўшы аніякай рэакцыі з іх боку, змоўк. Ля свайго дома хлопцы пачціва развіталіся і пакрочылі ў пад'езд, — акуратныя маладыя цыбакі.

— Бач, якія ганарыстыя! — сказаў ён вадзіцелю, але той сядзеў бы вады ў рот набраўшы.

…Міхась зірнуў на гадзіннік — пара. Ён увайшоў у кабінет генеральнага дырэктара, калі Ганна Арнольдаўна якраз скончыла гаварыць па ўрадавай сувязі. Яна паклала трубку, імгненне глядзела ў акно, пра нешта думаючы і круцячы ў руках залацістую з лагатыпам кампаніі ручку, што ззяла пад сонечным промнем.

Міхась ціха зачыніў за сабой двайныя дзверы, яшчэ паспеўшы заўважыць насмешлівы позірк сакратаркі, і на якую долю хвіліны затрымаўся ля парога. Ганна Арнольдаўна, асветленая сонцам, расчырванелая, з трошкі разбэрсанымі валасамі, у белай расшпіленай уверсе на два гузікі кофтачцы, якая падкрэслівала яе тонкую смуглявую шыю, выглядала надзвычай прыгожай. Ёй ніяк нельга было даць сорак пяць гадоў. Міхась увявіў яе на вокладцы каляровага часопіса і падумаў, што часопіс ад гэтага толькі выйграў бы.

Ён стаяў ля стала, адказваў на пытанні, даваў тлумачэнні па паперах, якія яна падпісвала, і адчуваў пах яе духоў, нейкі незвычайны водар, а ў сэрдзіне ўздымалася хваля замілавання і пяшчоты да гэтай жанчыны. Яму хацелася дакрануцца да яе валасоў, правесці рукой па шыі, урэшце, абняць, прыцягнуць да сябе, каб уся цеплыня, што ахапіла яго, перадалася і ёй.

— Я ў вас пытаю другі раз, Міхаіл Іванавіч, што гэта за адказ? — пачуў ён скрозь трызненне і адразу вярнуўся ў рэальнасць з сваіх летуценняў. — Што з вамі?

Ён хітнуў галавою, няўцямна прамычаў^ "Даруйце…", падхапіў паперы і імкліва выйшаў з кабінета, пачуўшы, як генеральны дырэктар зноў гаворыць па тэлефоне. На яго шчасце, сакратарка абмяркоўвала з сяброўкай, у якой сукенцы лепш пайсці ў тэатр, і нават не звярнула ўвагі на Міхася.

А ён, нібыта маленькі хлопчык, адчуваючы, як гарыць полымем твар, молячы Бога, каб нікога не сустрэць па дарозе, шмыгнуў у свой кабінет і, зачыніўшыся, прасядзеў колькі часу адзін, спрабуючы супакоіцца. Галаву свідравала думка: "Яна здзекуецца з мяне, здзекуецца… Спецыяльна…" І самыя розныя пачуцці перапаўнялі яго душу.

Яму ляпалі ў дзверы раз-другі-трэці, а ён, нібы нервовая жанчына, сядзеў і ніяк не мог узяць сябе ў рукі. І сумна, і смешна... Не было ў яго жыцці такой сітуацыі, каб ён разгубіўся і не ведаў, як сябе паводзіць. Нарэшце Міхась супакоіў сябе тым, што Ганна Арнольдаўна не проста жанчына: яна генеральны дырэктар, ягоны начальнік… І ён нібыта зноў зірнуў у яе халодныя сінія-сінія вочы, якія, здаецца, усё-ткі з цікаўнасцю глядзелі на яго. Магчыма, як на мужчыну. А чаму не?.. Ён таксама высокага росту і з твару нічога.

Міхась падышоў да люстэрка: не прыгажун, але і не які-небудзь кракадзіл. Падцягнуты, плечы шырокія, лоб высокі. Валасы без сівізны, трошкі кучаравяцца, ляжаць хвалямі. Жонка, калі ў добрым настроі, любіць запусціць пальцы ў ягоныя валасы і гуляць з імі.

звяртаў увагу на тое, што жонка ходзіць па кватэры ў парваных старых штанах, абвіслай, выцягнутай амаль да калень дзіравай кофце? Пры тым, што ў яе паўнютская шафа вопраткі. Грошай на адзенне ён ніколі не шкадаваў, зарабляючы ўсё жыццё няблага. Проста яму было ўсё роўна. Да яе адзення, выгляду. Яна была накшталт шафы ці газавай пліты, якія павінны быць у кватэры заўжды. А ён? Паеў, паглядзеў тэлевізар, паспаў, тады-сяды пагаварыў з дзецьмі, можа нават пагуляў з імі, калі былі яшчэ малыя, а раніцай за парог і — да вечара, каб зноў паўтарыць гэты ж ланцужок.

Наступны дзень прайшоў у калатнечы і мітусні. Міхась нават не з'еў бутэрброда. Толькі ў перапынку паміж нарадамі выпіў кубачак кавы. Два разы бачыў Ганну Арнольдаўну, калі яна ад'язджала ў міністэрства і на прэс-канферэнцыю, на якой расказвала пра перспектывы развіцця кампаніі. Выглядала, як заўсёды, прыгажуняй, была ў добрым настроі, і журналісты закідалі яе пытаннямі. Яна адказвала на іх і, было відаць, атрымлівала задавальненне сядзець перад тэлевізійнымі камерамі, выказваць свае думкі, якія заўтра прачытаюць і пачуюць дзясяткі тысяч людзей.

Увечары, зачыняючы дзверы ў кабінет, Міхась цішком назіраў, як спускалася па лесвіцы з чацвёртага паверха па трэці Ганна Арнольдаўна, на хаду размаўляючы па мабільным тэлефоне. За ёй не адставала пухлявая нізенькая Вера Мікалаеўна, намеснік генеральнага дырэктара. Яна ўсміхнулася Міхасю і неяк хітравата і загадкава падміргнула.

Ён пачакаў, калі сціхне пошчак іхніх абцасаў, і няспешна пакіраваў дамоў. Стома брала сваё. Звычайна напрыканцы дня ён заходзіў выпіць кухаль піва, але гэтым разам не было настрою. Ён ішоў да прыпынку тралейбуса, потым ехаў, заціснуты з усіх бакоў пасажырамі, і нікога і нічога не заўважаў. Нібыта насланнё, у вачах была постаць Ганны Арнольдаўны. Здаецца, чуў яе хрыплаваты, але для яго своеасаблівы і надзвычай мілагучны голас, які вызначыў бы сярод мноства галасоў. Кабінет, карціны на сцяне, дываны на падлозе, мэбля, стол з паперамі — на ўсім гэтым быў адбітак яе характару, розуму, тонкага адчування прыгожага і сучаснага. Яна размаўляе па тэлефоне, п'е гарбату, смяецца…

Жонка адразу прыкмеціла, што Міхась нейкі замаруджаны, занадта павольны, быццам хворы і паеў слабавата, не так, як звычайна — з апетытам. Нават не дакрануўся да любімых дранікаў з мясам і грыбамі. Не стаў глядзець тэлевізар, адразу пайшоў у ложак. Жонка зазірнула ў спальню, прысела побач, пачала расказваць пра сяброўку, якая ездзіла адпачываць у Егіпет, пазнаёмілася з арабам і цяпер не ведае, што рабіць: выходзіць за яго замуж ці не. "Тут муж і двое дзяцей, а яна спадабала араба: дома гвалт, сварка. Што далей, што далей…"

— Ну, дурніца, дурніца, зусім з глузду з'ехала, — словы ў жонкі цяклі, бы вада з крана. — Муж яе кахае, дзеці, нібы анёлы, ласкавыя… Патрэбен ёй гэты араб, адкуль ён узяўся. Ну і дурніца! — жонка ажно падскоквала на ложку і пляла кашалі, пляла…

Было адно жаданне: не чуць яе і каб яна хутчэй скончыла свае байкі, пайшла з спальні. Прыплюшчыўшы вочы, Міхась глядзеў праз вейкі на жонку і не мог зразумець, як ён столькі гадоў пражыў з гэтай крыклівай, шумнай і несімпатычнай жанчынай, гадаваў дзяцей. У яе быў тлусты другі падбародак, вялікі жывот. Яна ўвесь час нешта жавала, кілаграмамі з'ядала цукеркі, не баючыся дыябету, на які ўрэшце і захварэла. А ён ці заўважаў гэта раней, ці

Яна гаварыла гладка, называла лічбы, не гледзячы на паперку.

Міхась, як у трыццаць гадоў, калі ў чарговы раз закахаўся, адчуў неверагодную цягу да гэтай жанчыны, дзеля яе быў гатовы нават пакінуць сям'ю. Аднак ён быў чалавек прагматычны і ніколі не рабіў адразу тое, што неспадзявана прыходзіла яму ў галаву. Ці мала было на яго жыццёвым шляху жанчын, дзеля якіх ён збіраўся зрабіць рашучы крок, а потым, параўважаўшы і ўбачыўшы, што новая каханка нічым не лепшая за жонку, прыходзіў да высновы: няма ніякага сэнсу мяняць шыла на мыла. Зрэшты, ён разумеў, што ягоная гісторыя з Ганнай Арнольдаўнай, калі і пачнецца, скончыцца гэтак жа, як і многія іншыя. Кожны застанецца пры сваіх інтарэсах. Толькі ім зараз рухала не логіка, а векавечная цяга мужчыны да прыгожай жанчыны.

Працаваць заставалася яшчэ хвілін дваццаць, і Міхась вырашыў не затрымлівацца, пайсці дахаты. Ён успомніў, што на балконе недаробленая шафа, якую пачаў збіраць на тым тыдні. Дошкі сталі тарчма і перашкаджалі хадзіць, сушыць бялізну. З-за гэтай шафы жонка яму, як кажуць, чэрап прадзяўбла.

Адчыніліся дзверы — на парозе стаяла Вера Мікалаеўна, намеснік Ганны Арнольдаўны. Яна засмяялася, убачыўшы, як хуценька ўскочыў з крэсла Міхась. Недарэмна амаль трыццаць гадоў насіў на плячах пагоны. Прывычка — другая натура.

— Міхась Іванавіч, я вас папрашу праз паўгадзіны зайсці ў пакой адпачынку, туды, дзе мы абедаем. — І дадала: — Гэта ненадоўга.

Не адмовіш: усё-ткі другая асоба пасля генеральнага дырэктара, а ведаючы яе няпросты характар, застаецца толькі ўсміхацца і рабіць выгляд, што ён яе любіць і паважае.

У калідоры пачуўся тупат, гамонка. Рабочы дзень скончыўся, і супрацоўнікі наперадкі рушылі з сваіх кабінетаў. У гэты момант лепш не выходзіць насустрач натоўпу, які, не звяртаючы ўвагі на пасады і ўзрост, плыве на выхад з будынка. Дзейнічаў інстынкт адпаведна тэорыі Паўлава, гэткі ж амаль, як жаданне піць ці есці.

Калі Міхась падышоў да пакоя адпачынку, у якім абедалі, часам гулялі юбілеі, у будынку ўжо было ціха. Чуваць, як на вуліцы равуць машыны, прагудзеў ліфт і спыніўся на нейкім паверсе. Міхась пастукаў і адчыніў дзверы. За шырокім і доўгім сталом, на якім стаялі талеркі з закуссю, бутэлькі з пітвом, сядзелі Ганна Арнольдаўна, Вера Мікалаеўна і яшчэ некалькі чалавек з ліку кіраўнікоў аддзелаў.

— Заходзьце, Міхась Іванавіч, заходзьце, не саромейцеся, — сказала Вера Мікалаеўна. — Я ўспомніла…

— Мы ўспомнілі, — перапыніла яе Ганна Арнольдаўна.

— Так, мы ўспомнілі, — засмяялася Вера Мікалаеўна. — Гэта ж сёння трыццаць гадоў, як я працую ў нашай кампаніі. Дарэчы, нават кадравікі не ўспомнілі…

— Вінаватыя, памылку паправім, — сказаў кадравік.

Міхась мог часам узяць добрую чарку, застаючыся з галавой і на нагах, але спіртным не злоўжываў. І ўсё-ткі ён трошкі захмялеў, бо, мабыць, больш чым пажадана пазіраў на Ганну Арнольдаўну. Яна смяялася разам з усімі, весялілася, ператвараючыся са строгай і навват жорсткай начальніцы ў простую жанчыну, сяброўку па застоллі, з якой можна паспяваць, пажартаваць, а ў нейкі момант паспрабаваць і пазаляцацца да яе. Вядома, чым заканчваюцца многія бяседы з удзелам мужчын і жанчын: утвараюцца пары, і пачынаецца каханне на вечар.

На Міхася ніхто не звярнуў увагі, калі ён выбраўся з-за стала і, трошкі хістаючыся, пацягнуўся з кабінета. Калідор быў пусты, у канцы яго гарэла толькі адна лямпачка. Ён пастаяў, слухаючы цішыню. Чуваць было, як у туалеце капае вада. З прыёмнай генеральнага дырэктара праз паўадчыненыя дзверы выбівалася святло. Яно нібы клікала да сябе, па-змоўніцку нагадвала, што ў кабінеце ёсць гаспадыня. Ногі, быццам непадуладныя яму, зрушылі з месца, і ён зрабіў тое, пра што марыў. Настрой быў адпаведны, і ў галаве варушыліся словы, якія вось-вось хлынуць з яго ракой. Ён шмат што скажа. Ён умее гаварыць ласкавыя словы, здолее выказаць свае пачуцці, якія жывуць у ім.

Ганна Арнольдаўна чытала дакументы. Міхась навват падумаў, можа, яго? Ён амаль бязгучна, мякка ступаючы па густым варсістым дыване, наблізіўся да стала, сеў у крэсла. Ганна Арнольдаўна, не падымаючы вачэй, спытала:

— Слухаю, Міхаіл Іванавіч.

І раптам усе словы, якія перапаўнялі яго, некуды зніклі, ён не мог навват засяродзіцца і бездапаможна маўчаў, бяздумна ўсміхаючыся.

— Слухаю вас, Міхаіл Іванавіч, — праз паўзу паўтарыла Ганна Арнольдаўна. — Я ўважліва слухаю вас!..

Нібы адчынілася ў галаве засланка, і ўсё, што Міхась думаў дагэтуль пра генеральнага дырэктара, хлынула бурлівым патокам. Ён гаварыў і гаварыў, некалькі разоў ускокваў з крэсла, каб абняць, пацалаваць Ганну Арнольдаўну, але яна ўзмахам рукі паказвала: заставайцеся на месцы.

Называў яе багіняй, найпрыгажэйшай жанчынай на свеце. Ён пасля навват не мог успомніць, чаго нагаварыў у той вечар. Што яе кахае, што яна святло ў канцы яго жыццёвага тунэля. Ён гатовы ў любы момант развесціся з жонкаю і ажаніцца з Ганнай Арнольдаўнай. Будзе добрым бацькам… Не, не айчымам, а менавіта добрым бацькам для яе дзяцей. Іх ён ужо любіць, з імі будзе ездзіць па грыбы, па ягады, на поўдзень купацца ў моры. На Чорным моры жыве яго даўні сябар, які з радасцю прыме іх у сваім двухпавярховым доме. Галоўнае — ён яе вельмі кахае…

Ганна Арнольдаўна ўважліва яго слухала. Твар быў задуменны, нейкі цень лёг на яго, зрабіўшы амаль незнаёмым, чужым, нібыта гэта была ўжо зусім іншая жанчына. Яна кашлянула раз-другі, не перапыняючы маналог Міхася, чмыхнула, засланяючы рот рукой. Адвярнула галаву да акна і засмяялася. Спярша ціхенька, ледзь чутна. Праз хвіліну яна рагатала, гучна, ляпаючы рукой па стале. Ад смеху з вачэй у яе пацяклі чорныя ад тушы слёзы. Яна рагатала і рагатала… Міхась замоўк, разгублена глядзеў на Ганну Арнольдаўну, не разумеючы прычыну яе смеху. Ён і сам засмяяўся, пасля тоненька і брыдка захіхікаў, быццам школьнік. Яна рагатала, а Міхась яшчэ сядзеў за сталом, не ведаючы, што яму рабіць. Нарэшце падняўся і, згорбіўшыся, быццам пабіты сабака, выскачыў у калідор. І ледзь не бегма, не заходзячы ўжо да вясёлай кампаніі, якая ўсё-ткі заспявала, пакінуў будынак.

На працу Міхась больш не выйшаў, паслаў заяву на звальненне па электроннай пошце. Яму доўга сніўся сон з Ганнай Арнольдаўнай, якая смяялася…

**Мінулае стагоддзе. Сярэдзіна 50-х. Змены ў грамадскім жыцці спакваля пачыналі ўплываць на аднаўленне публіцыстычных жанраў у мастацтве. У 1956 годзе на III з'ездзе беларускіх мастакоў загаварылі пра амаль поўную адсутнасць плакатнай творчасці ў нашай рэспубліцы. Плакат выдаваўся толькі да святочных дат Дзяржаўным выдавецтвам БССР.**

# Быў і парадны, і сатырычны

## Да 45-годдзя беларускага «Агітплаката»

Людміла НАЛІВАЙКА




**З 1961 года** ў Саюзе мастакоў БССР пачалася дзейнасць секцыі плаката, куды ўвайшлі Т. Ігнаценка, Л. Кроль, І. Маслан, Р. Ганцэвіч, І. Радунскі, Л. Замах, П. Калінін, І. Крэйдзік, В. Філімонаў, Ф. Выпас. Аўтары першых агітплакатаў працавалі на грамадскіх асновах. Іх творы выконваліся ад рукі і экспанаваліся ў вокнах Саюза мастакоў БССР на галоўным праспекце Мінска. А 21 жніўня 1966 г. рашэннем ЦК КПБ была створана рэдкалегія "Агітплаката Саюза мастакоў БССР". Перад ёй стаялі задачы па стварэнні плакатаў для агітацыйна-прапагандысцкіх мэт: адлюстраванне падзей знешняй і ўнутранай палітыкі, актуальных праблем народнай гаспадаркі. Галоўны рэдактар і склад рэдкалегіі зацвярджаліся ідэалагічным аддзелам ЦК КПБ. У тым самым аддзеле зацвярджалася тэматыка працы з перспектывай на год. Першым рэдактарам быў прызначаны мастак-графік М. Гуціеў. Пад яго кіраўніцтвам "Агітплакат" працягваў традыцыі "Окон РОСТА" і сатырычных беларускіх выданняў часоў вайны "Раздавім фашысцкую гадзіну!" ды "Партызанская дубінка", а таксама часопіса "Вожык".

За перыяд фарміравання і станаўлення беларускага "Агітплакат" (праіснаваў ён да канца 1980-х) зрабіўся сапраўднай школай агітацыйнага і сатырычнага мастацтва. У першым шэрагу рупліўцаў гэтай справы былі Л. Замах, Ф. Выпас, Л.Кроль, І.Крэйдзік, П. Калінін, Р.Ганцэвіч, І. Радунскі, М. Моўчан, М. Масцераў, А. Чысцякоў, Р.Маліноўскі, Л.Чурко, В. Салаўёў, Б.Казлоўскі. М. Чэпік, Ф. Дарашэвіч, Я.Хайрулін ды іншыя творцы. Адкрыццё ў 1975 г. майстэрні плаката пры кафедры графікі Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута спрыяла падрыхтоўцы плакатыстаў-прафесіяналаў.

**Акрамя абавязковых** — пад лозунгамі "Спаборнічай!", "Выконвай!", "Збірай ураджай!", "Павялічвай вытворчасць!" — у планы ўключалася вялікая серыя сатырычных аркушаў. Дый тэматыка агульначалавечага гучання: святочныя даты, барацьба за мір, ахова навакольнага асяроддзя. Менавіта ў плакаце нараджаліся цэлыя серыялы пра будаўнічыя пляцоўкі блізу Полацка, у Гродне, Салігорску. Агітацыйныя аркушы плакатаў абвяшчалі дасягненні пачатку 60-х: "Зашумела Палессе і ўраз ажыло. Наваполацк паўстаў цуда-волатам / і па трубах стальных пацякло / беларускае "чорнае золата" (Л. Замах, 1966); "Вугаль знойдзены і руда ў нас! Пацякуць з мартэнаў, прыйдзе час, рэкі беларускага металу! (А. Чысцякоў, 1966); "Меліярацыя — шлях да пашырэння пасяўных плошчаў Беларусі!"(У. Дубавецкі, 1979). Мастацкую падтрымку набылі савецкі "Знак якасці", заклікі на суботнікі, сацыялістычнае спаборніцтва на вытворчасці. У дыхтоўнай рабоце "Сей у пару — збярэш хлеба гару" (У. Крукоўскі, 1977) нават адчуваецца вобразная афарыстычнасць.

Самыя лаканічныя плакаты сталіся ўзорнымі і запамінальнымі. У іх быў створаны ідэальны вобраз працаўніка: маладога чалавека, дзяўчыны, якія даюць прыклад стваральнай дзейнасці, радуюць добрым настроем, шчырай усмешкай. Заўважу, што мастакі выдатна валодалі малюнкам, прапаноўвалі вельмі сучасныя па рытміцы і фармальнай пабудове кампазіцыі, а гэта выклікала давер і сімпатыю да іх герояў. У цэнтры выявы заўсёды быў вобраз чалавека-стваральніка, або ўзоры зробленага ім на калгасным палетку, або дасягненні будаўніцтва прамысловых аб'ектаў: "Учора — рубеж наватара, сёння — працоўная норма" (У. Дубавецкі, 1981); "Моладзь Беларусі! Прымнажай працоўныя поспехі Радзімы!" (І. Крэйдзік, 1980).




**На мастацка-прамысловым** факультэце БДТМІ ў 1986 г. адкрылася кафедра нагляднай агітацыі, выставак і рэкламы. У "Агітплакат" прыйшла моладзь з вышэйшай мастацкай адукацыяй. І вызначыліся як найбольш сталыя У. Жук, У. Васюк, С. Волкаў, Р.Данчанка, В.Філімонаў, В. Сакалоў, Л.Кальмаева, І.Уладычык, В.Смаляк, У.Дубавецкі, У. Сычанка, К. Ракіцкі. Склалася цэлая сістэма вырашэнняў: ад ілюстрацыйнага і парадната да манументальнага і вострa экспрэсіўнага — аж да метафарызацыі плаката. Асноўным падыходам заставалася спалучэнне светлых ды цёмных плям і выразны контур, што надавала патрэбную дынамічнасць выяве.

Мастакі станавіліся прапагандыстамі беларускай культуры, імкнучыся захоўваць і развіваць не толькі нацыянальныя адметнасці, але і мець свае тыпажы і дакументальныя атрыбуты. У агульную ідэю плаката ўключаліся моладзь у нацыянальным адзенні, помнікі гісторыі і архітэктуры, узоры і арнаменты. Напрыклад, найбольш знакамітыя краявіды нашай сталіцы — у аснове аркуша В. Смаляка "З руін і попелу ўзняты горад-герой Мінск"(1980). Яркім рупліўцам тэмы адраджэння нацыянальнай культуры з'яўляецца У. Крукоўскі — мастак, журналіст. Ён аўтар плаката "Архітэктура — нацыянальны скарб" (1973) і серыі партрэтаў славутых дзеячаў Беларусі: Ф. Скарыны, М.Гусоўскага, В. Цяпінскага, К.Каліноўскага, Цёткі (А.Пашкевіч), М.Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, І. Луцкевіча, Я. Драздовіча ды інш. У "Агітплакаце" мужнела і сталела творчасць аднаго з класікаў беларускай графікі канца XX ст., знанага педагога У. Васюка, які авалодаў шырокай палітрай тэм і жанраў: ад агітацыйна-святочных да афіш спектакляў і свят. Ён аўтар вядомых твораў "Мір, Праца, Першамай" (1984), "Планеце Зямля патрэбна жыццё" (1986), распрацовак вобразаў М. Гусоўскага, П.Мсціслаўца, С.Буднага. Адкрыццямі, што сведчылі пра змену формаў мастацкага мыслення, папаўняўся творчы набытак У.Жука, В.Кавалеўскага, Д.Маслія, Л. Кальмаевай, іншых творцаў, чуйных да новых паваротаў у тэме аховы прыроды і самога чалавека. Непаўторны ў сваіх кампазіцыйных распрацоўках М.Стома прапанаваў, можна сказаць, сімфоніі колеравых сугуччаў, якія ўвабралі ў сябе вастрыню надзённых праблем: "Беражыце санітараў лесу" (1976), "Ахоўваць прыроду — значыць ахоўваць Радзіму!" (1980), "Лебедзь-шыпун ахоўваецца законам" (1983).

Як сінтэтычны від выяўленчага мастацтва плакат, вядома ж, спалучае візуальны вобраз і слова. Таму "Агітплакат" актыўна супрацоўнічаў з многімі беларускімі літаратарамі, у тым ліку А. Астрэйкам, Р.Барадуліным, С. Блатуном, А.Вялюгіным, Хв.Жычкам, С.Законнікавым, Г.Кляўко, П.Прыходзькам, М.Пенкратам, М.Скрыпкам, І.Стадольнікам, П.Сушко.

**"Агітплакат" адгукнуўся** і на сацыяльную патрэбу ў змаганні з недахопамі, якія раней не браліся пад увагу афіцыйнай крытыкай. Мастак, які адчуваў свой час і "набіраў" патрэбную вобразную вастрыню, працаваў над кожнай тэмай у сумоўі з паэтам-вастрасловам, здатным на дасціпныя выкрывальныя рыфмы, якія маглі прэтэндаваць на народныя прымаўкі выхаваўчага кшталту. Ролю "Агітплаката" ўспрынялі як сваю асабістую пазіцыю-задачу мастакі-вожыкаўцы М. Гурло, В. Салаўёў, С. Волкаў, М. Лісоўскі, Я.Бусел, В. Шматаў, А. Чуркін. Сярод плакатных тэм вылучаліся выкрывальніцтва абібокаў, марнатраўцаў, гультаёў; высмейванне бюракратаў і хабарнікаў; ганьбаванне алкаголікаў і горкіх п'янтосаў; сатырычны адлуп антысавецкай ідэалогіі; услаўленне станоўчых узораў вядзення народнай гаспадаркі. Стваралася нямала выразных узораў ва ўмоўна-гратэскавым стылі, падмацаваным здаровым народным гумарам. Напрыклад, М. Лісоўскі ў плакаце "Адзін гоніць, другі тоне" (1966) звярнуўся да праблемы вырабу самагонкі. Паказаў такога цынічнага тыпа, які за грошы гатовы загнаць усіх у бутэльку з "зялёным зеллем", адкуль немагчыма выкараскацца, не разбіўшы яе ўшчэнт. У гурме "герояў" М. Гурло з'явіўся крыкун за трыбунай — гэткі дэмагог, які на словах асуджае п'янства, а насамрэч з'яўляецца завадатарам сярод апівох. Вельмі ўдала вырашаны карыкатурны плакат Я.Бусела "Раз, два, узялі..." (1983) пра тых спрытнюг, якія раскрадаюць дзяржаўную маёмасць, пакуль іх сапраўды не "возьмуць" — і за краты. Традыцыі свайго бацькі, вядомага графіка-сатырыка А.Волкава працягвае С.Волкаў. У яго ўласнай калекцыі — 100 плакатаў, серыі коміксаў, сяброўскіх шаржаў. Сярод іх ёсць, напрыклад, аркуш з подпісам: "Спекулянт амаль з натуры: за кошт нашага дабра / з нас гатоў садраць тры скуры. Прэч ганіце махляра!". Або — сатырычны вобраз лайдацтва: сярод збожжа, як той сыты надзьмуты хамяк, спіць гора-механізатар...

Не заставаўся "Агітплакат" убаку ад праблем у міжнародным становішчы 1960 — 80-х. Паказваў драпежных рэваншыстаў, сіяністаў, алігархаў, шалёных рэакцыйных палітыкаў, якія, нібы смяротнасныя змеі, атручваюць... слухачоў радыёстанцый "Голас Амерыкі", "Бі-Бі-Сі", "Нямецкая хваля". У палітычнай сатыры так выяўленчы радыкалізм цалкам дапушчальны, бо яго змякчае стылізацыя і ўсмешлівая іронія. Такія адмоўныя вобразы выклікаюць зусім не страх, а смех, бо яны — гэткі канцэнтрат паталагічных якасцей і нікчэмнасці. Аўтар аркуша "Рэванш" (1968) Я.Бусел скарыстоўвае словы: "Голас знаёмы і брэша заўзята. Відаць, пазабыў ён пра сорак пяты!" Паслядоўна гэтай тэмай займаўся А.Чуркін, якому належыць зборнік карыкатур "Твар свабоднага свету" (1988).

**Відавочна,** што "Агітплакат" як найбольш мабільная, запатрабаваная жыццём, папулярная і перспектыўная форма развіцця беларускай графікі паспрыяў адраджэнню культурна-дэмакратычнага пласта ў нашым мастацтве XX стагоддзя. Але з надыходам "перабудовы" знікла патрэба ў гераічных лозунгах і закліках, а галоўнае, аслаб ідэалагічны ціск. Набыткі зрабіліся гісторыяй, у якой засталася свая значная падзея: у 1984 г. перад сталічным Палацам мастацтва была разгорнута ўражлівая экспазіцыя. Яна прысвячалася выхаду ў свет 1000-га нумара "Агітплаката".

***На здымках: плакаты Я. Бусела і М. Гурло.***

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА,
фота Віктара Кавалёва і аўтара

**М**іжнародны конкурс піяністаў-выканаўцаў славянскай музыкі, які носіць імя Станіслава Манюшкі, адбыўся ў Мінску. Наогул гэты конкурс быў трэці па ліку, але ў нашай краіне праходзіў упершыню. Яго арганізавала Міністэрства культуры Беларусі пры ўдзеле Французскай асацыяцыі С. Манюшкі, якую ўзначальвае прапрапраўнучка беларуска-польскага кампазітара — Клара Манюшка. Спаборнічала 11 музыкантаў з Беларусі, ЗША, Паўднёвай Карэі, Польшчы, Расіі, Узбекістана,




Японіі. У конкурсную праграму ўваходзілі толькі творы з аркестравым суправаджэннем. Піяністы гралі з нашым Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам, дырыжыраваў Андрэй Галанаў. Журы прызнала пераможцам паляка Лукаша Крупінскага, 2-е месца ў расіяніна Міхаіла Далгова. А беларускі музыкант Яўген Галанаў адзначаны 3-й прэміяй. На думку Клары Манюшкі, гэты конкурс, скіраваны на прапаганду фартэпіяннай творчасці славянскіх кампазітараў, магчыма, яшчэ не раз пройдзе ў Беларусі, на радзіме яе знакамітага продка.

**Г**амяльчанін, выпускнік Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, ён паспяхова пачынаў сваю оперную кар'еру ў Свярдлоўску. Вярнуўшыся на радзіму заслужаным артыстам РСФСР, Мікалай Майсеенка ўжо 30 гадоў служыць сцэне і публіцы НАВТ оперы і балета Беларусі, дзе ўвасобіў вядучыя партыі барытона практычна ва ўсіх пастаноўках. Нядаўна тут адбыўся яго бенефісны спектакль "Рыгалета" — у гонар 70-годдзя выдатнага саліста.

**П**есня "Ангелы добра", з якой юная магіляўчанка Лідзія Заблоцкая прадстаўляла Беларусь на міжнародным дзіцячым тэлеконкурсе "Еўрабачанне-2011", апынулася ў ліку лепшых і падзяліла 3-е месца з кампазіцыяй расіянкі Каці Рабавай. Перамога — у Грузіі.

**В**ольга Бубіч прэзентавала наведвальнікам сталічнай мастацкай галерэі "Універсітэт культуры" незвычайны аўтарскі фотапраект, прысвечаны Мінску і яго жыхарам. Серыя чорна-белых дыптыхаў "Горад унутры" — своеадметны позірк



сучаснай моладзі на пазнавальныя архітэктурныя аб'екты, папулярныя куткі сталіцы. Дзіўна, але здымкі нібы транслююць псіхалагічную сувязь канкрэтных людзей з іх улюбёнымі мясцінамі і... выяўляюць "партрэтна-характарнае" падабенства чалавека з дакументальнымі дэталямі гарадскога ландшафту.

***На здымках: артдырэктар конкурсу, старшыня Французскай Асацыяцыі Станіслава Манюшкі, прафесар Парыжскай акадэміі музыкі, піяністка Клара Манюшка; фотадыптых Вольгі Бубіч "Сабіна/дамы-"кукурузы" на вул. В. Харужай".***

# Гучнае tutti саюза энтузіястаў

**Сёння ў Мінску праходзіць IV з'езд Беларускага саюза музычных дзеячаў. Старшыня праўлення грамадскага аб'яднання, народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі выступіць са справаздачным дакладам. У 2012 годзе саюз адзначыць адметную дату: 25 гадоў з часу заснавання. Таму дэлегаты з'езда падсумуюць найбольш значныя дасягненні БСМД, абмяркуюць праблемы і планы яе дзейнасці, вызначаць шляхі далейшага развіцця сваёй творчай суполкі. Напярэдадні падзеі адбылася гутарка карэспандэнта "ЛіМа" з кіраўнікамі саюза — старшынёй праўлення Міхасём Дрынеўскім і яго першым намеснікам Наталляй Вітчанкай.**

***— Дэлегаты папярэдняга з'езда прынялі грунтоўную пастанову, вызначыўшы перспектыўныя кірункі працы Беларускага саюза музычных дзеячаў. Паўсталі сур'ёзныя задачы перад праўленнем саюза. Што ўдалося зрабіць за мінулае пяцігоддзе?***

**Міхась Дрынеўскі.** Я ўзначальваю саюз з першага дня яго існавання, без малога 25 гадоў. Але, шчыра скажу, я не памятаю такога насычанага і пленнага справаздачнага перыяду. Бясспрэчна, наш саюз стаў заўважнай, аўтарытэтнай і паважанай арганізацыяй, якая дапаўняе работу дзяржаўных структур у галіне музычнага мастацтва. Пра гэта сведчыць і той факт, што ў саюз за мінулыя пяць гадоў, без усялякага, як кажуць, адміністратыўнага фактару, уступіла больш як 700 чалавек, і сёння ў нас 1448 членаў БСМД. Вельмі радуе, што шэрагі саюза значна папоўніліся таленавітай моладдзю, у тым ліку лаўрэатамі міжнародных конкурсаў, стыпендыятамі ды лаўрэатамі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы творчай моладзі. Ну, а прыклад для іх — тыя 102 члены саюза, якія маюць ганаровыя званні "народны" і "заслужаны". І нам удаецца выкарыстоўваць гэты магутны творчы патэнцыял як "рухавік" у развіцці беларускай музычнай культуры. Таму што прыйшлі гэтыя людзі ў саюз не з працягнутай рукой, а з імкненнем прапанаваць сваю дапамогу, даць нешта ад сябе.

Адразу ў нас склаўся вельмі слушны прынцып работы з членамі саюза: аб'яднанні паводле прафесійнага прынцыпу. Да колішніх пяці творчых асацыяцый за мінулыя пяць гадоў дадаліся яшчэ тры: оперна-сімфанічных дырыжораў (старшыня — А. Анісімаў), беларускіх баяністаў і акардэаністаў (старшыня — М. Сеўрукоў), маладых беларускіх кампазітараў (старшыня — К. Яськоў). І кожная асацыяцыя ўжо мае на сваім рахунку шмат цікавых акцый, што, як правіла, станавіліся падзеямі. Так, напрыклад, Асацыяцыя беларускіх цымбалістаў (старшыня — Я. Гладкоў) правяла ў 2007 годзе ў Маладзечне V Рэспубліканскі фестываль "Сярэбраны звон цымбалаў", прысвечаны 100-годдзю І. Жыновіча і 10-годдзю АБЦ, а летась — Міжнародны форум цымбалістаў. Асацыяцыя беларускіх дамрыстаў і мандалiністаў (ганаровы старшыня — Г. Асмалоўская, старшыня — М. Марэцкі) — IV Рэспубліканскі фестываль да 95-годдзя Г. Жыхарава і тры Рэспубліканскія мандалінныя сесіі. Беларуская перкусійная асацыяцыя (старшыня — У. Судноўскі) — II Міжнародны фестываль "Дні барабанаў і перкусіі". Асацыяцыя кіраўнікоў хлопчыкаў і юнакоў (сустаршыні — А. Варлахін, У. Глушакоў, Ю. Казакевіч) шмат зрабіла для прапаганды ў нашай краіне гэтага пакуль што рэдкага віду харавых спеваў: чацвёрты год запар у сталічнай філармоніі адбываюцца канцэрты абанементу "Спяваюць хлопчыкі", у 2008-м адбылося міжнароднае свята хароў хлопчыкаў "Таласы сяброў", сёлета — першы Рэспубліканскі фестываль хлопчыкаў і юнакоў.

Безумоўна, адно сваімі намаганнямі мы б не зладзілі гэтыя мерапрыемствы. Таму імкнёмся пашыраць і ўмацоўваць нашы партнёрскія кантакты і вельмі дзякуем Міністэрству культуры краіны, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускай дзяржаўнай філармоніі, упраўленню культуры Мінскага аблвыканкама, іншым дзяржаўным установам за плённае супрацоўніцтва.



***— Дарэчы, на мінулым з'ездзе шмат гаварылася менавіта пра неабходнасць умацоўваць і развіваць дзелавыя кантакты саюза з Міністэрствам культуры, шукаць магчымасці для ажыццяўлення супольных праектаў. Атрымалася?***

**М. Д.** Так. Нашы стасункі з міністэрствам кардынальна змяніліся, і за апошнія 5 гадоў мы зладзілі столькі цудоўных сумесных мерапрыемстваў, колькі не правялі за папярэднія 20 гадоў. Назаву толькі самыя маштабныя. У 2007 і 2008 гадах адбыліся выстаўкі работ членаў Асацыяцыі майстроў музычных інструментаў у межах фестывалю "Славянскі базар у Віцебску". Летась, пасля дваццацігадовага перапынку, прайшло Рэспубліканскае свята-конкурс вакальна-харавых калектываў, прысвечанае 100-годдзю Г. Цітовіча. У 2007-м вялікі грамадскі розгалас выклікаў канцэрт-бенефіс "Музычнае прынашэнне" да 60-годдзя заслужанага артыста БССР, нашага першага лаўрэата Міжнароднага конкурсу імя П. Чайкоўскага, — спевака Валерыя Кучынскага. У такім самым фармаце ладзіўся канцэрт-бенефіс да 80-годдзя легендарнага дырыжора Генадзя Праваторава, у якім на бязвыплатнай аснове выступілі тры аркестры, два хоры, шэсць дырыжораў, вядучыя салісты Беларускай оперы. Гэта было залетась. І хто ведаў тады, што Маэстра заставалася жыць не болей як год? Зноў і зноў задумаешся пра тое, як важна своечасова сказаць чалавеку "дзякуй". На жаль, так не атрымалася ў дачыненні да народнай артысткі СССР, прэзідэнта Міжнароднага саюза музычных дзеячаў, нашай зямлячкі Ірыны Архіпавай. З-за адсутнасці сродкаў не адбыўся ў Мінску канцэрт да яе юбілею, не адбылася доўгачаканая сустрэча вялікай Артысткі з радзімай дзеда. І толькі сёлетняй вясной беларускія музыканты, спевакі ўшанавалі яе памяць канцэртам з удзелам расійскіх калег.

***— Вы назвалі столькі розных адметных імпрэз, якія вымагаюць вялікай арганізацыйнай працы, і я ведаю, што гэта зусім невялічкая доля зробленага саюзам за апошнія 5 гадоў. У нашых чытачоў можа скласціся ўражанне, быццам бы ў праўленні БСМД працуе нямала штатных спецыялістаў. Але ж арганізацыйна-творчыя пытанні курыруе ў рэспубліканскім праўленні толькі адзін чалавек! У чым сакрэт паспяховасці?***

**Наталля Вітчанка.** Адказ на словах просты, але ж у рэалізацыі праз канкрэтныя справы — складаны. Гэта развіццё грамадскіх асноў. Наватарскі падзвіжніцкі характар дзейнасці многіх членаў саюза заслугоўвае глыбокай павагі. Так, у 2005 годзе па прапанове Валерыя Уколава мы стварылі, нягледзячы на скептыцызм некаторых членаў прэзідыума праўлення, некамерцыйны прадзюсарскі цэнтр "Класіка". За пяць з паловай гадоў Валерый Іванавіч, гэты дзіўны "бяссрэбранік", прыдумаў і правёў столькі мерапрыемстваў, колькі іншыя не арганізуюць за зарплату. А дацэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамара Слабодчыкава! Яна за свой кошт шматкроць ездзіла ў Маскву, вяла міжнародныя перамовы дзеля таго, каб у Мінску адбыліся Рэспубліканскія семінары-практыкумы па харавых спевах пад кіраўніцтвам сусветна вядомага маэстра Уладзіміра Мініна і яго паплечніка, прафесара Уладзіміра Семенюка. Якую карысць прынеслі гэтыя семінары прафесійнаму развіццю нашых музыкантаў! Прафесар БДУ культуры і мастацтваў Аляксандр Карацееў — натхняльнік і галоўны арганізатар Рэспубліканскіх конкурсаў выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах, першага адкрытага Рэспубліканскага фестываль-конкурсу музычнага мастацтва Беларусі "Спадчына". Не адстае і моладзь: творчы цэнтр "BelArtSound" пад кіраўніцтвам Галіны Казіміроўскай сабраў пры канцы мінулага года калектывы з усёй краіны на першы беларускі фестываль-конкурс харавой музыкі "Рэха". На грамадскіх асновах узначальвае работу праўлення наш старшыня М. Дрынеўскі; праўленне Мінскага гарадскога аддзялення БСМД — кампазітар, прафесар В. Войцік; Мінскага абласнога аддзялення — маэстра Р. Сарока; Гомельскага абласнога — мастацкі кіраўнік Гомельскай абласной філармоніі Г. Паўлянок; Гродзенскага абласнога — дацэнт ГДУ Р. Левіна...



На жаль, мы не маем магчымасці аплачваць гэтую грамадска карысную працу. Сёння ў нас ёсць толькі адна магчымасць падтрымкі энтузіястаў: маральная. Да 20-годдзя саюза, у 2007 г., мы заснавалі нашу вышэйшую ўзнагароду — нагрудны знак "За ўклад у развіццё музычнага мастацтва", якім ужо ўзнагароджаны 62 чалавекі.

***— А ці засталіся праблемы, якія не ўдалося вырашыць за пяць міжз'ездаўскіх гадоў?***

**М. Д.** Зразумела. Вельмі шкада, што за гэты перыяд не атрымалася вырашыць праблему ўкаранення ў вытворчасць новых беларускіх цымбалаў. З закрыццём Барысаўскай фабрыкі музычных інструментаў гэтая праблема надзвычай абвастрылася, а без яе вырашэння вельмі складана ўявіць сабе будучыню гэтага нацыянальнага інструмента і нашай выканальніцкай школы. Таксама не разблытаны клубок праблем у майстроў музычных інструментаў. Неаднаразова мы звярталіся да Міністэрства культуры з прапановамі, але ж да гэтага часу не знайшлі ўзаемаразумення.

І яшчэ пра набалелае: на з'ездзе ў 2006 годзе мы адзначалі, што журботныя падзеі, якія здарыліся адна за адной — пайшлі з жыцця старшыня Магілёўскага абласнога аддзялення В. Тупіцын і адказны сакратар Т. Якаўлева, — прывялі да таго, што адно з нашых лепшых структурных падраздзяленняў практычна перастала існаваць. На жаль, мы так і не вырашылі гэтую праблему.

***— І ўсё ж такі што заахвочвае музыкантаў уступаць у "саюз энтузіястаў"?***

**Н. В.** Некаторыя людзі далучаюцца да нас, заплаціўшы гадавы членскі ўнёсак — 35 тысяч рублёў, і хочуць атрымаць нейкую аддачу на мільён. Такія, як правіла, у саюзе не затрымліваюцца, і мы пра іх выхад не шкадуем. Галоўным чынам у наш саюз уступаюць з жаданнем прычыніцца да ажыццяўлення творчых праграм, рэалізаваць свае ідэі. Людзі цэняць такую магчымасць, ганарацца, што праз сваё членства ў саюзе маюць дачыненне да нашых шматлікіх творчых акцый. А мы, безумоўна, імкнёмся стварыць адпаведныя ўмовы, каб кожны адчуваў сабе ў саюзе, як у вялікай і дружнай сям'і. Мы віншуем з юбілеямі, святамі, аказваем матэрыяльную дапамогу. У 2007 годзе пачалі вырашаць адну са сваіх статутных задач: "садзейнічанне ў стварэнні сацыяльна-бытавых умоў членам БСМД". Столькі было цяжкасцей, бо ніколі за гісторыю Беларусі творчы саюз не будаваў свой жылы дом! Вялікі дзякуй Мінскаму гарвыканкаму, які паверыў у нашы магчымасці і стварыў неабходныя ўмовы для ажыццяўлення нашай мары. І ўрэшце, 28 снежня 2010 года, мы парадавалі многіх членаў БСМД навагодняй казкай: будаўнікамі быў здадзены 115-кватэрны дом у мінскім мікраараёне "Сокал". Кватэры атрымалі многія маладыя сем'і, маладыя спецыялісты, тры лаўрэаты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы творчай моладзі. Я з прыемнасцю працытую, што пісалі навасельцы ў нашай "Кнізе водгукаў". Вось, напрыклад: "Як патрэбны свой дом! Гэта аксіёма, якая не вымагае доказаў! Але ж як гэтага не проста дабіцца! Наш саюз здолеў гэта! Аказваецца, музыкантам па сілах не толькі вывучыць партыю ў аркестры або хоры!.." Летась мы ўзяліся за другі "побытавы" праект: "Прылукі-2010", адпаведна якому будаўніцтва дома для членаў БСМД у Мінскім раёне пачнецца ў наступным годзе.

***— А новы год ужо блізка...***

**М. Д.** ... і для саюза ён будзе знамянальны, дваццаць пяты. Мы верым у велізарныя магчымасці нашай музычнай суполкі, зычым ёй шматвяковай слаўнай гісторыі! А яшчэ пажадаем усяго самага добрага рэдакцыі "ЛіМа", якой вельмі ўдзячныя за плённае творчае супрацоўніцтва.

**Запісаў Арцём КУМЕЛЬСКІХ**

## Нашы юбіляры



**Галіна Віктараўна АСМАЛОЎСКАЯ** — заслужаная артыстка Беларусі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, ганаровы старшыня Асацыяцыі беларускіх дамрыстаў і мандалiністаў Беларускага саюза музычных дзеячаў, член прэзідыума праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў;



**Ірына Міхайлаўна ШУМІЛІНА** — заслужаная артыстка Беларусі, салістка Беларускай дзяржаўнай філармоніі, член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў;



**Галіна Мікалаеўна МІХЕЕВА** — канцэртмайстар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, член праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Беларускага саюза музычных дзеячаў;



**Генрых Якаўлевіч ГЕДЫЛЬТАР** — дацэнт, былы саліст Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, заснавальнік ансамбля флейтыстаў Нацыянальнага аркестра сімфанічнай і эстраднай музыкі Беларусі, ансамбля "Кантабіле".

# Шанц на жаноцкасць

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Неяк мы ўжо звярталі ўвагу на асаблівасці жаночых персанажаў беларускай прозы ("Традыцыі і сучаснасць", "ЛіМ", № 24, 2011 г.): ім практычна не ўласцівая эксцэнтрычнасць, экзальтаванасць, трагічная надламанасць. Што да еўрапейскай літаратуры, то галоўнае ў жанчыне-гераіні амаль для кожнага мужчыны-пісьменніка — гэта яе прывабнасць ці непрывабнасць.**

## Жанчына — заўсёды загадка?

Прывабнасць можа быць рознай — падманлівай, няўлоўнай і межаваць з непрывабнасцю. Еўрапейскія пісьменнікі звычайна фіксавалі прывабнасць-непрывабнасць нават для эпізадычных персанажаў. Беларускія ж аўтары (20-х, і не толькі, гадоў) далёка не заўсёды імкнуліся выявіць абаяльнасць сваіх гераінь. Большасць жанчын у беларускай прозе — гэта проста персанажы жаночага полу, цікавыя пісьменніку найперш у сацыяльным аспекце, а не нейкай там таямнічасцю і загадкавасцю. Зрэшты, катэгорыя прывабнасці ніколі не была для вяскоўцаў галоўнай. Адсюль і схематычныя апісанні жаночых персанажаў — узрост, матэрыяльнае становішча, вочы, валасы, узровень стомленасці. І ўжо паводле першага крытэрыю далёка не кожная гераіня магла спадзявацца на тое, што пісьменнік надзеліць яе абаяльнасцю.

Амаль па сёння пісьменнікі надзялялі прывабнасцю выключна дзявочыя вобразы: у беларускай культуры дзяўчына традыцыйна (згадаем фальклор) была стварэннем чыстым, светлым, узнёслым. І чым далей ад пары юнацтва, тым менш шанцаў на рамантызацыю. Тут немагчыма абмінуць вядомае апавяданне Кузьмы Чорнага "Вераснёвыя ночы", дзе пісьменнік нібы інстынктыўна адмаўляе сваёй гераіні, трыццацігадовай Агаце, у жаночай прывабнасці — выключна з-за яе ўжо недзявочага ўзросту. Аўтар зніжае вобраз кабеты шматлікімі натуралістычнымі дэталямі ("пачухала левы локаць", "у вялікі палец на назе ўкусіла восеньская муха", "выцірала кулакамі вочы і пэцкала зямлёю твар"), робіць млявасць, павольнасць, санлівасць Агаты сімптомамі таго няўлоўнага працэсу, вынікі якога канстатуюцца народным словам "аб*а*білася".

Што тут казаць пра маці дваццацігадовага камсамольца — саракагадовая кабета ўжо "старая" як для сына-юнака, так, зазвычай, і для пісьменніка. Для прыкладу можна згадаць маці Зосі з аповесці Змітрака Бядулі "Салавей". Сама дзяўчына — юная і гожая, чытач не дасць ёй больш як дваццаць гадоў, а ейная маці — гэта "зморшчаная, нізенькая бабулька" з "худымі вісячымі грудзямі" і "чорнымі, патрэсканымі і паколатымі нагамі". Пісьменнік нібыта "пераскочыў" праз пакаленне і замест маці намаляваў Зосіну бабулю. Не дзіўна для беларускай літаратуры і тое, што маці Зосі не мае ўласнага імя — паспрабуйце згадаць, як звалі маці Лабановіча, хоць і маладзейшую паводле апісання, але таксама абсалютна не надзеленую жаноцкасцю. О, як адрозніваюцца 30—40-гадовыя гераіні беларускіх класікаў ад гераінь таго ж узросту, створаных, напрыклад, Франсуазай Саган… І справа не толькі ў тым, што вясковае жыццё хутка старыць кабету, але і ў асаблівасцях мужчынска-сялянскага ўспрымання жанчыны, уласцівага большасці беларускіх пісьменнікаў.

## Бабішча Мар'я

Было б, аднак, некарэктна разважаць пра беларускіх гераінь у еўрапейскім кантэксце і пры гэтым ігнараваць вобразы вясковых жанчын, створаных у рускай літаратуры. Тым больш што менавіта 20 — 30-я гады былі ў гэтым сэнсе вельмі цікавым перыядам. Узвіхураная рэвалюцыяй Расія паўставала ў шматлікіх тагачасных творах як краіна рэзкіх кантрастаў, дзе вырваліся на волю дзікасць, бруд, грубасць і тупая сіла, увасабленнем якіх часцяком была расійская вёска. Барыс Пільняк (раман "Машына і ваўкі", аповесць "Маці сыра-зямля"), Леанід Лявонаў ("Незвычайныя апавяданні пра мужыкоў"), Ісак Бабель ("Конармія") выяўляюць альбо выключна некамфортную — як для беларускага чытача — вёску, альбо непрывабных, выродлівых яе прадстаўнікоў. І ў галерэю жаночых вобразаў, створаных за тры стагоддзі рускімі пісьменнікамі, дадаўся новы вобраз вясковай жанчыны — "баба", якая стала эстэтычным шокам альбо, у лепшым выпадку, дысгарманічнай з'явай, якую трэба неяк асэнсаваць.

"Баба" — гэта мажная, здаровая і моцная кабета з груба-натуралістычным стаўленнем да ўсяго фізіялагічнага, увасабленне духоўнай і інтэлектуальнай абмежаванасці, абсалютнай прыземленасці і нявытанчанасці. "Лицо бабицы Марьи было здесь, в избе, оно было очень довольно, дремучее, в лишаях бородавок, в склизлых морщинах, вспотело от самогона, губа на губу, глаза закрыты в спокойствии, из носа и изо рта сопли и слюни" — так абагульняе сваіх "баб" Барыс Пільняк. Побач з Някрасаўскай Дар'яй (паэма "Мароз, Чырвоны Нос") вясковая "баба" вартая адно дыягназу ЗПР. Калі беларускія сялянкі не надзеленыя асаблівым шармам, то рускія "бабы" зазвычай рэзка непрывабныя як сваёй знешнасцю, так і паводзінамі: "Прошла раз и Феклуша, хозяйская дочь: рожа рябая, ровно шилом исковыряна, рот до ушей, телёнка проглотнёт, уши торчком, спина корытом, шея тоненька, хоть перерви, верблюд — не девка" (Арцём Вясёлы), "…у Машухи губы как у зверя. Машуха спрыгнула проворно с печки, задрались юбки. — Машуха дышит тяжело, как лошадь, вывезшая в гору воз, и губы у Машухи теплы и мягки, как у лошади…" (Барыс Пільняк).

Наўрад ці беларускія сяляне значна адрозніваліся ад сялянства Расіі — аднак на ўсю нашу прозу будзе літаральна некалькі ўтрыраваных, гіпербалізаваных "баб". Бо калі для рускага пісьменніка "баба" — адзін з сацыяльных тыпаў, для беларускага пісьменніка вясковая кабета — галоўная іпастась беларускі. Вобразы сялянак, з аднаго боку, атрымліваліся ў нашых аўтараў нібыта больш "гладкімі", нейтральнымі, гуманістычнымі. З іншага боку, памкненне заплюшчыць вочы на грубасць, бруд, духоўную неразвітасць пазбаўляла магчымасці разгадаць адмысловы дух вёскі і спецыфічную індывідуальнасць вясковай жанчыны. Бо для Барыса Пільняка зрэшты цалкам магчыма, што "дремучая, покойная, страшноватая и прекрасная" Мар'я ўвасабляе сабой Расію (вось яна — прывабнасць у непрывабным), і гэтае супастаўленне правакуе чытача на значна больш глыбокую рэфлексію і эмоцыю, чым вобразы прыгнечаных безыменных беларускіх кабет.



*Сялянка з вёскі Лучнікі. Фота С. Юхніна. 1908 г.*

## Нібыта больш нейтральныя…

Здаецца, і сапраўды ў беларускай літаратуры няма гэткай грубай, выродлівай "бабішчы Мар'і". Але калі ўважліва ўчытацца, то высвятляецца, што рысы "бабішчы" выяўляюцца ў жаночых персанажаў, створаных самымі рознымі аўтарамі. Гартаем часопіс "Маладняк" № 7 за 1925 г. — апавяданне А. Вольнага "Два": "Нізавошта, а так проста сп'яна хватануў Пахом жонку паленам. Жонка жалобна завыла і пабегла з хаты. Моўчкі, без крыку, у хляве, без пары яна й радзіла Васіля. Ледзьве жывая прыпаўзла жонка Пахома да хаты і ў прыгоршні пасінеўшымі рукамі, каля змучанага, хворага сэрца, прыцягнула дзіцянё".

Здаецца, нічога тут не выклікае рэзкай агіды, але чаму кабета менавіта "вые" — не стогне, не плача, чаму "прыпаўзае", а не "прыходзіць", чаму нараджае дзіця "ў хляве", а не ля іншай якой гаспадарчай прыбудовы? Нешта жывёльнае адчуваецца ў паводзінах жанчыны — і, здаецца, можна было б не спыняцца на творы гэтага не надта вядомага аўтара, калі б не падобная сітуацыя ў апавяданні Змітрака Бядулі "Дэлегатка":

*"Як адрозніваюцца 30 — 40-гадовыя гераіні беларускіх класікаў ад гераінь таго ж узросту, створаных, напрыклад, Франсуазай Саган… І справа не толькі ў тым, што вясковае жыццё хутка старыць кабету, але і ў асаблівасцях мужчынска-сялянскага ўспрымання жанчыны, уласцівага большасці беларускіх пісьменнікаў.*

"Яўхім накінуўся на сваю жонку… Пачаў яе біць… Першы мо раз у сваім жыцці Аўгіня не вытрымала — падняла громкае галошанне-выццё. <…> У страшным выглядзе жонка вырвалася, выскачыла з хаты. <…> З прычытаннямі і плачам ішла яна па вуліцы, ішла, перавальваючыся з нагі на нагу, пакалечаная, вымазаная, у брудзе, у парваных вопратках".

Каб выклікаць спачуванне да кабеты, пісьменнік "зніжае" вобраз праз непрывабныя падрабязнасці: здаецца, бойка адбылася хутка, але Яўхім паспеў запэцкаць і парваць жончыну вопратку, пакалечыць Аўгіню. Першая рэакцыя на пабоі не словы дакору, а "галошанне-выццё", хаця ў адрозненні ад першай "нямой" сцэны (нібыта жонка Пахома ўвогуле не надзелена мовай), Аўгіня на вуліцы пачынае "прычытаць". Яшчэ адзін эпізод такога кшталту — з'яўленне першага жаночага персанажа ў рамане Кандрата Крапівы "Мядзведзічы":

"Праставалася, раструханая, у адной кашулі і саматканай спадніцы яна бяжыць, задыхаючыся, пасярод вуліцы, на якой яшчэ няма людзей. Пасмы яе цёмна-русых валасоў прыліпаюць да мокрага ад слёз твару. Яна падтрымлівае рукою цяжкія, налітыя малаком грудзі, якія перашкаджаюць ёй бегчы і вылузваюцца з расхлістанай пазухі. Яна раз-два ступіць, каб перадыхнуць, і потым зноў трушком, хліпаючы і задыхаючыся".

Жанчына бяжыць, каб паведаміць пра бяду: уночы ў яе скралі каня. Але няшчасце жанчыны "непрыгожае" — тут няма высокага трагізму, пісьменнік звяртае ўвагу на паспешлівасць, вымушаную неахайнасць і непрывабнасць кабеты.

Гора ў жаночым абліччы — гэта выццё, брудная вопратка, прыліплыя да твару валасы і "расхлістаная пазуха". Беларускія празаікі менавіта ў такіх, здавалася б, нязначных эпізодах, якія не трэба было доўга выпісваць, аўтаматычна выяўлялі не толькі рэальную сітуацыю на вёсцы, але і агульнае сялянскае ўспрыманне кабеты "спелага ўзросту", фактычна адмаўляючы ёй у жаноцкасці. Здаецца, беларускія гераіні-сялянкі абдзеленыя французскім шармам у той самай ступені, у якой і іх рэальныя прататыпы — але чаму менавіта такой была культурная сітуацыя на вёсцы?

*P. S. Рэдакцыя газеты "ЛіМ" прапануе вам падзяліцца сваімі меркаваннямі.*

***Фота прадастаўлена Нацыянальным гістарычным музеем Рэспублікі Беларусь.***

# Птушкі з міфалагічнага выраю

Любоў ЛУЦ

**Аляксей Ненадавец заўсёды вяртае свайго чытача ў далёкую мінуўшчыну, дапамагае адказаць на пытанні, якія часта ўзнікаюць у тых, хто імкнецца больш даведацца пра духоўны свет старадаўніх беларусаў. Новая манаграфія даследчыка, выдадзеная "Беларускай навукай", носіць сімвалічную назву — "Выявы міфалагічнага выраю".**

Здавалася б, гэтым разам аўтар разглядае вузкае кола дэманалагічных персанажаў. Іх усяго тры. Затое якія! Чорт, Баба-Яга і Вядзьмарка. А. Ненадавец паставіў перад сабою задачу паказаць адметнасць беларускіх дэманалагічных персанажаў. Ужо з першых старонак чытач зверне ўвагу на вялізную колькасць вусна-паэтычных матэрыялаў, выкарыстаных у манаграфіі, на ўсемагчымыя сведчанні і тэарэтычныя высновы вучоных. Часта даводзіцца чуць, маўляў, нічога новага ў гэтай тэме не адшукаеш, бо ўсё ўжо даўным-даўно "пералапачана" папярэднікамі. Але гэта гучыць непераканаўча, калі знаёмішся з манаграфіяй А. Ненадаўца. Распавядаючы, напрыклад, пра чорта (нячысціка), аўтар не толькі падае нейкія займальныя гісторыі, але вылучае тыя аспекты, якія ўвогуле не апісваліся ці былі "раскіданыя" па артыкулах і слоўніках. Тут жа яны сабраныя і прааналізаваныя настолькі грунтоўна, што можна гаварыць пра своеасаблівую паўнату фальклорных "партрэтаў". Вобраз чорта (нячысціка) асвятляецца пачынаючы з перыяду ранняга язычніцтва, тлумачыцца ягонае паходжанне, апісваецца знешні выгляд і нораў. А. Ненадавец вылучае адну найбольш істотную рысу, характэрную менавіта для дэманалагічнага персанажа беларускага фальклору — гэта ягоная "мяккасць" у адносінах да чалавека. Апошні назаўсёды перамагае ў барацьбе з нячысцікам, а калі за справу бярэцца жанчына, то чорт вымушаны ганебна ўцякаць!

Падкрэсліваецца тое, што вобраз чорта ў айчыннай вусна-паэтычнай творчасці не адміраў яшчэ нават у першай палове XX стагоддзя. Гэта лішні раз сцвярджала папулярнасць ніжэйшай дэманалагічнай істоты сярод вясковага насельніцтва. Не выключана, вобраз захаваўся ў свядомасці людзей таму, што нашы продкі не спяшаліся адмаўляцца ад усяго мінулага, няхай сабе і ў духоўным жыцці. Іншая справа, што адносіліся ўжо без той асаблівай палахлівасці і пашаны, якія існавалі раней, але і без вялікай долі сарказму.

Пацвярджаючы агульнавядомыя тэзісы, навуковец імкнецца па-свойму растлумачыць паходжанне найпапулярнейшага казачнага персанажа, які паланіў дзіцячыя фантазіі на працягу многіх стагоддзяў — Бабы-Ягі. Імя яе, паводле А. Ненадаўца, паходзіць ад старажытнаславянскага слова "ягла", "ягляціна" — "мерцвячына". Аўтар аналізуе матэрыялы, звязаныя з гэтым персанажам, спрабуе знайсці і падкрэсліць самабытнае, адметнае, характэрнае толькі для нашай духоўнай спадчыны. Напрыклад, згадваецца немалаважная акалічнасць — Баба-Яга ў беларускім фальклоры не толькі выступала супраць сумленных людзей, але нярэдка дапамагала ім у найскладанейшых сітуацыях. Гэта сведчанне таго, што нашы продкі ўмудраліся знайсці станоўчае нават у традыцыйна адмоўным персанажы. А. Ненадавец не забываецца сказаць колькі слоў і пра сам "вядзьмарскі" свет, пра ягоных насельнікаў і штукарствы. Аўтар слушна сцвярджае, што ва ўмовах жорсткага сацыяльнага ўціску нашы продкі свядома звярталі да казачнага алегарызму і гіпербалізацыі пэўных вобразаў, за якімі лёгка было заўважыць абагуленых прадстаўнікоў класа прыгнятальнікаў.

Наступны раздзел рэцэнзуемай кнігі звязаны з архетыпам вядзьмаркі. Прызвычаены да таго, што дабрабыт абавязкова будзе недаспадобы некаму з суседзяў ці аднавяскоўцаў, селянін імкнуўся аберагчы сваю гаспадарку, сям'ю, блізкіх і родных. Калі нешта здаралася не так, то ў гэтым падазравалі вядзьмарак. Многае з духоўнай спадчыны нашых продкаў, асабліва з яе найстаражытнейшых пластоў, глыбока не даследавана. Нешта закраналася, нешта асвятлялася ў сувязі з іншымі тэмамі і аспектамі, нешта свядома апускалася. У выніку атрымалася карціна з многімі невядомымі персанажамі і вобразамі міфалагічнага свету. Аднаўляць іх надзвычай цяжка, але неабходна, чым і займаецца вось ужо на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў Аляксей Ненадавец.

Людміла САЯНКОВА,
фота Кастуся Дробава

# Формула сумлення

**У жыцці шмат чаго ёсць важнага. Адной з такіх важных частак з'яўляецца памяць. Без памяці мы ніхто і нішто. Памяць — гэта і ёсць высновы жыцця. Калісьці Дзмітрый Сяргеевіч Ліхачоў адзначыў, што памяць ёсць ва ўсім: дрэвах, раслінах, камянях, вадзе… Па генетычнай памяці нам перадаецца код жыцця з усімі індывідуальнымі асаблівасцямі. Пры дапамозе памяці перадаецца вопыт, назапашваюцца навыкі, ствараюцца традыцыі. Толькі памяць парушае межы паміж мінулым, сённяшнім і будучым часам. Калі мінулае помніцца, то яно як быццам пераходзіць у сённяшні дзень, цягнецца нябачным ланцужком за кожным нашым крокам, нават прадугадваючы будучае.**



Грамадства, дзе памяць з'яўляецца маральнай велічынёй, бачыцца адразу. Гэта заўважаецца ў імёнах на клапатліва ахоўваемых старажытных магілках, у назвах вуліц, нават будынкаў. На сценах не проста вывешваюцца барэльефы з прозвішчамі знакамітых жыхароў, у галоўных залах абавязкова будуць партрэты тых, хто дапамагаў гэтаму будынку ажыць. Гэта і ёсць нязгасная чалавечая памяць. У Амерыцы мяне ўзрушыла традыцыя даваць імёны, прывабныя назвы студэнцкім аўдыторыям. У Гарвардзе, напрыклад, можна слухаць лекцыі ў Паўночнай альбо Веснавой аўдыторыі, пасяджэнні праводзіць у зале, названай імем знакамітага выкладчыка, зайсці ў музей славутага ўніверсітэта, які таксама носіць імя таго, хто яго заснаваў.

У нас, на жаль, такіх традыцый не было. Мы ўсе вучыліся ў пранумараваных аўдыторыях, не заўсёды ведаючы, хто вучыўся тут раней, якія традыцыі тут ёсць. Мы не маглі завітаць у музей факультэта, універсітэта, таму што іх проста не было. Мы не ведалі імёны тых выкладчыкаў, якія працавалі за многа год перад тым, як з'явіліся ў гэтых памяшканнях новыя пакаленні студэнтаў. Потым мы ўладкоўваліся на працу, не ведаючы, хто працаваў тут раней, дзякуючы чым намаганням існуе тая ці іншая ўстанова.

На факультэце журналістыкі, дарэчы, самым старэйшым на постсавецкай прасторы, зрабілі першыя крокі дзеля таго, каб памяць жыла, каб імёны тых, хто шмат зрабіў дзеля журналісцкай адукацыі, журналісцкай практыкі, журналісцкай навукі, былі занатаваны не толькі ў вучэбных дапаможніках, манаграфіях. Цяпер студэнты, седзячы ў аўдыторыі імя Рыгора Булацкага, будуць дакладна ведаць і пра аднаго з заснавальнікаў журналісцкай адукацыі ў краіне, і пра няўрымслівага дэкана, і пра баявога салдата Савецкай Арміі, які ў час Вялікай Айчыннай вайны са сваімі сябрамі на ўласныя грошы купіў самалёт, і пра яго незабыўныя спевы пад гармонік на студэнцкіх вечарынах. Завітаўшы ў аўдыторыю імя Барыса Стральцова, дазнаюцца пра аднаго з самых паважаных прафесараў факультэта, заснавальніка беларускай школы тэорыі журналістыкі, пра сур'ёзнага даследчыка з душой рамантыка, пра тонкага лірыка, які свой лірычны настрой адлюстраваў у шматлікіх абразках. Гэтыя імёны сталі амаль што легендамі не ў адным пакаленні студэнтаў.

Такіх імёнаў было нямала. І можна было б пасядзець ва ўтульнай Арыяднінай зале (у гонар інтэлігентнейшай Арыядны Іванаўны Апелінскай) ці пачытаць кніжкі дзе-небудзь у Клаўдзіным пакойчыку (многія выпускнікі памятаюць аднаго з самых адукаваных і культурных выкладчыкаў Клаўдзію Сяргееўну Стрэпетаву), задумацца над гістарычнай абумоўленасцю беларускай мовы ў майстэрні імя Аркадзя Наркевіча, з добрай усмешкай згадваючы ягоныя славутыя дзесяць сшыткаў, якія павінен быў адпісаць па беларускай мове кожны студэнт. А хто не памятае імклівую, з нейкай невычэрпнай крыніцай энергіі Ефрасінню Леанідаўну Бондараву! Студэнты за вочы называлі яе проста "баба Фрося". Нягледзячы на досыць суровы выгляд, яна з невераготнай увагай і пяшчотай ставілася да студэнтаў, якія падвізаліся на ніве "культурнай" журналістыкі. З імі магла да паўночы сядзець у зале кінатэатра альбо Дома кіно, магла за свой кошт адпраўляць на студэнцкія канферэнцыі, у сваёй кватэры накрываць стол з нагоды абароны дысертацыі сваёй вучаніцы. Яна адкрывала для многіх, хто быў родам з правінцыі, свет мастацтва, кіно. Гэта яна ладзіла незабыўныя сустрэчы з Васілём Быкавым, Святланай Алексіевіч, Янкам Брылём, Міхасём Стральцовым, Віктарам Туравым, Віктарам Дашуком, Анатолем Алаем. Гэта яна выпускала альманах студэнцкай літаратурна-мастацкай творчасці "Аўтограф", дзе можна сустрэць імя Адама Мальдзіса — студэнта 4 курса, Міхася Стральцова — студэнта 2 курса, Васіля Зуёнка — студэнта 3 курса і шмат-шмат іншых імёнаў, якія цяпер — гонар нацыянальнай культуры. Днямі адкрылася аўдыторыя імя заснавальніка беларускай школы кінакрытыкі, Заслужанага дзеяча навукі Беларусі, доктара філалагічных навук, прафесара Е. Л. Бондаравай.

Вось і будуць у факультэцкіх калідорах аўдыторыямі паглядаць адно на аднаго тыя, хто яшчэ нядаўна размаўлялі, спрачаліся, даказвалі, дыскутавалі, радаваліся, непакоіліся. Нам жа застаецца памяць пра іх. А памяць — гэта пераадоленне часу, смерці. Гэта сапраўдная маральная каштоўнасць, якая суадносіцца з сумленнем. Адзін з самых сумленных людзей XX стагоддзя так і сказаў: "Без памяці няма сумлення" (Д. Ліхачоў). Няма ўдзячнасці. Назвы аўдыторый — хай сабе і невялікая, але усё ж такі ўдзячнасць вучняў, якія засвоілі галоўныя ўрокі — павагі, веры і любові.

*На здымку: Ефрасіння Бондарава.*

Анатоль САБАЛЕЎСКІ

# Клапатлівая цёця Уладзя

**Да Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы, звярталіся не інакш, як "цёця Уладзя". У тым ліку людзі яе веку і нават старэйшыя, тым самым выказваючы сваю павагу і пашаноту. За вочы часам называлі Купаліхай, але найбольш — цёцяй Уладзяй. І ўсе разумелі, хто маецца на ўвазе.**

Упершыню я сустрэў яе ў 1955 г. у газеце "Літаратура і мастацтва", куды мяне, студэнта аддзялення журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, задаволіўшы просьбу, накіравалі на практыку.

Але спачатку пра абставіны.

Як цяпер, памятаю аднапавярховы драўляны дамок, у якім месцілася рэдакцыя. Такіх дамкоў побач было даволі многа, паміж імі віхлялі вузкія і крывыя вулачкі. Знаходзіліся пабудовы каля цяперашняй плошчы Незалежнасці і цягнуліся ўніз па сучасным праспекце. У правафланговай хаце ў цэнтры размяшчалася рэдакцыя "Літаратуры і мастацтва". Па левым баку невялічкага калідора была бібліятэка газеты з ціхмяным Алесем Махначом, які нядаўна перабраўся з Узды. Гэта пазней даведаюцца, што ён абаронца Брэсцкай крэпасці, герой. А тады за лепшае лічылася маўчаць, што ён і рабіў, — быў жа ў нямецкім палоне. На прычыны ў той час не зважалі.

За кароткім калідорам былі большы пакой (праз яго праходзілі ў свой кабінет галоўны рэдактар Павел Кавалёў і яго намеснік Алесь Бачыла), дзе працавалі невялікі штат выдання (загадчыкі аддзелаў: літаратуры — Янка Казека, мастацтва — Кастусь Губарэвіч, публіцыстыкі — Яўгенія Данская, карэспандэнт Зінаіда Бандарына). Кожны меў свой стол. Знайшоўся ён і для студэнта-практыканта.

Аднойчы ў гэты пакой зайшла прысадзістая, шыракаватая ў касці, але не грузная жанчына — цёця Уладзя. Ёй было ўжо за шэсцьдзясят, але яна не страціла жвавасці, маладой энергіі. Не пайшла ў начальніцкі кабінет, а села за вольны на той час стол Зінаіды Бандарынай, каб бачылі і чулі ўсе супрацоўнікі. А нагода візіту была такая. У горадзе адбылася імпрэза ў гонар Янкі Купалы. Вось газета "Мінская праўда" дала інфармацыю пра гэта, а ў "Літаратуры і мастацтве" такой інфармацыі не з'явілася. Наракала на замоўчванне з тым, каб надалей падобнае не здаралася.

Я пра сябе дзівіўся: творы ж Янкі Купалы шырока вывучаюцца ў школах і вышэйшых навучальных установах, друкуюцца і ставяцца на сцэне. Яго імя, што называецца, ва ўсіх на вуснах. Ёсць і музей, які арганізавала і ўзначальвала Уладзіслава Францаўна. І што б магла дадаць да ўсяго інфармацыя пра вечарыну? Але цёця Уладзя, бадай, з аднолькавай стараннасцю займалася і буйнымі справамі, і вось такімі дробнымі.

Крыху пазней, пасля першай сустрэчы, даведаўся з друку, што музей рыхтуе зборнік "Янка Купала ў беларускім мастацтве". Я да таго часу ўжо завяршыў манаграфічны нарыс пра акцёра Івана Шацілу, у якім, натуральна, цэнтральнае месца займала выкананне ім ролі Янкі Купалы ў спектаклі "Шчасце паэта". Гэты матэрыял акурат падыходзіў да зборніка, і я з ім накіраваўся ў музей, які тады месціўся ў падвальным памяшканні Дома Саюза пісьменнікаў па вуліцы Энгельса, насупраць будынка ЦК партыі. Якраз заспеў там цёцю Уладзю. Яна без лішніх роспытаў сказала: "Пачытайце".

Я прачытаў больш як дзесяцістаронкавы матэрыял, у якім цытаваў і вершы Янкі Купалы. Цёця Уладзя слухала ўважліва, нідзе не перапыняла. Пасля таго, як закончыў чытанне, папрасіла пакінуць матэрыял у яе. Думалася мне — справа вырашана.

Прайшоў час, кніга выйшла з друку. Майго артыкула там не было. Неяк сустрэўся з цёцяй Уладзяй, падалося, што яна адчувае сябе ніякавата. Але не стала нічога гаварыць, тлумачыць. Не пытаўся і я. На тым усё і скончылася.

Цяпер жа паспрабуем разабрацца. Укладальнікамі зборніка былі Алесь Есакоў і Уладзіслава Луцэвіч. Што да першага, то я з ім супрацоўнічаў, і ні ў якім разе ён не мог пайсці супраць волі цёці Уладзі. А вось рэдактарам зборніка быў Максім Лужанін, чалавек уладны, жорсткі, ганарысты, чым асабліва вылучаўся з літаратараў свайго пакалення, людзей, якія пражылі складаныя, цяжкія даваенныя і ваенныя гады і былі асабліва дэмакратычныя, добразычлівыя. Мне падавалася, што яны не так паважалі ці любілі Лужаніна, як пабойваліся.

Што да артыкула, то па ім пазней была падрыхтавана асобная радыёперадача, апублікаваны ён і ў маім зборніку крытыкі. І ўсё без праблем. А тады справа датычыла зусім не мяне, як і не акцёра Шацілы. Аўтарам п'есы "Шчасце паэта" быў Васіль Вітка. Не ведаю, калі і чым ён не дагадзіў М. Лужаніну, але той, на поўную моц скарыстоўваючы рэдактарскія правы, старанна сціраў яго імя і твор, і гэтага нельга не заўважыць, калі ўважліва чытаць зборнік "Янка Купала ў беларускім мастацтве", выдадзены ў 1958 г. Ды бог з усім гэтым. Як гаворыцца, не было б шчасця… Той цяпер ужо вельмі далёкі выпадак дазволіў мне не проста бліжэй пазнаёміцца з цёцяй Уладзяй, а нават пасябраваць. Мы сталі гарнуцца адно да аднаго. Ад цёці Уладзі я адчуваў мацярынскую ласку, набіраўся душэўнага спакою. Яна да ўсяго была — пра гэта, здаецца, нідзе не гаварылася — яшчэ і заўзятай тэатралкай.

Людзі з пісьменніцкага асяроддзя звычайна мала бывалі ў тэатры, як правіла, глядзелі толькі элітныя спектаклі, а таксама паводле п'ес беларускіх драматургаў. Цёця Уладзя глядзела, вядома, не ўсе пастаноўкі, але старалася пабачыць як мага больш. Знаходзіла магчымасць бываць на грамадскіх праглядах, прэм'ерах, ды і на шараговых спектаклях — для яе дзверы ў тэатры, бадай, заўсёды былі адчыненыя.

Апошні раз я сустрэўся з цёцяй Уладзяй позняй восенню 1959 года. Са сваёй Андрыеўшчыны кіраваўся па аспіранцкіх справах у Маскву. Па дарозе спыніўся ў Мінску. У Рускім тэатры была прэм'ера. На яе прыйшла і цёця Уладзя. Селі, як заўзвычай, поруч. Спектакль быў слабы, бяздарны. Я глядзеў яго па прафесійных абавязках да канца, дасядзела і цёця Уладзя.

З тэатра выйшлі разам. Яна скардзілася на сваё нездароўе. Пасадзіў у тралейбус. Развіталіся. Праз некалькі месяцаў да Масквы дайшла сумная вестка — цёці Уладзі не стала. Болем працяла сэрца. Але трымаецца і радасць. У асляпляльна яркіх промнях Янкі Купалы, — яго Уладзіслава Францаўна Луцэвіч называла "Яначка" ці "Мой Яначка", — якому аддавала ўсё жыццё, не блякне і яе імя, справы. І гэта выдатна.

# Палац. Мастак. Эпоха…

Алег АНАНЬЕЎ,
мастацтвазнаўца

**У Гомелі яшчэ напярэдадні майскага свята Перамогі адкрыўся пасля працяглай рэканструкцыі Палац культуры чыгуначнікаў, які захаваў свой статус культурнага асяродка горада. Узведзены ў далёкім 1918 годзе, гэты будынак заўжды ўражваў сваім размахам. Тут месціліся тэатральна-канцэртная зала, бібліятэка, кінатэатр, пакоі для заняткаў калектываў мастацкай самадзейнасці, гурткоў. Тут збіраліся таленавітыя творцы, настаўнікі. Музыку да пастановак Тэатра рабочай моладзі пісалі кампазітары Аляксей Туранкоў і Рыгор Пукст. Дзіцячым аркестрам і хорам са 170 чалавек кіравалі К. Карнілаў і Р. Пукст, танцавальным калектывам, створаным у 1936 годзе, — Аляксандр Рыбальчанка. (Дарэчы, народны артыст БССР, балетмайстар А. Рыбальчанка стварыў тут першы ў Беларусі ансамбль песні і танца, які ў 1960-м атрымаў званне "народны".) Прыемна, што адраджэнне актыўнай дзейнасці Палаца культуры яго сённяшні калектыў не ўяўляе без выставачных праектаў. Адным з першых стала персанальная выстаўка заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Барыса Звінагродскага (1896 — 1982).**



Гэты выдатны педагог шмат гадоў вёў выяўленчую студыю пры Палацы культуры чыгуначнікаў — яна дала пуцёўку ў жыццё многім мастакам. У гісторыі культуры Беларусі Барыс Фёдаравіч застаўся ў ліку стваральнікаў класічных для нацыянальнага мастацтва жывапісных работ. Яго імя ў шэрагу такіх майстроў пэндзля, як Акім Шаўчэнка, Віктар Казачэнка, Дзмітрый Алейнік, Валянцін Волкаў, Аркадзь Астаповіч, Леў Лейтман, Сяргей Каткоў, Канстанцін Касмачоў, Яўген Ціхановіч, Уладзімір Старчакоў ды інш.

Б. Звінагродскі нарадзіўся ў горадзе Артвіне Батумскай губерніі (Расія, цяпер — Турцыя). Вучыўся ў прыватных студыях Харкава ў І. Дзмітрыева і Я. Агафонава, у Маскве ў А. Келіна, потым — у адной з вядучых мастацкіх навучальных устаноў дарэвалюцыйнай Расіі — Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў А. Архіпава.

Падчас грамадзянскай вайны добраахвотнікам ваяваў у Чырвонай Арміі, з войскам трапіў у Беларусь. Пасля дэмабілізацыі з 1925 года жыў і працаваў у Гомелі, беручы актыўны ўдзел у мастацкіх выстаўках. На жаль, яго творы даваеннага часу не захаваліся... У перыяд Вялікай Айчыннай Б. Звінагродскі працаваў у франтавой газеце "Раздавім фашысцкую гадзіну", у агітбрыгадзе тэатра лялек. Пасля вызвалення Гомеля ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў актыўна ўключыўся ў творчую і грамадскую дзейнасць па адраджэнні мастацтва. Уступіў у Саюз мастакоў БССР. У сваёй творчасці працягваў традыцыі рускай пейзажнай школы: разам з яе лірычнасцю і адухоўленасцю атрымаў у спадчыну ад настаўнікаў і здатнасць да шырокіх абагульненняў.

Сёлета выстаўка прадставіла жывапісныя творы Б. Звінагродскага, у якіх ён як пейзажыст раскрыў багацце простых матываў беларускіх прастораў. Большасць карцін напісана з натуры. Майстэрства пленэру, святла і колеру непарыўна звязаныя для яго з вострым адчуваннем прыгажосці прыроды. "Ён пішa прыгажосць", — адзначаў у "ЛіМе" мастацтвазнаўца Аляксей Шнырпаркоў з нагоды 75-годдзя жывапісца.

А яшчэ Звінагродскага слушна называюць песняром Сожа. Ён стварыў вялікі цыкл твораў, у якіх увасобіў жыццё роднай ракі, паказаў яе чароўнасць і працоўныя будні. Пейзаж "Сож. Вялікая вада" ўвайшоў у скарбонку беларускага мастацтва. Барыс Фёдаравіч успамінаў, як працаваў над гэтай карцінай: "Я пісаў яе вясной 1953 года. Выбраў самае высокае месца — дах Палаца піянераў (Палац Румянцавых і Паскевічаў. — **А. А.**), што стаіць на высокім, абрывістым беразе Сожа. Адсюль адкрываўся выгляд, які па-сапраўднаму ўзрушваў уяўленне. Працавалася лёгка. Адзіны толькі клопат: як схапіць і перадаць сонечнае святло, як захаваць гэты магутны размах ракі, як напісаць паветра? Гэта адзін з любімых маіх твораў".

У створаных ім карцінах прыроды няма ўражлівых знешніх эфектаў. Асаблівай лірычнасцю, шчырасцю і любоўю мастака да роднай зямлі вабяць: "Змярканне на Прыпяці", "Мірнае неба", "Вясна Палесся", "Зелень. Май", "Уборка сена".

Звінагродскі — адзін з заснавальнікаў індустрыяльнага пейзажа. Гэты жанр стаў сімвалам савецкай эпохі. Але наш мастак падышоў да трактоўкі прамысловага асяроддзя адмыслова, убачыўшы ў гэтым эстэтычную каштоўнасць. Яскрава бачна дарэвалюцыйная класічная адукацыя аўтара, якая выгадавала ў ім унутраную культуру, інтэлігентнасць. Ён пазбягае залішне дакладных контураў новабудоўляў і графічнасці жалезабетонных канструкцый.

Яго пейзаж знітаваў традыцыі расійскага жывапісу і рамантыку сацыялістычнага рэалізму. Яго індустрыяльна-прыродная кампазіцыя ўспрымаецца не як рэпартаж з будоўлі, а як дынамічная прастора, што нараджае адчуванне бадзёрасці, энергіі і душэўнага ўздыму ("Аднаўленне шклозавода імя Сталіна", "Ля порта", "Брылёўскі сад вясной" і інш.). Глядач адчувае пульс стваральнай чалавечай працы, гармонію цывілізацыі і прыроды. Праз індустрыяльныя пейзажы мастак па-свойму асэнсоўваў стасункі чалавека і навакольнага асяроддзя ва ўмовах тэхнічнага прагрэсу.

Б. Звінагродскі быў галоўным мастаком Дзяржаўнага тэатра лялек БССР (1938 — 1941, 1944 — 1948), выкладаў у школах і тэхнікумах (1926 — 1937), выяўленчых студыях Гомеля (1948 — 1957). Яго творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у фондах Беларускага саюза мастакоў. У музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, бадай, самая значная калекцыя твораў, большасць якіх прадстаўлена на выстаўцы ў абноўленым Палацы культуры чыгуначнікаў.

Сваімі цёплымі ўспамінамі пра гэтага паважанага ўсімі майстра падзяліліся на яе адкрыцці выхаванцы Барыса Фёдаравіча — прадстаўнікі Беларускага саюза мастакоў: Валянцін Пакаташкін, Уладзімір Кароткі.

Хочацца, каб гэты вернісаж стаўся пачаткам панарамнага праекта, які аб'яднаў бы выстаўкі вучняў Барыса Звінагродскага. Бо кожны з іх — не проста непаўторны творчы свет, але і адмысловая старонка ў гісторыі беларускага мастацтва, у гісторыі Радзімы.

***На здымку: Барыс Звінагродскі "Сож ля суднарамонтнага завода".***

# Прыйсці да Несамотнага

**Рэспубліканская выстаўка жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладных работ "Я не самотны...", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння Максіма Багдановіча, разгарнулася ў сталічным Палацы мастацтва.**



Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота аўтара

Маленькі наіўны чалавечак усхапіўся што было раніцы і пачаў пільнаваць інфармацыйныя каналы. Яму здавалася, што дзявятага снежня ўсе падборкі навін пачнуцца з абвесткі пра самую галоўную падзею дня: краіна святкуе 120-годдзе Максіма Багдановіча! Ён чакаў паведамленне пра тое, як эліта беларускай моладзі, што акурат у той знамянальны дзень праводзіла свой вялікі сход, наведалася з кветкамі да помніка паэту: класіку, які ўвасобіў сумленне нацыі, назаўжды застаўшыся іх раўналеткам, — а потым завітала на тэматычную выстаўку выяўленчага мастацтва, прымеркаваную да юбілейнай нагоды... Пра Максіма Багдановіча і насамрэч успаміналі ды гаварылі па ўсіх каналах. Але, мабыць, не так, як хацелася маленькаму наіўнаму чалавечку, і ён зажурыўся. Бо не ведаў, нябога, што святкаванне юбілею паэта яшчэ працягваецца, прадоўжыцца і ў наступным годзе. Дый не разумеў, што да Багдановіча не ідуць арганізаваным строем. Прыйсці да Багдановіча — гэта цэлая філасофія, стан душы, стан свядомасці. А самі класікі да чалавека інтэлігентнага з'яўляюцца не праз шум вялікіх юбілеяў, а праз ціхае свята першай духоўнай сустрэчы. І застаюцца-жывуць у яго асобасным свеце назаўжды.

Да класікаў не ходзяць цугам... Да іх не патрапляюць спехам. Хоць нехта, дазнаўшыся пра чарговы юбілей, бяжыць да іх напрасткі, спяшаючыся спрычыніцца да Вялікага. Для каго іншага хвіліны самотнага роздуму збягаюцца ў гадзіны, з якіх складаюцца ночы і дні, а можа, і гады, пакуль аднойчы не ўзыдзе зорка натхнення — той духоўны пуцяводнік, які падкажа дарогу (ці раздарожжа) да неспазнанага свету генія.

Так або іначай, а многія з беларускіх мастакоў знайшлі свайго Багдановіча. У выстаўцы "Я не самотны..." узялі ўдзел больш як сто творцаў, прапанаваўшы для экспазіцыі і правераныя часам работы, і "прэм'еры", датаваныя 2011 годам.

У сумоўі колішняга і новага прадставілі вобразы свет паэта жывапісцы, раскрыўшы сваё візуальнае ўяўленне пра яго асобу, адчуванне яго вершаў, абагульненае ўспрыманне прызначэння творцы, рамантыка-філасофа, празорца, пакутніка. Зусім не малады, нядужы, але адухоўлены мудрэц, нібы алюзія на біблейскага прарока, — такім намаляваны Багдановіч на партрэце І. Ціханава (1992). Мастакі Р. Таболіч у карціне "М. Багдановіч. Мадонны" (2011) і В. Барабанцаў у вядомым палатне з трыпціха "На радзіме Максіма Багдановіча" ўвасабляюць хрэстаматыйную выяву паэта ў выразным дэкаратыўна-сімвалічным атачэнні. Манументальна і прытым даволі экспрэсіўна паказвае яго постаць, нібы акрыленую рухам "размытай" сімволікі рукатворных народных шэдэўраў, М. Апіёк ( "«І думкі імкнуцца...». Максім Багдановіч на выстаўцы слуцкіх паясоў у Вільні", 2001). Юным і жыццелюбівым, як героі прыгожай казкі, зачараваны сваёй залатавалосай спадарожніцай, падаецца Максім у жывапіснай кампазіцыі А. Аракчэевай "Ціха па мяккай траве сінявокая ноч прахадзіла..." (2011). Паэтычныя алюзіі відавочныя і ў работах Р. Сіплевіч ("Таямніца сіняй валошкі"), В. Мікіты ("Легенда возера"), А. Назаранкі ("Ноч"), А. Панцюка-Жукоўскага (нацюрморт "Вянок паэта"). І ў элітарна вытанчаным "Зімовым вобразе" (палатно, акрыл, 2011) А. Хацкевіча: тут бачыш не традыцыйную тэхналогію жывапісу, а магію жывога пісьма — нібыта з-пад паверхні напятага палатна, праз аголеную фактуру тканіны дзівосным чынам праступаюць фарбы. Белыя ствалы бяроз. Белыя, пухнатыя, лятучыя шматкі свежага снегу. А праз манахромны пейзаж спакваля вылучыш тонкія цёмныя лініі, якія складаюцца ў знаёмыя рысы паэта...



Суровая абагульненая сімволіка, пэўна, сілкавала натхненне У. Савіча (кардон "Пластуе век зацята дні", 2009), У. Сулкоўскага ("Памяць", 2009), У. Пракапцова ("Самотнасць", 2011), а таксама — сонечны ўзлёт жывапіснага дару А. Квяткоўскага, чыя асляпляльна-зіхоткая жоўтая акрылавая "Планета паэтаў" (2009), дзе атабарыўся ледзь заўважны задуменны рамантык і пад бокам якой, нібы рахманы Пегас, адпачывае ровар, не страціла сваёй жыццядайнай энергіі ды аптымістычнага святла.

***На здымках: Аксана Аракчэева "Ціха па мяккай траве сінявокая ноч прахадзіла..." (палатно, алей, 2011); Станіслаў Сугінтас "Успаміны дзяцінства" (палатно, алей, 2011).***

Яўген ШУНЕЙКА,
мастацтвазнаўца,
фота Святланы Берасцень

# «Пяцідзясятнікі»

**Прафесар Яўген Шунейка працягвае даследаваць і аналізаваць творчасць сваіх раўналеткаў — пакалення “пяцідзясятнікаў”. А кажучы дакладней — тых мастакоў, што нарадзіліся ў 1950-х.**

Нашы суайчыннікі — сапраўды “залаты фонд” для мастацкіх вобразаў у жывапісе, графіцы, скульптуры. Можа, гэта цяжка зразумець сучаснай моладзі, якая ўсіх нас яшчэ легкадумна ўспрымае “кансерватыўнымі продкамі”. Але мастаку ў сталым узросце не можа не бачыцца вартасць стварэння нацыянальнай галерэі прадстаўнікоў розных пакаленняў, якія перажылі мінулае стагоддзе. Яны маюць унікальны чалавечы вопыт і досвед. За іх плячыма неадназначнае савецкае мінулае, якое заклала ў псіхалогію як вельмі станоўчыя, так і негатыўныя адметнасці (цярплівасць, спагадлівасць, уменне мужна пераадольваць самыя жудасныя ўмовы, цяга да калектывізму, нецярпімасць да ваенных злачынстваў, а таксама атавізмы нацыянальнага нігілізму, алкагалізму, бязбожніцтва і да т.п.). Ёсць дзе разгарнуцца з вельмі кантраснымі мастацкімі характарыстыкамі, пра што, пэўна, марыў бы нават вялікі Рэмбрант.

Добры пачатак у гэтай тэматыцы паклалі У. Савіч, В. Альшэўскі, У. Зінкевіч, стварыўшы для музейнага комплексу горада над Сожам, былога палаца Румянцавых і Паскевічаў, па некалькі прадстаўнічых партрэтаў славутых людзей Гомельшчыны. Але на гэтым пакуль пастаўлена кропка. Гады пралятаюць хутка, і неабходна замацаваць і павялічыць такія здабыткі, бо адзін новы партрэтны твор годнай асобы варты значна болей за цэлую чараду саладжавых абразікаў з млоснымі тварыкамі топ-дзяўчынак ці з эксклюзіўна-эратычнымі летуценніцамі.

Для дасягнення значных мэт не хапае цяперашнім патэнцыяльным лідарам паслядоўнасці, “грашаць” яны і на аднабаковае адлюстраванне абранай праблематыкі, асабістай недаацэнкай таго, у чым яны непараўнальна моцныя творцы.

У. Вішнеўскі — сапраўдны маэстра малюнка пяром. Але на выстаўках ён прэзентуе чамусьці толькі свае кампазіцыі ў “змяшаных тэхніках”, а выключныя перліны яго мануальнай графікі трэба доўга шукаць на старонках малатыражнага выдання “Наша Вера”. Выключна вобразныя гарадскія скульптуры сучасных “Незнаёмак” стварыў У. Жбанаў. У гэтым напрамку — яго творчая магістральная дарога да ўслаўлення жаночага хараства. Няўжо яму так неабходна пры гэтым займацца яшчэ выкананнем з бронзы парадыйных “піратаў Карыбскага мора” і да т. п.?

В. Ціханаў, захапіўшыся нечакана ў 1990-х гадах акрылавымі магчымасцямі пейзажнага “дывізіянізму”, раптам патрапіў на няходжаную творчую сцяжыну, якая вывела яго на актуальную і драматычную тэму пакінутых вёсак. Аднак пасля ўдалай прэзентацыі фільма і выстаўкі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, якія адразу ўзнімаюць грамадскую ролю мастака ў асэнсаванні “шнараў” і “страт” на ўлонні роднай зямлі, ізноў прытуліўся да добра адпрацаваных вясёлкавых краявідаў. Адказная ж тэма пакуль што чакае яго вяртання... або будзе падхоплена новым, больш паслядоўным лідарам.

А. Смаляк не без рацыі лічыць сябе вядучым мастаком сацарту. Але гэты кірунак ужо належыць гісторыі пераломнага перабудовачнага “імгнення”. Больш перспектыўным для няўрымслівага жывапісца можа быць канцэнтрацыя на тэатральнай тэматыцы, нават на закуліссі, бо тут у мастака ўжо ёсць відавочныя поспехі. Хіба парадаксальная ідэя-мара стаць новым “мінскім Латрэкам” не мае права на існаванне?

У. Пракапцоў таксама пачынае інтрыгаваць сваёй небанальнай фантазіяй. Ён вельмі высока узняўся са сваёй уяўнай Музай і прысеў навят на рог месяца. Толькі каб хапіла зухаватасці ў салідным узросце і надалей лунаць у жывапісных аблоках!

У. Кожух — вельмі адметная постаць сярод беларускіх жывапісцаў. Ужо з часоў вучобы ў Мінскім мастацкім вучылішчы пры канцы 1960-х гадоў ён зарэкамендаваў сябе як мастак сацыяльна абвостранай праблематыкі. Яго курсавая кампазіцыя “Допыт алжырскага барацьбіта на электрычным крэсле” — нібы водгук-прадчуванне сучасных падзей на арабскім Усходзе. Пасля завяршэння вучобы ў БДТМІ У. Кожух не спыняўся ў памкненні быць адкрывальнікам вясковай архаікі, працавітасці, шчырасці. Толькі пасля ўдзелу ў Першым міжнародным Шагалаўскім пленэры (1994 год) яго неяк празмерна захапілі вобразы кволых і бледнаскурых жаночых зданяў, якія ўспрымаюцца не больш як другасныя рэмінісцэнцыі колішняга мадэрну. А ў выдатнага творцы значна больш патэнцыял, і яму неабходна як мага хутчэй вызваляцца ад штучных самаабмежаванняў.

Ёсць магчымасць па-новаму праявіцца і іншым майстрам сваёй упадабанай тэматыкі. Больш як 20 гадоў мінула з таго часу, як Ф. Янушкевіч стварыў свой удалы дыпломны трыпціх, прысвечаны К. Каліноўскаму. Не агледзімся, як будзем святкаваць неўзабаве 150-годдзе вызваленчага паўстання. Магчыма, што мастак, атабарыўшыся ў родным Ракаве за сапраўднымі “крапаснымі мурамі” разбудаванай уласнай сядзібы, у мястэчковай цішыні рыхтуе з гэтае нагоды нешта новае і жывапісна-маштабнае.

А. Ксяндзоў, наадварот, майстар камернай, інтымнай скіраванасці. Ён першы на хвалі перабудовы аднавіў жанр “ню” ў чыстым яго выглядзе пасля доўгатэрміновай забаронenасці-закамуфляванасці ў савецкім жывапісе. Спачатку быў перлінава-серабрысты перыяд “ксяндзоўскіх” мадэляў, затым — вогненна-тэракотавы. Ці дачакаемся, нарэшце, наступнага, больш прасветленага?

Пасля таго, як у сталічным Палацы мастацтва ў выніку абнаўлення інтэр’ераў былі ўдала аголены функцыянальныя канструкцыі, што падтрымліваюць агромністы дах, для мастакоў і дызайнераў, якія працуюць з прасторавымі аб’ектамі, узніклі дадатковыя магчымасці для зручнай падвескі такіх кампазіцый у галоўнай нашай выставачнай зале. Для П. Бондара, як ніколі раней, надараецца магчымасць паказаць свае вельмі адмысловыя тэкстыльныя эксперыменты, што ўжо даўно пыляцца ў майстэрні і вымагаюць менавіта вось такой далекасяжнай прасторавай кампаноўкі.

Нарэшце, колькі крытычных заўваг пра сёлетнюю нашумелую выстаўку В. Касцючэнкі “Знак вады”, якая неяк не зусім адназначна перагукаецца з назвай вядомага быкаўскага твора “Знак бяды”. Жывапісец як рэдка хто з еўрапейскіх мастакоў валодае фавістычна-мажорнай палітрай, нешараговай стылізацыяй выяўленчых формаў. Гэта — вялікі здабытак мастака-эксперыментатара. Але немагчыма зводзіць ідэю выстаўкі толькі да наталення смагі, вымалёўваючы пры гэтым амаль арэолы святых над галовамі аматараў крынічнай вады з кубкамі ды піяламі. Комплекснае вырашэнне сучаснага артпраекта вымагае і пастаноўкі больш праблемных пытанняў. Напрыклад, **што** гэтак хутка забруджвае ва ўмовах сучаснай цывілізацыі чысціню гэтай першакрыніцы і першаасновы жыцця?

Як бачым, у творчасці актыўнай грамады “пяцідзясятнікаў” ёсць шэраг праблем, якія з іх досведам і здольнасцямі зусім рэальна вырашыць у самы хуткі тэрмін. Бо ўзрост, самі разумееце, не дазваляе адкладаць важныя справы на неакрэсленую будучыню. Сучасная творчая моладзь можа яшчэ крыху “падурэць”, прадэманстраваць сваю незалежнасць ад “акадэмічных каранёў” і да т.п. А сталым і адказным майстрам не да твару такая штучная “інфантылізацыя”. Для іх, у цэлым, характэрным з’яўляецца адчуванне сябе блізкімі калегамі-прадстаўнікамі адной мастацкай школы, дзе кожны мае свой адметны досвед, стыль і творчы метад. У прафесійнай згуртаванасці яны на многае здатныя. Толькі вось прыспеў час перажыць “другую маладосць”, разгарнуць больш актыўную творчую дзейнасць, адхіліўшы ўбок усё другаснае, выпадковае, надуманае. Бо толькі гэтак можна канчаткова сцвердзіць свае індывідуальныя мастакоўскія здабыткі, звязаныя з самымі значнымі, эпахальнымі падзеямі мінулага трыццацігоддзя і з вобразным бачаннем новых перспектыў прагрэсіўнага развіцця нашай краіны і свету.



***На здымку: Павел Лук “Пане Каханку. Караль Станіслаў Радзівіл” (бронза, 2000) і графічны аркуш Рыгора Сітніцы з серыі “Замак” (папера, алоўак, 1997).***

Раіса МАРЧУК,
фота аўтара

# Натхняе Лагойшчына

**Ужо некалькі гадоў сталічная мастачка Эвеліна Мірская больш бывае не ў Мінску, а ў вёсцы Кроква, што на Лагойшчыне. І яе творчасць адлюстроўвае тое, што яна бачыць і назірае кожны дзень. Перш за ўсё гэта мясцовыя краявіды — чароўныя і шчымлівыя, звонкія і тужлівыя. А нядаўна ў Лагойскім гісторыка-краязнаўчым музеі імя Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў ладзілася персанальная выстаўка мастачкі “Беларускі пейзаж”.**

Мастакоў Уладзіміра Гоманава і Андрэя Мірскага Эвеліна лічыць настаўнікамі, якія дапамаглі ёй зрабіць першыя сур’ёзныя крокі ў творчасці, вызначыцца з прыярытэтамі. Гэта былі не толькі творчыя зносіны, вучоба, але і дапамога ў разуменні жыцця праз прызму мастацтва: што ты робіш і дзеля чаго гэтым займаешся? Якія задачы перад сабою ставіш?



“Цяпер я рыхтую новую серыю работ, — распавяла мастачка. — Гэта не зусім новы кірунак, а адгаліnаванне ад пейзажнай тэмы. Мне падабаецца жывая арганічнасць вёскі і ўсё, што звязана з побытавымі рэчамі тутэйшых насельнікаў: старымі драбінамі, з неардынарна складзенымі дрывотнямі, свойскай жывёлай…”

Эвеліна вельмі любіць зямлю, на якой жыве. Можа бясконца ўзірацца ў кожны яе куточак. Здараецца, хтосьці іншым разам выкажа незадавальненне тым, што не заўсёды да нашых вёсачак даедзеш па добрай дарозе, але ёй падабаецца, што існуюць месцы, дзе жыццё цячэ павольна, традыцыйна, неяк патрыярхальна. У гэтым, зразумела, ёсць свае плюсы і мінусы. Але плюсаў мастачка бачыць больш, бо дзе яшчэ ў цэнтры Еўропы знойдзеш такую аўтэнтыку, такую не кранутую часам прыгажосць?

“Сама прырода, невялікія старыя масткі, дзівосныя куточкі, куды рэдка зазірне чалавек, сам лад жыцця вяскоўцаў настолькі радуюць маё вока, што з захапленнем стараюся перанесці ўсё гэта на палатно, — прызнаецца Эвеліна. — Некаторыя сучасныя беларускія мастакі любяць гаварыць, што беларускі краявід халодны. Я ж з гэтым сцвярджэннем не згодная, бо, на мой погляд, наш традыцыйны краявід — жывы, цёплы і вельмі крынальны”.

А на пытанне, што для яе, як для мастачкі самае важнае, адказвае: “Мае пазітыўныя адносіны да жыцця і да людзей, да таго, што раблю. Мяне, як і многіх творцаў, хваліць: а што застанецца пасля мяне?”

Планы ж у мастачкі грандыёзныя. Займаецца рэканструкцыяй сваёй хаты. Марыць стварыць сядзібу ў кантры-стылі, прытым абавязкова са страхой з трыснягу. Мяркуе захаваць для нашчадкаў амаль рарытэтныя побытавыя рэчы вяскоўцаў. Прынамсі, мае ўжо неблагую калекцыю. І ў выніку плануе зрабіць не проста дом для адпачынку і творчасці, а дом-галерэю. А яшчэ гэтая няўрымслівая жанчына займаецца пакрысе агратурызмам.

Ёсць у Эвеліны Мірскай задумка: ладзіць у тутэйшых мясцінах фестывалі беларускага жывапісу. І лічыць, што гэта цалкам магчыма. “Сёння Лагойск — вядомы нават па-за межамі Беларусі турыстычны цэнтр, — разважае яна. — Было б цікава, каб горад развіваўся яшчэ і як культурны цэнтр. Многія творцы менавіта тут пісалі свае карціны і чэрпалі натхненне. Сапраўды, чаму б і не?”

Мастак, уладальніца інтэлектуальнай і побытавай уласнасці, гаспадыня аграсядзібы — усё гэта Эвеліна Мірская.

***На здымку: работа Эвеліны Мірскай “Зімовыя стажкі”.***

**Прыгажосць беларускай прыроды заўсёды прыцягвала Пятра Глебку, які нарадзіўся на Уздзеншчыне ў вёсцы з адмысловай назвай — Вялікая Вуса. Тут ён жыве і сёння.**
**Яшчэ ў дзяцінстве марыў прысвяціць сваё жыццё мастацтву, творчасці. Пасля заканчэння школы вучыўся завочна ў Маскоўскім народным універсітэце на аддзяленні станковага жывапісу, захапляўся кіна- і фотасправай, разьбой па дрэве — гэта неяк незаўважна прыйшло.**



# Ведаюць майстра і без рэкламы

**Вера ЛУКАШЭВІЧ,**
**фота аўтара**

— Калі працаваў у раённым Доме культуры, мне даручылі вырабіць герб — з пастаўленай задачай справіўся, — прыгадвае Пётр Мікалаевіч. — Пасля мне давялося ўдзельнічаць у рэспубліканскім семінары-практыкуме па разьбе па дрэве. Усе, хто прыехаў тады ў Гродна, мелі спецыяльныя дыпламаты з наборамі неабходных інструментаў. Я ж захапіў толькі разцы, аднак не разгубіўся. Нам далі заданне: стварыць на працягу месяца кампазіцыю з дрэва. Справіўся са сваёй работай за сем дзён. Гэта была скульптура па матывах твораў Якуба Коласа. Цяпер яна знаходзіцца ў нашым уздзенскім музеі. А тады нават не хацеў забіраць яе дадому, бо не надаваў гэтаму рамяству належнага значэння. З гадамі стаў займацца разьбой сур'ёзна, і цяпер яна для мяне самая любімая справа.

Майстар не патрабуе рэкламы. Пра яго залатыя рукі ведаюць па ўсёй акрузе. Калі трэба аформіць парк, сквер, звяртаюцца менавіта да Пятра Глебкі. Асабліва ўдаецца яму паркавая і ансамблевая драўляная скульптура. З густам зроблены кампазіцыі "Адвечная песня Купалы", "Мой родны кут", "Ля абеліска", "Вяртанне да вытокаў"… Гэтыя работы выкананыя па матывах беларускіх легенд, казак, вясёлых народных жартаў. Змест жа кампазіцый падказвае само жыццё, багатая беларуская прырода, вясковыя людзі.

Разьба Пятра Глебкі мае энергічны характар. Для работы ён выкарыстоўвае пераважна дубовую драўніну, час ад часу звяртаецца да ліпы, хвоі, карэльскай бярозы. Падыходзіць да сваіх твораў вельмі адказна, бо за такімі вырабамі трэба вельмі пільна сачыць, своечасова рэстаўрыраваць, абнаўляць, тады яны доўга будуць радаваць людзей.

Работы Пятра Мікалаевіча неаднаразова былі прадстаўлены на раённых, абласных выстаўках, на ВДНГ у Маскве, за мяжой. У 1997 годзе ў конкурсе "Фотаобраз", які праводзіла газета "Рэспубліка", Пётр Глебка атрымаў дыплом II ступені. Скульптурная кампазіцыя "Адвечная песня Купалы" выклікала ўсеагульнае захапленне на абласной выстаўцы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, дзе майстар быў узнагароджаны дыпломам I ступені, а яго работа засталася ў фондах музея абласнога цэнтра народнай творчасці.

Пётр Глебка, мастак і дызайнер, займаецца і афармленнем сваёй сядзібы. На яго падворку можна ўбачыць цудоўную драўляную лазню, невялікае штучнае возера, упрыгожанае непаўторнымі фігурамі з жывых дрэў, кашлатыя елкі, пад якімі "расце" дружная сямейка драўляных баравікоў… Усюды адчуваецца рука сапраўднага гаспадара.

***На здымку: Пятру Глебку падабаецца "сядзець у цэбры".***

Вернісаж

# Замест пэндзля — іголка

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

**Выстаўка вышытых карцін членаў сталічнага клуба "Сузор'е" прайшла ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь.**
**Хто змог патрапіць на незвычайны вернісаж, упэўніўся: гэта сапраўды творы мастацтва.**
**Прынамсі, неабазнаны чалавек адразу і не зразумее, у якой тэхніцы і якім чынам яны створаны. Многія здзіўляліся, даведаўшыся, што прадстаўленыя палотны не напісаны пэндзлем, а вышыты ніткамі.**



У нашых продкаў было прынята, што дзяўчаты самі рыхтавалі сабе пасаг: ткалі ручнікі і коўдры, шылі сукенкі і спадніцы, вышывалі абрусы і сарочкі. І чым багацейшым выглядаў куфар, тым больш славілася нявеста. Прайшлі часы, але адзін з самых старажытных відаў мастацтва — вышыўка — не згінуў, а, наадварот, набыў новае дыханне, і цяпер гэтае рукадзелле карыстаецца вялікай папулярнасцю. Вышываюць і вясковыя жанчыны, і гараджанкі, прытым з вялікай ахвотай. Майстрыхі ствараюць свае палотны ў розных тэхніках: крыж, паўкрыж, габеленавае шво, ручная гладзь, машынная мастацкая гладзь. Калі на палатне з'яўляецца малюнак, нараджаецца сучасны твор мастацтва, нават пры ўмове, што карціна выканана па ўжо гатовай схеме.

— На шчасце, гэты від мастацтва — жывы і жыве, — зазначыла кіраўнік клуба "Сузор'е" Наталля Сак. — І мы вельмі рады, што выстаўка карцін нашых майстрых адбылася ў цэнтры горада, у гістарычным музеі, таму што ладзіць тут экспазіцыю — вельмі ганарова. Клуб аб'ядноўвае 15 жанчын. Усе мы вельмі розныя, але збліжае нас агульнае хобі — творчасць. Хаця некаторыя лічаць, што ў вышыўцы няма нічога асаблівага: крыжык да крыжыка — і атрымаецца карцінка.

Што можна адлюстраваць з дапамогаю іголкі і нітак? Вышывальшчыцы сцвярджаюць: праз маленькае вушка іголкі іншы раз можна разгледзець цэлы сусвет. Вышытыя карціны ствараюць у доме ці офісе атмасферу ўтульнасці, спакою, цяпла.

— Усе нашы майстрыхі шмат працуюць і на рабоце, і дома, — распавяла далей Наталля Аляксееўна. — Але ведаю па сабе: калі бярэш у рукі іголку, то адпачываеш і атрымліваеш вялікую асалоду ад творчасці. Неяк у мяне запыталіся: калі вы гэтым займаецеся? З пяці да сямі раніцы, бо вечарам іншыя турботы. У той жа час мы шчаслівыя ад таго, што нашы творы выстаўляюцца, прыносяць радасць тым, хто на іх глядзіць. Кажуць, вышывальшчыцы бачаць свет крыху па-іншаму. Але мне здаецца, што і той, хто проста глядзіць на іх работы, таксама ўспрымае ўсё інакш. Цяпло і радасць, якія мы ўкладваем у свае карціны, людзі, безумоўна, адчуваюць.

Клуб "Сузор'е" правёў ужо больш як дзясятак выставак не толькі ў Мінску, але і па-за яго межамі. Карціны вышывальшчыц вабяць тонкім майстэрствам, абуджаюць лепшыя пачуцці, даюць прастор для фантазіі. А хтосьці абавязкова возьме ў рукі іголку, каб стварыць уласны свет прыгажосці.

***На здымку: аўтарская распрацоўка Святланы Аляксеевай "Восень" (мастацкая машынная гладзь).***

Афарызм

*Лепей няверныя перакананні, чым зусім без іх.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

З глыбінкі

## Сцежкамі Максіма Багдановіча

Удзельнікі народнага літаратурна-мастацкага аб'яднання "Рунь" Валожынскага раённага цэнтра культуры выразшылі адзначыць юбілей Максіма Багдановіча, прайшоўшы тымі сцежкамі, па якіх хадзіў слынны паэт. Тым больш што Ракуцёўшчына, дзе ён у 1911 годзе жыў і творча працаваў на працягу двух месяцаў, знаходзіцца ў суседнім Маладзечанскім раёне.

Група дарослых рунеўцаў і школьнікаў здзейсніла пазнавальную экскурсію ў філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына". Найперш наведаліся на пагорак, дзе пра тое, што ў гэтых мясцінах бываў паэт, нагадваюць два камяні: "свечка" і "кніга". Тут надзвычай цікава распавёў пра маладога класіка захоплены краязнаўца, пісьменнік, метадыст Маладзечанскай бібліятэкі імя М. Багдановіча Міхась Казлоўскі.

У філіяле Літаратурнага музея Максіма Багдановіча экскурсанты з хваляваннем пераступілі парог невялічкага гасцявога доміка і гаспадарскага дома арандатара, пазнаёміліся з умовамі, блізкімі да тых, у якіх жыў і тварыў паэт. Пабывалі ля крынічкі, дзе любіў адпачываць Максім Багдановіч.

Экскурсія па ракуцёўскіх сцежках Максіма Багдановіча, пачутыя ў гэты дзень новыя факты з яго жыцця ўсхвалявалі ўдзельнікаў літаратурна-мастацкага аб'яднання і абудзілі іх натхненне.

**Валянціна ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ,**
**г. Валожын**

## Руплівец беларушчыны

Пачатак снежня адзначаны важнай падзеяй у жыцці літаратурнай грамадскасці Івацэвіцкага раёна. У чытальнай зале Цэнтральнай бібліятэкі імя П. Пестрака адбылася творчая сустрэча з пісьменнікам і краязнаўцам Алесем Зайкам.

Усё жыццё і дзейнасць Алеся Зайкі звязана з вёскай Заполле Івацэвіцкага раёна. Тут ён нарадзіўся і жыве, доўгія гады настаўнічаў у мясцовай школе. За гэтыя гады сабраны ўнікальны краязнаўчы архіў, створаны этнаграфічны школьны музей. Шмат намаганняў прыклаў Алесь Фаміч і для стварэння музея Тадэвуша Касцюшкі на Марачоўшчыне. За гэтую працу ён быў узнагароджаны імянным гадзіннікам з выявай Касцюшкі. Дарэчы, у Беларусі такіх гадзіннікаў толькі шэсць.

У гэтым годзе выдадзены дзве кнігі нашага земляка — зборнік лірычных замалёвак "Дым з коміна" і "Дыялектны слоўнік Косаўшчыны". Падчас сустрэчы з пісьменнікам адбылася прэзентацыя гэтых кніг. Цікава распавядаў пра свае стасункі з Алесем Фамічом яго даўні прыхільнік і аднадумец Валерый Гапееў. Наогул, Алесь Зайка ўмее сябраваць. Яшчэ са школьных гадоў дружыць сябруецца з Алесем Разанавым, які натхняе яго на новыя творчыя праекты. Цяпер рыхтуецца фотавыстаўка Алеся Зайкі ў мясцовым краязнаўчым музеі, назвы да некаторых фотаздымкаў падарыў знакаміты паэт.

**Марына РЭХВА,**
**г. Івацэвічы**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 2826
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 15.12.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5966
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12